# 22 КРОКІ ДА СТРАТЭГІІ

## ЗАБЕСПЯЧЭННЯ РОЎНЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ З ІНВАЛІДНАСЦЮ Ў МЯСЦОВЫХ СУПОЛЬНАСЦЯХ

# 22 крокі

## да стратэгіі

### забеспячэння роўных магчымасцяў для людзей з інваліднасцю ў мясцовых супольнасцях

Варшава
TUS Foundation
2016

УДК 364.29
ББК 60.9
Д22

Выданне падрыхтавана
пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза.

Укладальнікі:
*Петр Тодыс*, *Малгажата Перацятковіч*.

Пераклад з польскай мовы:
*Марыя Луцэвіч-Напалкава.*

*Пераклад зроблены пад рэдакцыяй*
*АПУ "Офіс па правах людзей з інваліднасцю"*

Д22 **22 крокі да стратэгіі забеспячэння роўных магчымасцяў для людзей з інваліднасцю ў мясцовых супольнасцях** / укл. П. Тодыс, М Перацятковіч. — Варшава, 2016. — 128 с.
ISBN 978-83-62562-02-2.

У выданні апісана тэхналогія распрацоўкі і рэалізацыі агенд («дарожных карт») па ўкараненні міжнародных стандартаў па правах людзей з інваліднасцю на ўзроўні мясцовых супольнасцяў, змяшчаны як мэты і стратэгіі мясцовых агенд, так і канкрэтныя інструменты ўзаемадзеяння для іх рэалізацыі з мэтай дасягнення роўнасці, павагі і рэалізацыі правоў чалавека для людзей з інваліднасцю. У дапаможніку прадстаўлены польскі вопыт рэалізацыі канцэпцыі распрацоўкі мясцовых агенд.

Дапаможнік мае практычную каштоўнасць для прадстаўнікоў як мясцовых органаў улады, так і нацыянальных, сацыяльных, адукацыйных, медыцынскіх і культурных устаноў, якія працуюць у мясцовых супольнасцях, грамадскіх і бізнес-арганізацый, а таксама для ўсіх зацікаўленых грамадзянскіх актывістаў, а таксама для ўстаноў адукацыі, спецыялістаў сацыяльнай работы.

**УДК 364.29**
**ББК 60.9**

**ISBN 978-83-62562-02-2**

# ЗМЕСТ

## Некалькі слоў пра Павестку 22

**Стандартныя правілы** забеспячэння роўных магчымасцяў для асобаў з інваліднасцю, якія сталі базай Павесткі 22, былі прыняты Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый (ААН) у 1993 годзе. Гэты дакумент быў адлюстраваннем зменаў, што адбыліся ў адносінах да асобаў з інваліднасцю на працягу двух апошніх стагоддзяў. У гісторыі чалавецтва грамадства па-рознаму вырашала пытанні інваліднасці: ад замыкання людзей у спецыяльных установах да змагання поруч з асобамі з інваліднасцю за іх правы. З часам узнікалі арганізацыі, якія аб'ядноўвалі асобаў з інваліднасцю, і менавіта гэтыя арганізацыі пачалі фармуляваць **новую канцэпцыю інваліднасці**. Напрыканцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя звяртаецца ўвага на тое, што абмежаванні, з якімі сутыкаюцца асобы з інваліднасцю, непасрэдна звязаныя са стаўленнем да іх грамадства і з грамадскім асяроддзем.

Стандартныя правілы забеспячэння роўных магчымасцяў для асобаў з інваліднасцю з'явіліся на базе досведу Дэкады асобаў з інваліднасцю (1983–1992), што ладзілася ААН. Нягледзячы на тое, што Стандартныя правілы — не дзейснае заканадаўства, паводле меркавання ААН, яны павінны былі стаць правам-звычаем, прынятым большасцю дзяржаў. Асноўная мэта Стандартных правілаў — **гарантаваць асобам з інваліднасцю тыя ж самыя правы і абавязкі, што і астатнім грамадзянам**.

Стандартныя правілы ўводзяць тэрміны: ***інваліднасць*** і ***недаразвітасць*** (***handicap***). Інваліднасць можа быць фізічнай, інтэлектуальнай ці палягаць на дысфункцыі органаў пачуццяў; яна можа ўзнікаць з-за саматычнай ці інтэлектуальнай хваробы. Тэрмін "недаразвітасць" азначае страту ці абмежаванне магчымасці ўдзельнічаць у грамадскім жыцці ў такой жа ступені, што і іншыя грамадзяне. А тэрмін "выраўноўванне шанцаў" азначае працэс, дзякуючы якому розныя сістэмы і ўстановы, што існуюць у грамадстве і навакольным асяроддзі […], даступныя для ўсіх, асабліва для асобаў з інваліднасцю".

***Стандартныя правілы — гэта пералік 22 імператываўабавязацельстваў***, што бяруць на сябе дзяржавы ў адносінах да сваіх грамадзян з інваліднасцю. Кожнае з адлюстраваных правілаў пачынаецца са словаў: *дзяржавы павінныя*, *дзяржавы будуць*, *дзяржавы лічаць*. 22 правілы падзеленыя на тры катэгорыі:

- перадумовы для раўнапраўнага ўдзелу;

- мэтавыя галіны для стварэння роўных магчымасцяў;
- захады па ажыццяўленні.

Ужо сам падзел паказвае, што падставай мыслення аб грамадзянах з інваліднасцю з'яўляецца іх раўнапраўны ўдзел у грамадскім жыцці.

**Перадумовы для раўнапраўнага ўдзелу** гавораць перадусім аб дзеяннях, якія павінна зрабіць дзяржава для паляшэння свядомасці членаў грамадства — як з інваліднасцю, так і без яе — па пытанні "асобаў з інваліднасцю, іх правоў, патрэб, магчымасцяў і ўнёску ў грамадскае жыццё". Гэта павінна адбывацца пры дапамозе інфармацыйных праграм і кампаній шляхам прадстаўлення ў СМІ пазітыўнага іміджу асобаў з інваліднасцю, а таксама адукацыйных праграм. Як сцвярджаюць Стандартныя правілы, "абуджэнне свядомасці павінна быць важнай часткай адукацыі дзяцей з інваліднасцю і рэабілітацыйных праграм. Асобы з інваліднасцю маглі б дапамагаць самі сабе і ў павышэнні ўзроўню ўласнай свядомасці, дзякуючы дзеянням сваіх уласных арганізацый". У сферу Перадумоў для раўнапраўнага ўдзелу ўваходзіць і аказанне эфектыўнай медыцынскай дапамогі, рэабілітацыйных паслуг для забеспячэння асобам з інваліднасцю незалежнага функцыянавання і гарантыі падтрымкі адпаведных службаў для павелічэння незалежнасці асобаў з інваліднасцю ў штодзённым жыцці, а таксама ў выкананні іхніх правоў.

**Мэтавыя галіны для стварэння роўных магчымасцяў** — гэта шэраг правіл-інструментаў для ўдзелу асобаў з інваліднасцю ў разнастайных праявах грамадскага жыцця. Гаворка тут ідзе, у прыватнасці, аб даступнасці ў розных галінах жыцця, аб працаўладкаванні, сямейным жыцці, культуры і рэлігіі.

Стандартныя правілы пералічваюць розныя аспекты ***даступнасці***, у тым ліку і фізічны аспект. Дзяржавы абавязваюцца прадпрымаць дзеянні па ліквідацыі перашкод, што замінаюць рухацца ў фізічным асяроддзі. Гэтыя дзеянні павінен мець на ўвазе і законатворчы працэс "па забеспячэнні даступнасці ў розных галінах жыцця, напрыклад ва ўласных кватэрах, у аб'ектах грамадскага карыстання, грамадскай камунікацыі і ў іншых сродках транспарту, на вуліцах і ў іншых месцах наваколля".

У частцы ***Сямейнае жыццё*** гаворыцца, у прыватнасці, пра магчымасць досведу ўласнай сэксуальнасці асобамі з інваліднасцю ў вядзенні сэксуальнага жыцця і досведзе бацькоўства. Акрамя таго, дзяржава павінна забяспечыць доступ да метадаў планавання сям'і.

***Культура*** разумеецца ў шырокім сэнсе. Гэта не толькі доступ да ўдзелу ў ёй, але і "магчымасць выкарыстоўваць свой творчы, мастацкі і інтэлектуальны патэнцыял не толькі для сваёй карысці, але і для ўзбагачэння ўласнай супольнасці, як вясковай, так і гарадской".

Маючы на ўвазе пытанні ***рэлігійнага жыцця***, "дзяржавы ў кансультацыі з прадстаўнікамі рэлігійных арганізацый павінны заахвочваць да захадаў па выключэнні дыскрымінацыі і забеспячэнні доступу асобаў з інваліднасцю да рэлігійнага жыцця".

**Захады па ажыццяўленні** павінны служыць укараненню Стандартных правілаў. Дзяржава бярэ на сябе асноўную адказнасць, у прыватнасці, за вядзенне ***навуковых даследаванняў*** і "збор ды распаўсюд інфармацыі аб умовах жыцця асобаў з інваліднасцю, а таксама спрыяе комплексным даследаванням усіх аспектаў іх жыцця". Акрамя таго, дзяржава адказная за ***стварэнне сацыяльнай палітыкі*** з улікам патрэб асобаў з інваліднасцю і за развіццё праграм і дзеянняў на карысць асобаў з інваліднасцю у лакальных супольнасцях.

Гэтакім жа важным з'яўляецца ***стварэнне прававых падстаў*** "для захадаў па забеспячэнні поўнага ўдзелу інвалідаў у жыцці грамадства і па іх раўнапраўі". Важна, што "ў нацыянальным заканадаўстве, у якім акрэслены правы і абавязкі грамадзян, павінны вызначацца правы і абавязкі асобаў з інваліднасцю. Дзяржавы абавязаны забяспечыць асобам з інваліднасцю магчымасць карыстацца сваімі правамі, у тым ліку грамадзянскімі і палітычнымі правамі чалавека, на роўнай падставе з іншымі грамадзянамі. Дзяржавы павінны забяспечваць удзел арганізацый асобаў з інваліднасцю ў распрацоўцы нацыянальнага заканадаўства, а таксама ў сталым працэсе яго ацэнкі". Акрамя таго, Стандартныя правілы займаюцца таксама ***эканамічнай палітыкай*** і ***каардынацыяй дзеянняў*** дзяржавы па пытанні ўкаранення пастуляваных правілаў. Важную ролю адыгрываюць арганізацыі асобаў з інваліднасцю, іх "роля […] можа палягаць на акрэсленні патрэб і прыярытэтаў, удзеле ў планаванні, ажыццяўленні і ацэнцы паслуг ды захадаў, што датычаць жыцця асобаў з інваліднасцю, на спрыянні паглыбленню разумення грамадствам дадзенай праблемы і выступленні з прапановамі аб унясенні змен".

***Павестка 22*** — гэта рэкамендацыі лакальным уладам падчас планавання сацыяльнай палітыкі ў адносінах да асобаў з інваліднасцю. Шведская федэрацыя асобаў з інваліднасцю пераклала нормы Стандартных правілаў забеспячэння роўных магчымасцяў для асобаў

з інваліднасцю на канкрэтныя запісы — гэта, у пэўным сэнсе, аўтарскі метад стварэння стратэгічных планаў. “Такі план павінен непасрэдна абапірацца на намеры і ідэі, адлюстраваныя ў Стандартных правілах. Лакальныя ўлады абавязаны прааналізаваць правіла за правілам і праверыць, якім чынам на сённяшні дзень грамадства ажыццяўляе Стандартныя правілы; што трэба зрабіць, каб увасобіць гэтыя правілы; якім чынам гэта можна зрабіць — мэты і сродкі”. Павестка 22 грунтуецца на двух пытаннях: якія паслугі прапаноўваюць сваім жыхарам лакальныя ўлады і якая падтрымка неабходная асобам з інваліднасцю ад лакальнай супольнасці? Ва ўсім працэсе павінны ўдзельнічаць няўрадавыя арганізацыі: ад моманту прыняцця рашэння аб стварэнні плана да зацвярджэння яго лакальнымі ўладамі.

Павестка 22 захоўвае структуру Стандартных правілаў і да кожнага з 22 правілаў ставіць пытанні, мэта якіх — праверыць, у якой ступені лакальныя ўлады ажыццяўляюць ідэі, адлюстраваныя ў Стандартных правілах. У выпадку правіла “Абуджэнне свядомасці” ў Павестцы 22 мы знойдзем, напрыклад, пытанне: “Як лакальныя ўлады распаўсюджваюць інфармацыю аб тых формах дапамогі, што ў іх ёсць для асобаў з інваліднасцю”?, а таксама “Ці пытанні абуджэння свядомасці ўключаны ў праграмы курсаў для розных груп лакальных супрацоўнікаў”? У выпадку правіла “Сямейнае жыццё і інтэгральнасць асобы” ў Павестцы 22 гучыць, у прыватнасці, пытанне: “Ці прадастаўляюць лакальныя ўлады асобам з інваліднасцю магчымасць пражываць у сям’і”. І “Ці існуюць дамы кароткага побыту (што выручаюць сем’і падчас апекі над асобамі з інваліднасцю)”? Адказы, дадзеныя на такія пытанні, ідэнтыфікуюць накірункі для зменаў і паляпшэння, а таксама становяцца падставай стварэння плана.

Павестка 22 прапануе пэўную структуру сацыяльнай палітыкі. Яе элементамі з’яўляюцца акрэсленне асноўнай мэты, інвентарызацыя лакальных дзеянняў, дыягностыка патрэб асобаў з інваліднасцю, доўгатэрміновы план дзеянняў, канкрэтныя мэты і рашэнні.

Калектыў фонду *“TUS”*, абапіраючыся менавіта на такія перадумовы, стварыў **„22 крокі да стратэгіі. Стандарты стварэння і актуалізацыі дакументаў па планаванні сацыяльнай палітыкі”**[1].

---

[1] Стандартныя правілы забеспячэння роўных магчымасцяў — http://www.psouu.org.pl/sites/default/files/publikacje/agenda22.pdf

Павестка 22 — http://www.psouu.org.pl/sites/default/files/publikacje/agenda22.pdf

## Некалькі слоў пра Канвенцыю ААН аб правах людзей з інваліднасцю

Канвенцыя ААН аб правах людзей з інваліднасцю была прынятая Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у снежні 2006 года.

Калі Стандартныя правілы забеспячэння роўных магчымасцей перадусім звярталі ўвагу на роўнасць, то кропкай адліку Канвенцыі з'яўляецца ўсеагульнасць правоў чалавека і ў той жа час забеспячэнне асобам з інваліднасцю поўнага карыстання гэтымі правамі. У адпаведнасці з запісамі Канвенцыі, любая дыскрымінацыя па прымеце інваліднасці — гэта абвяржэнне вартасці і годнасці чалавека. Дыскрымінацыя па прымеце інваліднасці "азначае любое адрозненне, выключэнне ці абмежаванне з прычыны інваліднасці, мэтай ці вынікам якога з'яўляецца прыніжэнне ці адмаўленне ў прызнанні, рэалізацыі альбо ажыццяўленні нароўні з іншымі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай, грамадскай альбо любой іншай галіне". У прэамбуле Канвенцыі падкрэсліваецца, што "Арганізацыя Аб'яднаных Нацый абвясціла і замацавала ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і ў Міжнародных пактах аб правах чалавека, што кожны чалавек мае ўсе прадугледжаныя ў іх правы і свабоды без ніякіх адрозненняў".

Канвенцыя прымае сацыяльнае акрэсленне тэрміна "інваліднасць" і гаворыць аб тым, што інваліднасць узнікае на перасячэнні асобаў з дысфункцыямі і бар'ерамі, звязанымі з сацыяльным асяроддзем і паводзінамі членаў грамадства. Адзін са спосабаў для таго, каб вышэйназваныя бар'еры не паўставалі, — гэта ўніверсальны дызайн, які яшчэ называюць дызайнам для ўсіх. Тэрмін "універсальны дызайн" азначае стварэнне прадуктаў, асяроддзя, праграм і паслуг такім чынам, каб яны былі максімальна карысныя для ўсіх, без неабходнасці адаптацыі ці спецыялізаванага дызайну. "Універсальны дызайн" не выключае тэхнічнай дапамогі для адмысловых груп асобаў з інваліднасцю, калі гэта патрэбна. Акрамя таго, Канвенцыя ўводзіць паняцце "належнае прыстасаванне" як спосаб справіцца з ужо існуючымі бар'ерамі. "Належнае прыстасаванне" азначае ўвядзенне неабходных і прыдатных мадыфікацый і карэктываў, што не з'яўляюцца несувымерным ці неабгрунтаваным цяжарам [...] для забеспячэння асобам з інваліднасцю

рэалізацыі ці ажыццяўлення нароўні з іншымі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод".

Канвенцыя акрэслівае сваю мэту як "падтрымку, абарону і забеспячэнне поўнага і роўнага ажыццяўлення ўсімі асобамі з інваліднасцю ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод". У Канвенцыі падкрэсліваецца, наколькі вялікае значэнне для асобаў з інваліднасцю мае ўласная самастойнасць і магчымасць прымаць рашэнні. Поўнае карыстанне правамі чалавека азначае "даступнасць фізічнага, сацыяльнага, эканамічнага і культурнага асяроддзя, аховы здароўя і адукацыі, а таксама інфармацыі і сувязі". Такім чынам, у Канвенцыі сфармуляваны абавязкі дзяржаў у адносінах да грамадзян з інваліднасцю. Яны датычацца, у прыватнасці, наступнага: абавязацельства забяспечыць асноўныя свабоды ўсім асобам з інваліднасцю пры дапамозе юрыдычных рашэнняў, правядзення і падтрымкі даследаванняў і развіцця новых тэхналогій, кансультацыі і супрацоўніцтва з асобамі з інваліднасцю і арганізацыямі гэтых людзей. Дзяржавы таксама абавязаны дзейнічаць на карысць рэалізацыі эканамічных, сацыяльных і культурных правоў асобаў з інваліднасцю.

Нормы Канвенцыі прадугледжваюць, у прыватнасці, наступнае:

- аднолькавую прававую абарону для асобаў з інваліднасцю і без;
- абавязак паглыблення свядомасці грамадства ў адносінах да асобаў з інваліднасцю;
- забеспячэнне доступу да фізічнага наваколля, транспарту, інфармацыі і сувязі, а таксама акрэсленне мінімальных стандартаў гэтай даступнасці;
- забеспячэнне асобам з інваліднасцю праваздольнасці і абарона іх правоў ад злоўжывання, забеспячэнне доступу да органаў правасуддзя;
- рэалізацыю адпаведных крокаў для аховы ад усіх формаў выкарыстоўвання, гвалту і злоўжывання;
- права свабодна перамяшчацца, у тым ліку мець свабоду выбару месца пражывання ці права на грамадзянства;
- забарону бяспраўнага ўмяшальніцтва ў прыватнае ці сямейнае жыццё;
- забарону дыскрымінацыі ва ўсіх аспектах, што датычацца шлюбу, сям'і, бацькоўства;
- гарантаванне аховы здароўя на такіх жа ўмовах і ў такім жа аб'ёме, як і іншым асобам;

- стварэнне адпаведных умоў жыцця і доступу да паслуг і дапамогі ў забеспячэнні патрэб, звязаных з інваліднасцю;
- гарантыю пасіўнага і актыўнага выбарчага права.

Канвенцыя — гэта канстытуцыя для грамадзян адносна інваліднасці. Яна забяспечвае асноўныя правы і у той жа час абавязвае дзяржавы маніторыць укараненне запісаных у ёй правоў. Абавязковым з'яўляецца стварэнне органа для маніторынгу ўкаранення Канвенцыі ці даручэнне гэтага задання канкрэтнай, ужо існуючай, публічнай установе, якая вяла б маніторынг укаранення Канвенцыі. У той жа час дзяржавы абавязаны на міжнародным форуме рабіць справаздачы наконт этапаў укаранення Канвенцыі.

Канвенцыя — гэта не проста сукупнасць пастулатаў, як у выпадку Стандартных правілаў, забеспячэння роўных магчымасцяў. Пасля ратыфікацыі дзяржавай яна становіцца усеагульным дзейсным законам.

Ратыфікацыя Канвенцыі дзяржавай — гэта толькі пачатак шляху. Істотную ролю ва ўкараненні Канвенцыі адыгрываюць арганізацыі асобаў з інваліднасцю. Гэта яны праз сваё ўзаемадзеянне могуць уплываць на штодзённую практыку ўступлення ў сілу нормаў Канвенцыі.

## Некалькі слоў пра адміністрацыйна-прававую сістэму ў Польшчы

### Абавязкі самакіравання па стварэнні дакументаў у галіне планавання сацыяльнай палітыкі

На падставе Канстытуцыі 1997 года Рэспубліка Польшча з'яўляецца парламенцкай рэспублікай з парламенцка-кабінетнай сістэмай і абапіраецца на падзел ўлады на тры галіны.

Канстытуцыя Рэспублікі Польшча — гэта асноўны прававы акт Польшчы. Яна была прынята 2 красавіка 1997 года Нацыянальным сходам і зацверджана рэспубліканскім рэферэндумам 25 мая 1997 года.

Заканадаўчай уладай у Польшчы з'яўляецца двухпалатны парламент (сейм — 460 дэпутатаў, сенат — 100 сенатараў), які выбіраецца прамымі, усеагульнымі выбарамі пры тайным галасаванні на 4-гадовы тэрмін ад дня першага пасяджэння. Яго асноўнае заданне — стварэнне права шляхам прыняцця канстытуцыйных і звычайных законаў, у тым ліку закона аб бюджэце, а таксама ратыфікацыя міжнародных дамоў.

Органы выканаўчай улады ў Польшчы — гэта прэзідэнт РП і Рада Міністраў. Прэзідэнт выбіраецца ва ўсеагульных прэзідэнцкіх выбарах на 5-гадовы тэрмін (выйграе той кандыдат, які атрымлівае абсалютную большасць галасоў). Ён мае права выконваць гэтую функцыю максімум на працягу двух тэрмінаў.

Рада Міністраў, то бок урад, — калегіяльны орган выканаўчай улады. У яго склад уваходзяць старшыня Рады Міністраў (прэм’ер-міністр), віцэ-прэм’еры, міністры і старшыні камітэтаў.

Польшча — унітарная дзяржава, а яе лакальныя ўлады абапіраюцца на дуалізм, паколькі, акрамя прадстаўніцтваў дзяржаўнай адміністрацыі, існуе тэрытарыяльнае самакіраванне, створанае для публічных заданняў, што не адносяцца да кампетэнцыі іншых галінаў улады. Яго асноўная адзінка — гміна.

З 1 студзеня 1999 года ў Польшчы функцыянуе трохузроўневы адміністрацыйны падзел на:

- **16 ваяводстваў**, якія, у сваю чаргу, складаюцца з:
  - 66 гарадоў на правах павета і
  - 314 паветаў, якія, у сваю чаргу, складаюцца з:
    - **2478 гмінаў**, сярод якіх:
      - 304 гарадскія гміны,
      - 611 вяскова-гарадскіх,
      - 1563 вясковыя гміны.

Заканатворчымі органамі тэрытарыяльнага самакіравання адпаведна з’яўляюцца рада гміны, рада павета, сеймік самакіравання, прадстаўнікі якіх выбіраюцца ўсеагульнымі выбарамі пры тайным галасаванні. Выканаўчыя органы тэрытарыяльнага самакіравання — гэта, у сваю чаргу, войт (бургамістр, мэр), староста, праўленне ваяводства (па стане на 1 студзеня 2015).

***Ваяводства*** — гэта таксама адзінка ўрадавай адміністрацыі. Ваявод прызначае старшыня Рады Міністраў і непасрэдна яму ж і падпарадкоўваюцца ваяводы. Абавязак ваяводы — кантроль органаў тэрытарыяльнага самакіравання з пункту гледжання законнасці, эканомнасці і добрасумленнасці выконвання заданняў.

***Паветы*** і ***гміны*** — гэта адзінкі тэрытарыяльнага самакіравання.

Статут і абавязкі паветаў і гмінаў рэгулюе Закон “Аб павятовым самакіраванні” ад 5 чэрвеня 1998 года. У адпаведнасці з законам як паветы, так і гміны абавязаныя мець павятовыя і гмінныя стратэгіі выра-

шэння сацыяльных праблем, у рамках якіх звычайна разглядаюцца і праблемы, звязаныя з пытаннямі інваліднасці. Акрамя таго, паветы ў адпаведнасці з законам павінны ствараць павятовыя праграмы дзеянняў на карысць асобаў з інваліднасцю. Нормы закона змушаюць ствараць і прымаць гэтыя стратэгічныя дакументы, але яны не акрэсліваюць абавязку іх рэалізацыі, ацэнкі і актуалізацыі. Яны не апісваюць і працэсу стварэння дадзеных дакументаў. Да таго ж няма ніякіх штрафаў для гмінаў і паветаў, у якіх няма такіх дакументаў. Такі стан прыводзіць да таго, што ў шматлікіх муніцыпалітэтах ёсць нядбайна падрыхтаваныя і неадэкватныя да патрэб жыхароў стратэгічныя дакументы ў галіне сацыяльнай палітыкі і, што з гэтым звязанае, няма магчымасці эфектыўна вырашаць актуальныя праблемы сваіх жыхароў.

## Мадэль, а не ўзор

Перад тым як распачаліся працы па стварэнні інструкцыі, якая крок за крокам паказвала б, як ствараць лакальныя дакументы ў галіне сацыяльнай палітыкі, накіраваныя на вырашэнне праблем асобаў з інваліднасцю, супрацоўнікі фонду *"TUS"* шмат часу прысвяцілі даследаванню польскіх лакальных стратэгій па вырашэнні праблем асобаў з інваліднасцю.

У Польшчы стварэнне стратэгіі па вырашэнні сацыяльных праблем — прадугледжаны правам абавязак лакальных улад. Вельмі часта, аднак, атрымлівалася, што дакументы далёкія ад дасканаласці. З аднаго боку, гэта было звязана з агромністай лаканічнасцю польскага заканадаўцы, які прысвяціў стратэгіям кароткі запіс у Законе "Аб сацыяльнай дапамозе", а з другога боку — з тым фактам, што лакальныя ўлады не атрымліваюць падтрымкі ў галіне стратэгічнага планавання альбо атрымліваюць яе ў нязначнай ступені. Прапанаваны аўтарамі дадзенай брашуры спосаб працы над стратэгіяй па вырашэнні сацыяльных праблем, у тым ліку праблем асобаў з інваліднасцю, мае хутчэй мадэльны, а не ўзорны характар. Ёсць мноства шляхоў, што вядуць да планавання эфектыўных дзеянняў, якія могуць паменшыць ці вырашыць сацыяльныя праблемы на лакальным узроўні. Прапанаваная мадэль мае тую перавагу, што яна была прыстасавана да патрэб муніцыпальных лакальных улад і тэсталася імі. Гэта дазволіла стварыць такі інструмент па фарміраванні сацыяльных страгэгій, які адпавядае правілам стратэгічнага планавання, спадзяванням і магчымасцям муніцыпалітэтаў. Улічваючы адміністрацыйна-прававую спецыфіку Беларусі і канкрэтную мэту праекта, якім з'яўляецца ўкараненне ў Беларусі на лакальным узроўні планавання і рэалізацыі дзеянняў на карысць асобаў з інваліднасцю, першапачатковы польскі інструмент прайшоў неабходную мадыфікацыю. Мы адмовіліся ад запісаў, што апелююць да польскай адміністрацыйна-прававой сістэмы. Большая ўвага прысвечана стратэгічнаму планаванню ў сферы патрэб асобаў з інваліднасцю на падставе Канвенцыі ААН аб правах людзей з інваліднасцю.

## Стратэгічнае планаванне

У правільна створаным стратэгічным дакуменце павінна быць мэта — памяншэнне маштабу ці ліквідацыя балючых праблем жыхароў, у тым ліку людзей з інваліднасцю. Для таго каб знайсці эфектыўныя рашэнні, неабходна дэталёва азнаёміцца з сітуацыяй, а потым запланаваць эфектыўныя рашэнні.

Мадэль, прапанаваная камандай фонду *"TUS"*, крок за крокам паказвае, як ствараць сацыяльную стратэгію, пачынаючы з арганізацыі міждысцыплінарнага калектыву, дыягностыкі і акрэслення сацыяльных праблем, у тым ліку праблем асобаў з інваліднасцю, вызначэння мэтаў і планавання дзеянняў, завяршаючы маніторынгам і ацэнкай стратэгіі, якая ўкараняецца.

Вялікая колькасць сацыяльных стратэгій, што ствараюцца ў Польшчы, не маюць праграм дзеянняў, то бок той часткі, якая перадусім уплывае на дасягненне запланаваных мэтаў. У такіх сітуацыях не хапае каштарыса і графіка дзеянняў. На думку аўтараў дадзенай публікацыі, стратэгія без праграмы дзеянняў не мае ў сабе моцы і інструментаў для змены рэчаіснасці. Добрая праграма дзеянняў — хоць яна і можа функцыянаваць самастойна — павінна ствараецца як частка стратэгіі і толькі штучна яе можна адтуль выключыць.

## Прыцягненне жыхароў

Нават правераныя рашэнні, якія плённа выкарыстоўваюцца на лакальным узроўні ў пэўным месцы, могуць быць неэфектыўнымі, калі іх не прыстасаваць да адмысловых патрэб жыхароў і лакальных рэалій. Безумоўна, лакальныя ўлады без удзелу жыхароў не ў стане эфектыўна вырашаць лакальныя праблемы.

Для таго каб запланаваныя дзеянні мелі грамадскую падтрымку, неабходна падключаць жыхароў да працэсу стварэння стратэгіі на ўсіх этапах працы над дакументам. Формы падключэння жыхароў да працы над стратэгіяй могуць быць розныя: адны лакальныя ўлады толькі інфармуюць жыхароў пра стварaемую стратэгію, другія просяць дасылаць свае меркаванні, трэція, нарэшце, запрашаюць да супольнага прыняцця рашэння наконт канкрэтных запісаў. Прапанаваная мадэль працы над стратэгіяй рэкамендуе выкарыстоўванне ўсіх трох формаў падключэння жыхароў да стварэння стратэгіі.

Акрамя таго, важна, каб плануючы дзеянні на карысць канкрэтных груп, у выпадку Беларусі — на карысць асобаў з інваліднасцю, улічыць голас прадстаўнікоў гэтай групы і пагадзіцца з тым, што менавіта яны звычайна лепш за ўсё ведаюць аб тым, што ім патрэбна. Такі падыход дазваляе ажыццяўляць прынцып *empowerment* (*прынцып пашырэння правоў і магчымасцяў*). Такім жа істотным прынцыпам, пра які трэба памятаць падчас працы над стратэгіяй, з'яўляецца прынцып *gender mainstreaming* (*прынцып надання прыярытэту пытанням гендэрнай роўнасці*), які гарантуе ўлік палавых перспектыў на кожным этапе працы.

## Інструмент

"22 крокі да стратэгіі" — гэта від інструкцыі для выпрацоўвання стратэгіі па вырашэнні сацыяльных праблем. У "22 кроках..." паказана, як стварыць Інструмент, пры дапамозе якога можна планаваць сацыяльныя дзеянні, што могуць дапамагчы жыхарам, у тым ліку жыхарам з інваліднасцю, у пераадольванні іх надзённых праблем. "22 крокі..." — не панацэя ад усіх лакальных праблем. Аднак лакальныя ўлады, якія працуюць такім чынам, як прапаноўвае каманда фонду *"TUS"*, могуць сэнсоўна і мэтанакіравана планаваць свае дзеянні.

З'яўленне дадзенай публікацыі было б немагчымым без падтрымкі Еўрапейскага Саюза ў рамках аперацыйнай праграмы "Чалавечы капітал". Аўтары "22 крокаў да стратэгіі" перакананы, што стратэгічнае планаванне так, як прапануецца ў дадзенай публікацыі, сапраўды можа быць добрай інвестыцыяй у канкрэтнага чалавека.

## Як карыстацца Інструментам

Інструмент — гэта інструкцыя ў форме тэматычных блокаў, у рамках якіх вызначаюцца чарговыя "крокі". Перад кожным блокам ёсць інфармацыя, што дазваляе хутка арыентавацца, якой тэмы яна датычыцца. Да яе можна звярнуцца, калі ўзнікне такая патрэба. Рэкамендацыі, якія знаходзяцца ў "Кроках...", дазваляюць правільна прайсці праз чарговыя этапы працы над стратэгіяй, а ў Дадатках змешчаны дадатковыя звесткі для палягчэння гэтай працы. У Слоўнічку падаюцца тлумачэнні асноўных паняццяў, выкарыстаных у Інструменце.

Ключавы элемент працы над стратэгіяй — міждысцыплінарная група па пытаннях стратэгіі. Гэты Інструмент апрацаваны з клопатам аб асобах, якія з’яўляюцца яе членамі. На падставе патрэб група можа дапасоўваць змест асобных крокаў да рэалій і магчымасцяў канкрэтнага месца, канкрэтнага населенага пункта. Аднак трэба памятаць, што прапанаваны Інструмент гарантуе правільную падрыхтоўку стратэгіі пасля таго, калі пройдзены ўсе крокі.

З Інструментам павінны азнаёміцца ўсе сябры групы, у тым ліку прадстаўнікі лакальнай выканаўчай улады, якія прымаюць рашэнне па мадэлі працы над стратэгіяй.

На кожным этапе працы над стратэгіяй неабходна выкарыстоўваць асноўныя правілы, што гарантуюць планаванне эфектыўных рашэнняў — *empowerment* і *gender mainstreaming*.

# БЛОК 1.
# ПАЧАТАК ПРАЦЫ

Інфармацыя, змешчаная ў Блоку 1, дапаможа прыняць рашэнне, ці патрэбны стварэнне альбо актуалізацыя дакументаў па планаванні і як трэба іх правесці.

## Крок 1.
## Прыняцце рашэння
## аб стварэнні/актуалізацыі стратэгіі

| Праца з існуючымі дакуметамі: | Вынік працы — гэта падрыхтоўка рашэння аб: |
|---|---|
| • стратэгія. | • стварэнні стратэгіі;<br>• актуалізацыі стратэгіі. |

У тым выпадку, калі ў мясцовасці няма стратэгіі, то асоба, якая выконвае кіроўныя функцыі ў лакальных уладах, прымае рашэнне аб стварэнні дакумента па планаванні.

У тым выпадку, калі ў мясцовасці ёсць стратэгія, то асоба, якая выконвае кіроўныя функцыі ў лакальных уладах, прымае рашэнне аб моманце накіравання дакумента па планаванні на актуалізацыю.

Рашэнне аб актуалізацыі неабходна прыняць у такіх выпадках, як:

- існаванне ў дакуменце запісаў аб тэрмінах актуалізацыі;
- правядзенне ацэнкі, па выніках якой відаць неабходнасць зменаў і выпраўленняў;
- наяўнасць іншых пытанняў, у адпаведнасці з вышэйназванымі патрэбамі.

Пасля прыняцця рашэння аб актуалізацыі рэкамендуецца правесці аналіз, каб вызначыць, ці правільна стратэгія пабудавана з фармальнага боку.

### Дадатак № 1.
### Аналіз фармальнай правільнасці стратэгіі

Аналіз фармальнай правільнасці стратэгіі можна правесці пры дапамозе “кантрольнага спісу”, пабудаванага ў форме пытанняў.

1. Ці акрэслены ў стратэгіі час яе дзеяння?

2. Ці ёсць у стратэгіі дыягностыка?

а). Ці ёсць у дыягностыцы элементы сацыяльна-эканамічнай дыягностыкі?

б). Ці спасылаецца/звязана дыягностыка са стратэгічнымі дакументамі іншага рангу — гміннымі, павятовымі, ваяводскімі, рэспубліканскімі?

в). Ці спасылаецца дыягностыка на заканадаўчыя абавязкі гміны/павету?

г). Ці праводзіўся ў рамках дыягностыкі аналіз сабраных дадзеных?

3. Ці ёсць у стратэгіі акрэсленыя мэты?

а). Ці акрэсленыя мэты адпавядаюць крытэрам канкрэтнасці, вымернасці, дасягальнасці, рэальнасці?

4. Ці ёсць у стратэгіі дзеянні, што суадносяцца з мэтамі?

5. Ці ёсць у стратэгіі запланаваныя вынікі і паказчыкі, што з імі суадносяцца?

6. Ці ёсць у стратэгіі графік?

а). Ці дакладна акрэслены ў графіку час/часовыя рамкі (напрыклад, студзень — сакавік 2010), у якіх будзе ажыццяўляцца дадзенае дзеянне?

б). Ці падлічаны ў графіку выдаткі на паасобныя дзеянні?

в). Ці ёсць у графіку патэнцыйныя крыніцы фінансавання паасобных дзеянняў?

г). Ці ўказаны ў графіку ўстановы/суб'екты, адказныя за рэалізацыю паасобных дзеянняў?

д). Ці ўказаны ў графіку ўстановы/суб'екты, якія супрацоўнічаюць пры рэалізацыі паасобных дзеянняў?

7. Ці ёсць у стратэгіі запісы пра ацэнку?

а). Ці запісы пра ацэнку называюць суб'ект/установу/асобу, адказную за гэтую ацэнку?

б). Ці запісы пра ацэнку ўказваюць на працэдуру ацэнкі: з якой перыядычнасцю яна павінна адбывацца, якім чынам?

8. Ці запісы стратэгіі прадугледжваюць сітуацыю, калі вынікі ацэнкі абавязваюць актуалізаваць дакумент?

9. Ці ў стратэгіі ёсць інфармацыя аб актуалізацыі?

а). Ці ў інфармацыі аб актуалізацыі апісана працэдура актуалізацыі: як часта яна павінна адбывацца, якім чынам?

Негатыўны адказ на любое са змешчаных у “кантрольным спісе” пытанняў — паказчык неабходнасці актуалізацыі ў той галіне, якой датычыцца пытанне.

## Крок 2.
## Прыняцце абавязацельства аб стварэнні/актуалізацыі стратэгіі

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • падрыхтаванае рашэнне аб стварэнні/актуалізацыі стратэгіі. | • абавязацельства па стварэнні/актуалізацыі стратэгіі, у тым ліку аб фарміраванні групы па пытаннях стварэння/актуалізацыі стратэгіі. |

Ініцыятыва па падрыхтоўцы ці актуалізацыі існуючай стратэгіі павінна зыходзіць ад лакальных улад. Пачатак працы над стратэгіяй павінен быць зроблены ў форме абавязацельства. У ім мусіць быць адлюстраваны рэжым працы над стратэгіяй.

Неабходна памятаць аб тым, што падрыхтоўка стратэгіі дзеянняў патрабуе часу. Рэалізацыя ўсяго працэсу (дыягностыка, інвентарызацыя рэсурсаў, акрэсленне напрамкаў, мэтаў, вынікаў, дзеянняў, графік, каштарыс, прынцыпы ацэнкі і актуалізацыі) займае, прынамсі, некалькі месяцаў. Рэкамендуецца прапісаць у абавязацельстве запланаваны тэрмін завяршэння працы над стратэгіяй. Пры гэтым варта паклапаціцца аб тым, каб вызначаны час на апрацоўку дакументаў быў дастатковым.

## Крок 3.
## Партыцыпацыйнасць працэсу стварэння стратэгіі

Грамадзяне і няўрадавыя арганізацыі павінны быць падключаны да працы над стратэгіяй на ўсіх этапах. Магчымы тры метады забеспячэння партыцыпацыйнасці працэсу стварэння стратэгіі: *інфармаванне*, *кансультацыі* і *супольнае прыняцце рашэнняў*. *Інфармаванне* — гэта мінімум таго, што павінны рабіць лакальныя ўлады пры стварэнні стратэгіі. Перадумовы наконт складу групы па пытаннях стратэгіі даюць шанец падключыць грамадзян да прыняцця стратэгічных рашэнняў па

канкрэтных мясцовасцях. Аднак гэты метад варта дапоўніць і падтрымліваць іншымі формамі кансультацый, напрыклад адкрытымі сустрэчамі, аналізам зваротнай інфармацыі — каментароў і меркаванняў. Інфармаванне і кансультацыі павінны адбывацца ў ключавыя моманты стварэння стратэгіі: падчас арганізацыі групы па пытаннях стратэгіі, па вызначэнні іерархіі важнасці сацыяльных праблем (у выпадку праекта "Павестка 50" — акрэсленне іерархіі важнасці праблем, звязаных з інваліднасцю), фармулёўка галоўных мэтаў, апрацоўка стратэгіі.

У кроках, што адносяцца да ключавых момантаў стварэння стратэгіі, будуць падрабязна ўказаны спосабы правядзення рэкамендаванага інфармавання і кансультавання.

## Дадатак № 2. Інфармаванне, камунікацыя і грамадскія кансультацыі[1]

### Што можна здабыць, ладзячы грамадскія кансультацыі?

Як самакіраванне, так і грамадскасць могуць выйграць, прымаючы ўдзел у кансультацыях. Добра праведзеныя кансультацыі прывядуць да:

- сумеснага прыняцця эфектыўных рашэнняў;
- выкарыстоўвання супрацоўніцтва з грамадскімі партнёрамі для планавання эфектыўных працэдур па ўкараненні публічных праграм і маніторынгу іх рэалізацыі, іх карэкціроўкі і ацэнкі працэсу сацыяльна-эканамічных з'яў, адукацыі і інфармавання грамадства аб палітыцы публічных уладаў.

Акрамя сутнаснага ўнёску ў змест, што з'яўляецца прадметам кансультацый з боку адміністрацыі, кансультацыі даюць наступныя вынікі:

- рост узаемнага даверу і разумення ў адносінах самакіравання — грамадзяне і пачуццё важнасці грамадзяніна ў гміне ці павеце;
- пазбяганне, вырашэнне ці змякчэнне сацыяльных канфліктаў з-за непапулярных, хай і неабходных, рашэнняў ці зменаў;
- павелічэнне верагоднасці плённых і эфектыўных публічных праграм;

[1] Гэта скарочаная версія публікацыі „Obywatele współdecydują. Przewodnik po partycypacji społecznej" ("Грамадзяне ўдзельнічаюць у прыняцці рашэнняў. Даведнік па грамадскай партыцыпацыйнасці") Дагміра Длугаша, Яна Якуба Выгнаньскана. FIP Варшава, 2005, даступнай на сайце http://nsro.ngo.pl/files/konsultacje.ngo.pl/public/Dok.ngos/obywatele_wspoldecyduja.pdf)

- большае ўсведамленне складанасці праблем, з якімі сутыкаюцца сучасныя муніцыпалітэты, што можа процідзейнічаць папулізму і веры ў простыя рашэнні;
- прасоўванне талерантнасці і разумення ў адносінах да іншых поглядаў і меркаванняў у грамадскім жыцці; гэта можа прынесці плён і ва ўзаемаразуменні перадумоў і патрэб публічнага сектара і грамадзянскай супольнасці;
- стварэнне канала абмену грамадскімі ведамі, часта недаступнымі іншым чынам.

### Чаму настолькі важная грамадская партыцыпацыйнасць?

Грамадская партыцыпацыйнасць — гэта частка сучаснага кіравання публічнай сферай, у якой адрозненні інтарэсаў і чаканняў не могуць вырашацца ні выключна адміністрацыйнымі рашэннямі, ні чыста рынкавымі механізмамі. Яны павінны, хутчэй, стаць прадметам перамоў і ўзгадненняў. З гэтага пункту гледжання, партыцыпацыйныя механізмы дазваляюць не толькі атрымаць большую грамадскую згоду, але і аптымізаваць прыняцце рашэнняў.

### Як гэта адбываецца ў Еўрапейскім Саюзе?

У ЕС ёсць мноства кансультацыйных працэдур, што датычацца паасобных галін. Ёсць і фармалізаваныя спосабы грамадскага ўдзелу ў прыняцці рашэнняў установамі ЕС (камітэтамі, камісіямі, групамі і г.д.).

Шмат гадоў Еўрапейскі Саюз выкарыстоўвае так званы ***“прынцып партнёрства”*** у якасці аднаго з правілаў апрацоўкі праграм, фінансаваных з еўрапейскіх сродкаў. Гэты прынцып азначае, у прыватнасці, абавязак выпрацаваць гэтыя праграмы партыцыпацыйнымі метадамі і праводзіць іх партыцыпацыйны маніторынг і ацэнку. У сувязі з гэтым Еўрапейскі Саюз выкарыстоўвае паняцце ***“грамадскія і эканамічныя партнёры”***, якімі часцей за ўсё з’яўляюцца арганізацыі працадаўцаў, прадпрымальнікаў, фермераў, працоўных, а таксама рознага кшталту няўрадавыя арганізацыі. На практыцы кожная дзяржава падрабязна акрэслівае, да якога кшталту арганізацый і суб’ектаў яна ставіцца як да грамадскіх і эканамічных партнёраў. У апошнія гады можна назіраць актыўнае дапаўненне традыцыйнага трохбаковага дыялогу з удзелам

прафсаюзаў, працадаўцаў і публічных уладаў ***грамадскім дыялогам***, то бок дыялогам з няўрадавымі арганізацыямі і асобнымі грамадзянамі.

Еўрапейская Камісія 11 снежня 2002 года вызначыла агульныя прынцыпы і стандарты публічных кансультацый для яе органаў. Яны, у прыватнасці, наступныя:

- доступ да інфармацыі наконт кансультацыйнага працэсу;
- забеспячэнне доступу да кансультацыйных працэсаў усіх зацікаўленых;
- адпаведны час на заяўку заўваг і меркаванняў (8 тыдняў на пісьмовыя заўвагі і мінімум 20 дзён на запрашэнне на публічную сустрэчу).

## Абавязкі самакіравання

Падставы правядзення кансультацый на ўзроўні самакіравання — гэта нормы польскіх законаў аб гмінным, павятовым, ваяводскім самакіраванні ці грамадска карыснай дзейнасці і аб валантарыяце. У адпаведнасці з імі органы адзінак тэрытарыяльнага самакіравання могуць праводзіць грамадскія кансультацыі ў прадугледжаных законам выпадках (тады кансультацыі часта маюць абавязковы характар) і па іншых пытаннях, важных для супольнасці самакіравання, а дакладней кажучы, кансультацыі "з жыхарамі гміны, павета і ваяводства". Правілы і рэжым правядзення кансультацый з супольнасцямі самакіравання акрэсліваюць рашэнні радаў адпаведных адзінак тэрытарыяльнага самакіравання. Рады адпаведных узроўняў павінны выдаць акт мясцовага права. Такое агульнае фармуляванне юрыдычных падстаў кансультацый дазваляе досыць эластычна выкарыстоўваць розныя метады, напрыклад публічныя сустрэчы, пісьмовую заяўку заўваг, слуханні грамадскай думкі і нават стварэнне лакальных кансультацыйных структур. Заканадаўчыя нормы гавораць пра магчымасць правядзення кансультацый з асобнымі грамадзянамі — жыхарамі супольнасці самакіравання — і з рознымі грамадскімі партнёрамі (арганізацыямі, у якія аб'ядноўваюцца жыхары). З судовай практыкі Вышэйшага адміністрацыйнага суда Польшчы (*Naczelny Sąd Administracyjny*) вынікае, што такія кансультацыі — гэта асобны інструмент у параўнанні з лакальным рэферэндумам. У той жа час рэферэндум можна выкарыстоўваць у форме кансультацый, але тады ён мае выключна кансультацыйны, а не вырашальны характар.

Калі казаць пра няўрадавыя арганізацыі ды іншыя суб'екты, што дзейнічаюць у грамадска карыснай галіне, то органы публічнай, у тым ліку муніцыпальнай адміністрацыі, могуць супрацоўнічаць з няўрадавымі арганізацыямі ў такіх формах, як:

- узаемнае інфармаванне аб запланаваных напрамках дзейнасці і ўзаемадзеяння з мэтай гарманізацыі дадзеных напрамкаў;
- кансультацыі з няўрадавымі арганізацыямі праектаў нарматыўных актаў у тых сферах, якія датычацца статутнай дзейнасці гэтых арганізацый;
- стварэнне агульных груп кансультацыйнага і ініцыятыўнага характару з прадстаўнікоў няўрадавых арганізацый і прадстаўнікоў адпаведных органаў публічнай адміністрацыі.

### Што такое грамадскія кансультацыі?

Ёсць шмат метадаў грамадскай актыўнасці ў шырокім яе разуменні. Можна выдзеліць тры асноўныя формы.

**Інфармаванне.** Гэта аднабаковыя адносіны: самакіраванне паведамляе аб рашэннях ці працэдурах, якія датычацца грамадзян. Інфармаванне можа быць пасіўным (доступ да інфармацыі) ці актыўным (прамоцыя, аб'явы, сустрэчы і г.д.).

**Кансультаванне.** Адносіны маюць двухбаковы характар: самакіраванне прапаноўвае рашэнні і збірае меркаванні на гэты конт. Працэс расцягнуты ў часе: спачатку з'яўляецца інфармацыя аб прапанаваных рашэннях, а потым збіраюцца меркаванні на гэты конт.

**Агульнае прыняцце рашэнняў.** Гаворка ідзе не столькі пра атрыманне меркаванняў наконт прапаноў самакіравання, колькі пра сапраўднае партнёрства пры выпрацоўцы рашэнняў. Бакі супольна акрэсліваюць праблемы і шукаюць добрыя рашэнні. Камунікацыя мае адначасовы характар: працэсы праектавання рашэнняў і іх кансультацыі адбываюцца паралельна. Партыцыпацыйнасць абапіраецца на прызнанні прынцыпу партнёрства як падставы ўзаемаадносінаў адміністрацыі і грамадзян. Агульнае прыняцце рашэнняў азначае і перадачу партнёрам часткі правоў. У поўнай форме гэта можа азначаць прызнанне абавязковай моцы прынятых рашэнняў (як, напрыклад, у рэферэндуме).

**Грамадскія кансультацыі** — гэта спосаб атрымаць меркаванні, думкі, прапановы і г.д. ад суб'ектаў (устаноў ці асобаў), якіх пэўным чынам, непасрэдна ці пасрэдна, будуць датычыцца вынікі прапанаваных адміністрацыяй дзеянняў. Гэтыя вынікі могуць мець характар накладзенага абавязку, прызнанага права, магчымасці карыстацца фінансавымі сродкамі, закладзенымі ў публічных праграмах, удзелу ва ўкараненні дзеянняў адміністрацыі. Планы гэтых дзеянняў могуць утрымлівацца ў праектах заканадаўчых актаў, публічных ці бюджэтных праграмах публічных суб'ектаў. Акрамя таго, кансультацыі — гэта абмен інфармацыяй з грамадскай думкай, дыскусія, перадача ведаў і нават (у пэўнай ступені) улады. Грамадскім суб'ектам кансультацыі даюць магчымасць уплываць на змест рашэнняў, а адміністрацыі — шэраг магчымасцяў палепшыць свае дзеянні. Такім чынам, кансультацыі з грамадствам — адзін з найбольш істотных сродкаў дасягнення мэтаў у палітыцы. Асноўнай рысай сапраўдных грамадскіх кансультацый з'яўляецца тое, ці стане атрыманне меркаванняў ад акрэсленых суб'ектаў з'яўляецца свядомай мэтай адміністрацыйнага органа, які вырашыў правесці кансультацыі. У сувязі з гэтым такі намер павінен быць выражаны адзінкай, што звяртаецца па меркаванне, каб было зразумела, што перададзены дакумент не служыць толькі паведамленню, альбо што ён запрашае да перамоў і тым самым да агульнага прыняцця рашэнняў. Кансультацыя прадугледжвае слуханні, абмен ведамі і інфармацыяй, дыялог, дэбаты і аналіз праблем, праведзеныя яе ўдзельнікамі.

Кансультацыі — гэта нешта большае за доступ да інфармацыі і за высылку дакумента некалькім абраным партнёрам з ціхім спадзяваннем, што ў іх не будзе заўваг. Мэта грамадскіх кансультацый — дагрукацца да як мага больш шырокай аўдыторыі і жаданне пазнаёміцца з яе меркаваннямі для паляпшэння якасці падрыхтаваных рашэнняў, нават калі гэта можа азначаць адмову ад іх. З іншага боку, трэба выразна сказаць, што кансультацыі — гэта не перамовы. Канчатковае рашэнне знаходзіцца ў руках публічнай адміністрацыі.

Прынцыповая рыса кансультацый, якая дазваляе выдзеліць іх з іншых формаў камунікацыі, — гэта тое, што адказнасць за форму і змест дакумента, што прайшоў кансультацыі, ляжыць на аўтары дакумента — установе, а ўлік перададзеных ёй меркаванняў не

з’яўляецца абавязкам, а правам, калі атрыманыя меркаванні будуць успрыняты як вартыя і цэнныя для зместу дакумента ці яго грамадскага ўхвалення.

### Стандарты і прынцыпы грамадскіх кансультацый

Кансультацыі павінны быць **праактыўныя** (апярэджваючыя), а не рэактыўныя. Гэта значыць, што іх ініцыяванне павінна быць інтэгральным элементам дзеянняў сучаснай адміністрацыі, а не “выратавальнымі дзеяннямі”, калі ўзнікае напружанне з грамадскімі партнёрамі. Безумоўна, кансультацыі — гэта не інструмент камунікацыі ўжо прынятых рашэнняў.

Асноўныя прынцыпы эфектыўных грамадскіх кансультацый наступныя.

**Добрасумленнасць**: кансультацыі мусяць праводзіцца з чыстымі намерамі, яны не могуць быць формай палітычнай маніпуляцыі ці мець фасадны характар.

**Прынцып павагі агульнага грамадскага дабра і інтарэсаў**: праведзенне кансультацый і іх вынікі павінны ўлічваць і агульныя інтарэсы, а не толькі інтарэсы ўдзельнікаў кансультацый.

**Легальнасць**: бакі законатворчага працэсу, у прыватнасці публічная адміністрацыя, павінны прытрымлівацца законных правілаў кансультацый і выкарыстоўваць дух гэтых нормаў, а не толькі іх літару.

**Прадстаўніцтва і роўнасць**: усе жадаючыя (не толькі інстытуцыянальныя партнёры, але і асобныя грамадзяне) маюць права ўдзельнічаць у кансультацыях на роўных правах, з улікам ступені свайго прадстаўніцтва для пэўнага кшталту грамадскіх інтарэсаў.

**Грунтоўнасць**: прадстаўленыя меркаванні павінны быць падрыхтаваныя грунтоўна і старанна, адлюстроўваць сапраўдныя погляды асяроддзяў, якія прадстаўляюць грамадскія партнёры, а з боку адміністрацыі павінны быць прадпрыняты дзеянні, што забяспечаць вышэйшы арганізацыйны стандарт кансультацый.

**Празрыстасць, адкрытасць** кансультацый павінны быць іх асноўным правілам і датычыцца мэты кансультацый, яе ўдзельнікаў, прынцыпаў, працэдур і канчатковага выніку.

**Комплексны падыход**: кансультацыі, у залежнасці ад патрэб і ўзроўню, павінны мець рэспубліканскі, сектарны, рэгіянальны ці лакальны характар.

**Дакументаванне**: паасобныя крокі, погляды, сустрэчы падчас кансультацый павінны дакументавацца, а зацікаўленыя ўдзельнікі кансультацый могуць на дадзеныя дакументы спасылацца і хадайнічаць аб іх выпраўленні ў адпаведнасці з фактычным станам.

**Трываласць і адваротная сувязь**: кансультацыйны працэс павінен мець трывалы, планавы характар і быць скіраваным да задэклараванай мэты. Удзельнікі кансультацый могуць разлічваць на публічную рэакцыю на заяўленыя меркаванні як падчас дэбатаў, так і падчас падвядзення вынікаў.

**Каардынацыя**: у кансультацыйнага працэсу павінен быць каардынатар, асоба з важнымі палітычнымі функцыямі ў публічнай структуры (мэр горада, стараста), пры поўнай актыўнасці падпарадкаванай ёй адміністрацыі. Публічная адміністрацыя, што прытрымліваецца гэтых правілаў, мае права чакаць ад грамадскіх партнёраў дзвюх рэчаў: прызнання факту наяўнасці ў яе дэмакратычнай легітымнасці і адказнасці партнёраў за прадстаўленыя меркаванні.

## Інструменты правядзення кансультацый

У адносінах да розных асяроддзяў трэба выкарыстоўваць розныя тэхнікі, і рознымі павінны быць чаканні ад меркаванняў, якія можна атрымаць. Напрыклад, у адносінах да людзей, якія арыентуюцца ў дадзеным пытанні (персанал, эксперты, зацікаўленыя групы, асобы, якія прымаюць непасрэдны ўдзел у рэалізацыі гэтага мерапрыемства, ці яго адрасаты), можна выкарыстоўваць такія метады, як апытальнікі ці запрашэнні пісьмова пракаментаваць прапанаваныя рашэнні. З асобамі, якія непасрэдна не звязаны з укараненнем ці выкарыстаннем дадзенага рашэння (шырокая грамадская думка, асяроддзі, не звязаныя непасрэдным чынам з кансультаваным пытаннем), трэба, хутчэй, выкарыстоўваць такія метады, як сустрэчы, дні адчыненых дзвярэй, выставы, групавыя фокусныя інтэрв'ю.

## Інфармаванне — гэта фундамент

Ёсць істотнае адрозненне паміж доступам да інфармацыі і інфармаваннем. У першым выпадку дзеянні адміністрацыі маюць рэактыўны характар, а ў другім — актыўны. Далей знаходзяцца некалькі прыкладаў інструментаў, што даюць доступ да інфармацыі.

### Формы прадастаўлення інфармацыі

**Пасіўныя:**

- інфалінія ва ўстанове;
- кіёск з інфармацыяй у выглядзе адасобленага месца ці кампутарнага тэрмінала;
- інфармацыйныя брашуры для грамадзян;
- бюлетэнь публічнай інфармацыі (салідна зроблены);
- сайт з магчымасцю задаваць пытанні, шукаць дакументы, трансляваць пасяджэнні, выпісваць інфармацыю ў выглядзе бюлетэняў ці выбіраць інфармацыю (спампоўваць інфармацыю, змест якой быў загадзя акрэслены карыстальнікам);
- адкрытыя інфармацыйныя сустрэчы, дні адчыненых дзвярэй і г.д.;
- магчымасць удзелу ў якасці назіральнікаў у пасяджэннях калегіяльных органаў адміністрацыі (у тым ліку ў камісіях рознага кшталту).

**Актыўныя:**

- прэс-канферэнцыі;
- абвесткі ў прэсе;
- праграмы ў СМІ;
- выпуск уласнага інфармацыйнага бюлетэня;
- адкрытыя прэзентацыі ці выставы праектаў.

### Запытайце ўласных супрацоўнікаў

Гэта адзін з найбольш простых метадаў збору меркаванняў наконт прапанаваных рашэнняў. Вядома, гэта не грамадскія кансультацыі ў адпаведным значэнні гэтага слова, але гэта не дыскваліфікуе такі метад як добры спосаб атрымання дадзеных перадусім на першым этапе праекта. Гэтае дзеянне абапіраецца на атрыманне меркаванняў ад тых супрацоўнікаў установы, якія маюць непасрэдныя кантакты з асобамі і арганізацыямі, зацікаўленымі тымі пытаннямі, што з'яўля-

юцца прадметам кансультацый. Выкарыстоўваючы нармальныя працэдуры, што дзейнічаюць ва ўстановах (нататкі, нарады, размовы), можна здабыць веды наконт таго, што выклікае занепакоенасць і супрацiў зацікаўленых суб'ектаў і што варта змяніць. Аднак атрыманыя такім чынам заўвагі нерэпрэзентатыўныя, а супрацоўнікі не заўсёды настолькі адукаваныя, каб добра разбірацца ў поглядах і настроях асобаў, непасрэдна зацікаўленых кансультаванымі пытаннямі. Да таго ж можа з'явіцца праблема ў тым, што супрацоўнікі не будуць зацікаўлены абнародаваннем крытычных водгукаў наконт тых мясцовасцей, за якія яны адказныя.

**Аналіз зваротнай інфармацыі — каментары, меркаванні і скаргі**

Гэты метад заключаецца ў заахвочванні патэнцыйных партнёраў выражаць свае меркаванні і каментары наконт агучаных раней прапаноў. Дадзеныя меркаванні могуць выражацца як у пісьмовай, так і ў вуснай форме. Пры яе выкарыстанні надзвычай важны распаўсюд інфармацыі аб магчымасці выразіць такога кшталту каментары і выпрацаваць працэдуру іх прыняцця. Перавага гэтага метаду — бясплатнае атрыманне зваротнай інфармацыі, ацэнак, што паказваюць слабыя і моцныя бакі агучаных прапаноў, лёгкі спосаб правядзення, ашчаднасць часу і сродкаў, а таксама дэманстрацыя таго, што афіцыйная ўстанова адкрытая на заўвагі з боку грамадства. Несумненны мінус — нізкая рэпрэзентатыўнасць атрыманых меркаванняў і той факт, што наогул гэтыя меркаванні хутчэй за ўсё будуць у большай ступені датычыцца негатыўных бакоў існуючых рашэнняў, а не прапанаваных зменаў.

**Дні адчыненых дзвярэй, вулічныя паказы, выставы**

Дні адчыненых дзвярэй і рознага кшталту выставы могуць быць падзеямі фармальнымі, спалучанымі з адмысловымі дыскусіямі і прэзентацыямі. Яны, аднак, могуць, як і вулічныя паказы, адбывацца ў больш свабоднай форме і такім чынам стаць дасканалай нагодай для перадачы інфармацыі і адказаў на пытанні людзей, не зацікаўленых афіцыйнымі сустрэчамі. Вельмі важны ў такім выпадку адпаведны падбор месца і часу гэтых мерапрыемстваў, што дазволіць удзельнічаць як

мага большай колькасці грамадзян і падрыхтаваць прывабныя інфармацыйныя і прамацыйныя матэрыялы. Мэта арганізацыі такіх падзей — не атрыманне канкрэтных зваротных меркаванняў наконт кансультаваных пытанняў, а перш за ўсё абуджэнне грамадскай зацікаўленасці.

## Адкрытыя сустрэчы

Адкрытыя сустрэчы адрасаваны шырокаму колу зацікаўленых асобаў. Яны дазваляюць атрымаць больш шырокую інфармацыю і публічна выказаныя меркаванні наконт пытанняў, што з’яўляюцца прадметам грамадскіх кансультацый. Гэтыя сустрэчы звычайна ладзяцца ў грамадскіх месцах так, каб усе зацікаўленыя маглі ў іх паўдзельнічаць. Менавіта таму вельмі важна распаўсюдзіць інфармацыю аб планаванай сустрэчы сярод усіх патэнцыйных зацікаўленых. У некаторых выпадках — ці з-за колькасці ўдзельнікаў, ці з-за характару абмяркоўваемых пытанняў — варта падзяліць удзельнікаў на меншыя групы: альбо яны будуць паралельна працаваць над адным і тым жа пытаннем, альбо над падзеленымі паміж групамі асобнымі аспектамі дадзенай праблемы. Малыя групы дазваляюць змяніць звычайны досыць аднабаковы характар сустрэчы на больш інтэрактыўны і двухбаковы. Акрамя таго, больш людзей можа выказацца. Нягледзячы на адкрыты характар сустрэч, яны практычна ніколі не маюць рэпрэзентацыйнага характару. Часта асобы, якія ў іх удзельнічаюць, канцэнтруюцца на лакальных, цякучых ці нават асабістых пытаннях. І ў асяродку няўрадавых арганізацый паўторны элемент сустрэч — серыі аўтапрэзентацый (заслуг ці скаргаў) некаторых арганізацый, што не надта звязана з самой тэмай. Такім чынам, сустрэчы — гэта важная, але зусім недастатковая форма кансультацый.

## Выкарыстоўванне рэпрэзентацыйных груп

Гэты метад грунтуецца на запрашэнні на кансультацыі галіновых і спецыялізаваных няўрадавых арганізацый, што рэпрэзентуюць пасобныя асяроддзі. Іх веды і досвед, часта экспертнага характару, спрыяюць таму, што прадстаўленыя імі меркаванні часцей за ўсё вельмі каштоўныя. Важнай з’яўляецца дакладнасць у знаходжанні такога

кшталту арганізацый ды збор інфармацыі пра групы, якія яны прадстаўляюць, і сфера іх дзейнасці. Кансультацыі могуць мець характар дыскусіі, у якой удзельнічаюць адначасова ўсе арганізацыі, альбо асобных двухбаковых размоў. Плюсы ад выкарыстоўвання гэтага метаду: атрыманне — досыць танна і хутка — канкрэтнай інфармацыі і стварэнне платформы абмену поглядамі па адмысловых рашэннях. Трэба, аднак, засцерагацца ад празмерных спадзяванняў, што выходзяць паза самую сустрэчу. Добра праведзенае спатканне — крыніца каштоўнай інфармацыі, але не варта чакаць таго, што яго ўдзельнікі аўтаматычна будуць гатовы ў доўгатэрміновай перспектыве прымаць актыўны ўдзел у працэсе, накіроўваць экспертызы і гатовыя рашэнні. Калі гэта патрэбна, то арганізатары кансультацый, магчыма, павінны падумаць аб фінансавай падтрымцы такіх дзеянняў. Варта нагадаць, што шматлікія арганізацыі могуць быць засяроджаныя на прадстаўленні выключна пэўнай сацыяльнай групы, і таму на практыцы складана нейкую з іх успрымаць як прадстаўніка ўсіх зацікаўленых. Гэта не прычына ігнараваць іх меркаванні, а пастулат такога падбору арганізацый, каб стварыць шырокую панараму пунктаў гледжання.

### Індывідуальныя інтэрв’ю

Гэты метад дазваляе здабыць дэталёвыя веды наконт поглядаў, пазіцый, паводзін і матывацыі некаторых груп асобаў. У выпадку грамадскіх кансультацый інтэрв’ю могуць стаць толькі ўступам да паглыбленых даследаванняў ці могуць выкарыстоўвацца ў адносінах да людзей, выключаных з галоўнай плыні кансультацый. Іх прафесійнае правядзенне, з улікам неабходных для размовы часу і дакументацыі, можа быць досыць каштоўным і патрабаваць удзелу адмыслоўцаў.

### Фокус-групы

Правядзенне грамадскіх кансультацый пры дапамозе малых фокус-груп (іншая назва: групавыя фокусныя інтэрв’ю) і дыскусій на некаторыя пытанні карыснае для атрымання паглыбленых ведаў аб поглядах спецыфічных грамадскіх груп і іх патрэбах, якія складана вызначыць у традыцыйных даследаваннях на рэпрэзентатыўнай групе (напрыклад патрэбы бацькоў, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю). Падобным

чынам, як і ў выпадку інтэрв’ю, трэба ўлічваць большыя выдаткі і неабходнасць знайсці спецыялістаў. Фокус-групы — добрае дапаўненне да іншых метадаў, асабліва прыдатнае на этапе праектавання вялікіх кансультацыйных мерапрыемстваў.

### Даследаванні на рэпрэзентатыўнай групе

Дзякуючы колькасным даследаванням, установа, якая вядзе кансультацыі, атрымлівае канкрэтныя статыстычныя дадзеныя. Гэты метад дазваляе пазнаёміцца з поглядамі рэпрэзентатыўнай групы грамадзян. Акрамя таго, ён дазваляе параўнаць вынікі, атрыманыя ў рэгулярных прамежках часу. Даследаванні на рэпрэзентатыўнай групе могуць праводзіцца рознымі метадамі (паштовымі, непасрэдным інтэрв’ю, тэлефоннымі даследаваннямі і г.д.). Гэта могуць быць даследаванні, прысвечаныя выключна праблемам аднаго заказчыка, ці таксама (танней) можна ўключыць наш блок пытанняў для рэгулярных паўторных амнібусных даследаванняў. Стварэнне праекта даследавання і яго рэалізацыя ў любым выпадку патрабуе метадалагічнага кантролю адмыслоўца (такая асоба можа быць і супрацоўнікам дзяржаўнай установы ці знешняй фірмы). Гэта асабліва важна, калі ўзяць пад увагу досыць вялікія выдаткі, звязаныя з выкарыстаннем дадзенага метаду.

### Пісьмовыя кансультацыі

Дадзены метад заключаецца перадусім у падрыхтоўцы кансультацыйнага дакумента. Тут трэба, аднак, падкрэсліць, што ў выпадку такога кшталту кансультацый роля зацікаўленых грамадскіх партнёраў — падрыхтоўка пісьмовых адказаў на атрыманы раней дакумент. У ім павінна быць запрашэнне на кансультацыі, прадстаўленне прадмета кансультацый — наогул, у форме пытанняў — і падрабязная інфармацыя аб тым, якія правілы ўдзелу ў працэсе (хто, калі і дзе можа заяўляць заўвагі і г.д.). Кансультацыйны дакумент павінен мець і метрыку з характарыстыкай істотных рыс суб’екта, які заявіў меркаванне (від установы, рэгіён і г.д.) — безумоўна, метрыка павінна даваць магчымасць указаць назву ўстановы ці прозвішча і імя асобы. Калі частка меркавання — пытанне, то, вядома, павінна быць месца на зваротны адрас, на

які можна будзе накіраваць адказ. У выпадку электронных кансультацый можна проста змясціць адказ на сайтах установы, што вядзе кансультацыі.

### Слуханні грамадскай думкі

Працэдура грамадскіх слуханняў (*Public hearing*) дазваляе кожнаму зацікаўленаму прадставіць свой погляд непасрэдна тым, хто адказны за заканадаўчыя ці тэхнічныя рашэнні па гэтым пытанні. Правілы слуханняў могуць адрозніваца дэталямі, аднак іх аб'ядноўвае спецыфічная паслядоўнасць дзеянняў: абвестка ці запрашэнне да ўдзелу, заяўка аб удзеле, слуханні, фармуляванне і абнародаванне працэсу слуханняў і зробленых высноў. У слуханнях мае права ўдзельнічаць любы жадаючы, хоць час выступленняў і прапорцыя паасобных груп удзельнікаў (напрыклад фізічных асоб, арганізацый, эспертаў) можа рэгулявацца. Правілы выказванняў фармалізаваныя (адкрытая інфармацыя аб тых, хто выказваецца, аднолькавы час выказванняў для кожнага выступоўцы і г.д.).

### Пасля завяршэння кансультацый — як гэта ўсё сабраць?

Кансультацыі маюць сэнс толькі тады, калі яны прыносяць нейкі плён. *Па-першае*, неабходна прааналізаваць сабраныя матэрыялы. Аналіз — гэта штосьці большае, чым проста збор інфармацыі. Неабходна катэгарызаваць сабраную інфармацыю, інтэрпрэтаваць яе і зразумець вагу асобных меркаванняў у кантэксце таго, хто іх аўтар.

*Па-другое*, арганізатары кансультацый павінны прадставіць публічную справаздачу з вынікамі. У справаздачы трэба нагадваць аб мэтах кансультацый і пытаннях, што былі іх прадметам, а таксама апісанне метадаў, якімі праводзіліся кансультацыі; акрэсленне колькасці ўстаноў, асяроддзяў і асобаў, якія ў іх ўдзельнічалі (з указаннем канкрэтных назваў і дакладным вызначэннем профілю істотных сацыяльных рыс удзельнікаў); разгляд арганізатарам заўваг, заяўленых падчас кансультацый, — перадусім указанне на тыя, што будуць улічаны ў канчатковым варыянце кансультаваных рашэнняў.

*Па-трэцяе*, арганізатары кансультацый павінны ў нейкай форме звязацца, прынамсі, з некаторымі ўдзельнікамі кансультацый. Варта падзякаваць ім за ўдзел, даслаць справаздачу па кансультацыях, а там, дзе гэта абгрунтавана, — пракаментаваць зробленыя імі заўвагі.

## Дадатак № 3.
## Ключавыя моманты кансультацый

Інфармаванне, камунікацыя і грамадскія кансультацыі могуць адбывацца на любым этапе працы над стратэгіяй. Важна, аднак, каб у некаторых ключавых момантах камунікаваць з мясцовымі жыхарамі.

Этапы стварэння групы:

- інфармаванне жыхароў аб рашэнні актуалізаваць дакумент і стварыць групу;
- інфармацыя павінна быць накіравана (напрыклад па электроннай пошце) дзяржаўным установам на дадзенай тэрыторыі, няўрадавым арганізацыям, прыватным установам, рэлігійным аб'яднанням, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады; калі гэта магчыма, інфармацыя павінна быць абнародавана на сайце лакальных уладаў і на сайтах устаноў, якія накіравалі асобаў у групу.

Інфармацыя павінна змяшчаць:

- дадзеныя аб рашэнні па актуалізацыі (абавязванне лакальных уладаў у якасці Дадатка);
- іменны спіс асобаў, якія ўваходзяць у склад групы, з іх электроннымі адрасамі;
- папярэдні графік працы групы;
- запланаваны графік кансультацый.

Этапы дыягностыкі:

- прадметам кансультацый павінна быць ацэнка важнасці дыягназаваных групай сацыяльных праблем, што існуюць на тэрыторыі пэўнай мясцовасці;
- сабраныя каментары і ўвагі не маюць абавязковай моцы, яны — перадумовы, якія дазваляюць сябрам групы правесці ранжыраванне дыягназаваных праблем;
- рэкамендаваны спосаб кансультацыі на дадзеным этапе — гэта адкрытая сустрэча групы і асоб, зацікаўленых стратэгіяй;
- інфармацыя аб адкрытай сустрэчы павінна быць накіравана па электроннай пошце дзяржаўным установам на дадзенай тэрыторыі, няўрадавым арганізацыям, прыватным установам, рэлігійным аб'яднанням, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады; калі гэта магчыма, інфармацыя павінна быць абнародавана на сайце лакальных уладаў і на сайтах устаноў, якія накіравалі асобаў у групу;

- падчас сустрэчы павінны занатоўвацца ўсе заўвагі яе ўдзельнікаў, мусіць быць створаны спіс удзельнікаў сустрэчы з іх электроннымі адрасамі;
- пасля вызначанага часу (напрыклад на працягу двух тыдняў пасля сустрэчы) павінен быць пратакол сустрэчы са зваротнай інфармацыяй на тэму заўваг, якія найбольш часта прад'яўляліся.

**Этапы выбару праблем для вырашэння**

Інфармацыю аб папярэднім выбары праблем для вырашэння неабходна даслаць дзяржаўным установам на дадзенай тэрыторыі, няўрадавым арганізацыям, прыватным установам, рэлігійным аб'яднанням, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады, і асобам, зацікаўленым стратэгіяй (прысутным на сустрэчы і тым, якія даслалі электронныя лісты); калі гэта магчыма, інфармацыя павінна быць абнародаваная на сайце лакальных уладаў ды на сайтах устаноў, якія накіравалі асобаў у групу.

**Этап фармулявання асноўных мэтаў**

Інфармацыю з просьбай дасылаць ідэі наконт патэнцыйных дзеянняў, што дазволяць дасягнуць прапанаваных мэтаў, варта даслаць дзяржаўным установам на дадзенай тэрыторыі, няўрадавым арганізацыям, прыватным установам, рэлігійным аб'яднанням, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады; калі гэта магчыма, інфармацыя павінна быць абнародавана на сайце лакальных уладаў і на сайтах устаноў, якія накіравалі асобаў у групу.

Пасля атрымання адказу варта як мага хутчэй (напрыклад на працягу двух тыдняў) абнародаваць адказ з каментарам групы.

## Дадатак № 4.
## Фармуляр для заяўкі заўваг па праекце

**Інфармацыя аб заяўніку заўвагі**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Імя і прозвішча | | | |
| Назва арганізацыі/установы | | | |
| Паштовы адрас | | | |
| Электронны адрас | | | |
| Тэлефон | | Факс | |

*Па меры магчымасці просім запоўніць усе рубрыкі гэтай табліцы.*

**Заяўленыя заўвагі, пастулаты, прапановы**

| № | Цытата дакумента для кансультацыі (№ старонкі) | Змест заўвагі (прапанова зменаў) | Абгрунтаванне заўвагі |
|---|---|---|---|
| 1 | | | |
| 2 | | | |
| … | | | |

## Крок 4. Стварэнне каманды: падзел роляў і заданняў

Для таго каб распачаць працу, неабходна мець:
- абавязацельства аб стварэнні/актуалізацыі стратэгіі.

Вынікі працы:
- створана група;
- прызначаны каардынатар і/ці старшыня;
- падзел заданняў і абавязкаў;
- акрэслены і зацверджаны правілы працы групы.

Калектыў па працы над стратэгіяй прызначаюць лакальныя ўлады.

Для таго каб праца групы мела пэўны ранг, ёй кіруе асоба, якая штодня выконвае важную функцыю ў структуры лакальных уладаў.

За тэхнічныя і арганізацыйныя пытанні адказвае каардынатар, які павінен валодаць уменнямі, неабходнымі для вядзення калектыўнай працы. Групе, каардынатару і старшыні надаюцца неабходныя паўнамоцтвы, у тым ліку ў галіне атрымання інфармацыі з асяродкаў, падпарадкаваных уладам гміны/павета.

Група адказвае за стварэнне/актуалізацыю стратэгіі. Яна павінна быць міждысцыплінарнай і складацца з асобаў розных сектараў: публічнага, прыватнага, няўрадавага, а таксама з прадстаўнікоў жыхароў. Асобы, якія ўваходзяць у склад групы, павінны ведаць спецыфіку мясцовасці і арыентавацца ў яе патрэбах. Эфектыўнасць працы групы залежыць ад актыўнасці людзей, якія ў ёй працуюць, але яшчэ ў большай ступені — ад прынятай у групе арганізацыі працы.

Важнымі элементамі такой арганізацыі з’яўляецца:

- выразны падзел роляў у групе;
- выразны падзел заданняў;
- прынятыя групай правілы з празрыстай працэдурай узгаднення вынікаў працы, увядзення зменаў, мадыфікацыі ўзгадненняў, графікі сустрэч, спосабы і каналы камунікацыі і г.д.

**Інфармаванне і кансультацыі**

Інфармаванне жыхароў аб рашэнні стварыць/актуалізаваць дакумент і аб стварэнні групы.

Інфармацыя можа быць накіравана, напрыклад, па электроннай пошце дзяржаўным установам у дадзенай мясцовасці, няўрадавым арганізацыям, прыватным установам, рэлігійным аб’яднанням, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады. Калі ёсць такая магчымасць, інфармацыя павінна з’явіцца на сайце лакальных улад, а таксама на сайтах установаў, што ўдзельнічаюць у працах групы.

Інфармацыя павінна ўтрымліваць наступныя звесткі:

- абавязацельства па стварэнні/актуалізацыі стратэгіі (абавязацельства лакальных улад);
- іменны спіс сяброў групы разам з іх электроннымі адрасамі;
- папярэдні графік працы групы;
- запланаваны графік кансультацый;
- дадзеныя асобы, адказныя за грамадскія кансультацыі па стварэнні/ актуалізацыі стратэгіі.

## Дадатак № 5.
## Прынцыпы працы і працэдура стварэння групы па пытаннях стратэгіі

Працэдура стварэння групы па пытаннях стратэгіі:

- група ствараецца лакальнымі ўладамі;
- група ўпаўнаважваецца выпрацаваць дакумент з гарантыяй таго, што вынікі яе працы будуць абавязковымі;

- групе надаюцца кампетэнцыі, неабходныя для правядзення працы, звязанай са стратэгіяй, у прыватнасці для наступнага:
  - аналізаваць і выносіць прапановы;
  - рыхтаваць чарговыя версіі дакумента;
  - ацэньваць;
  - актуалізаваць.

**Сябры групы па пытаннях стратэгіі**

Асобы, якія ўваходзяць у склад групы, робяць гэта добраахвотна і абавязуюцца змястоўна працаваць над дакументам. Асобам, якія ўваходзяць у склад групы, пажадана выплаціць ганарар за іх працу.

Рэкамендуецца, каб у склад групы ўвайшлі прадстаўнікі:

- лакальных уладаў;
- асветніцкіх пляцовак;
- пляцовак апекі над дзецьмі;
- службаў па навядзенні парадку;
- медычных службаў;
- рэлігійных аб'яднанняў;
- няўрадавых арганізацый;
- лакальных нефармальных груп;
- а таксама ўсе зацікаўленыя супрацоўніцтвам пры стварэнні стратэгіі.

Працай групы кіруе прызначаны для гэтага старшыня.

Роля старшыні — падтрымка каардынатара ў атрыманні інфармацыі, прыняцце рашэнняў па спрэчных пытаннях, падтрымка сяброў групы ў выкананні іх ролі.

Старшыня мае права вырашаць наконт прыярытэтаў, акрэсленых у стратэгіі, але такая сітуацыя можа мець месца толькі напачатку працэсу стварэння стратэгіі, яе не павінна быць перад самым завяршэннем працы.

Працай групы кіруе каардынатар групы па пытаннях стратэгіі.

Працамі групы кіруе, мадэруе іх і каардынуе прызначаная для гэтага асоба.

Функцыі каардынатара працы групы можна даверыць асобе, працаўладкаванай ў структурах лакальных уладаў, альбо асобе не з гэтых структур.

Каардынатар адказвае за тэхнічнае і арганізацыйнае абслугоўванне працы групы.

Каардынатар групы павінен атрымліваць за гэтую працу дадатковы ганарар.

**Прынцыпы дзеяння групы па пытаннях стратэгіі**

Група абавязана выпрацаваць правілы і прынцыпы супрацоўніцтва, у тым ліку механізмы прыняцця рашэнняў і графік працы. Групе рэкамендуецца сустракацца кожныя два тыдні. Значная частка працы мусіць выконвацца паміж сустрэчамі. Супрацоўніцтва павінна абапірацца на прынцыпах партнёрста і імкнення да кансэнсусу.

Пры неабходнасці група ў рамках сваіх патрэб можа дзяліцца на працоўныя падгрупы.

**Колькасць сяброў групы**

Колькасць сяброў групы неабмежаваная. Ствараючы групу, трэба, аднак, памятаць, што яна мае працоўны характар. Лічыцца, што эфектыўныя групы не павінны налічваць больш за 7–10 чалавек. У выпадку, калі ствараецца большая група, трэба падумаць, ці не будуць некаторыя асобы лепш выконваць сваю ролю ў якасці знешніх экспертаў. Тады яны запрашаюцца на паасобныя сустрэчы сяброў групы для працы над некаторымі фрагментамі планіровачнага дакумента.

## Крок 5.
## Супрацоўніцтва з уладамі

Удзел лакальных уладаў у працах па стварэнні/актуалізацыі стратэгіі з'яўляецца ключавым для якасці дакумента.

Група па пытаннях стратэгіі павінна ў бягучым рэжыме прадстаўляць уладам ходу сваёй працы і яе вынікі. Дадзенае супрацоўніцтва мусіць адбывацца па асноўных момантах у адпаведнасці з графікам працы групы: падчас дыягностыкі, фармулявання галоўных мэтаў, стварэння праграм дзеяння, грамадскіх кансультацый.

# БЛОК 2.
# СТРАТЭГІЧНАЕ ПЛАНАВАННЕ

Захады, апісаныя ў 2-м і 3-м кроках, рэкамендуюць пэўны стыль працы, які прывядзе да стварэння ці актуалізацыі стратэгіі.

## Крок 6.
## Дыягностыка па акрэсленні сацыяльных праблем, звязаных з пытаннем інваліднасці

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • створаную групу;<br>• прызначанага каардынатара і/ці старшыню;<br>• размеркаванне заданняў і абавязкаў;<br>• акрэсленыя і зацверджаныя правілы працы групы. | • выдзеленыя сацыяльныя праблемы, у тым ліку праблемы, звязаныя з пытаннем інваліднасці. |

Мэта дыягностыкі — акрэсліць сацыяльныя праблемы, у тым ліку праблемы, звязаныя з пытаннем асобаў з інваліднасцю, што маюць месца у дадзенай мясцовасці і патрабуюць вырашэння, знаходжання прычын іх узнікнення і акрэслення трэндаў іх далейшага працякання ў той сітуацыі, калі не будзе ніякага ўмяшальніцтва.

Ідэнтыфікацыя сацыяльных праблем — гэта такое акрэсленне рэальнасці, якое дазваляе вызначыць сферы неабходных зменаў.

Акрэсленне таго, якая ёсць рэчаіснасць, патрабуе збору дадзеных і інфармацыі наконт усіх актуальных і патэнцыйных (такіх, пра якія мы ведаем, што яны могуць неўзабаве з'явіцца) сацыяльных праблем у дадзенай сферы. Інфармацыя можа стаць падставай для планавання толькі тады, калі яна важная для жыцця жыхароў. Інфармацыя, незалежна ад таго, ці яна ўказваецца ў лічбах, ці апісальная, павінна быць надзейнай, то бок абапірацца на фактычныя дадзеныя.

Інфармацыя можа быць атрымана пры дапамозе рознай тэхнікі і метадаў, кожны з якіх дае адрозную інфармацыю і кожны мае сваю спецыфічную перавагу.

### Мазгавы штурм

***Мазгавы штурм*** — гэта метад, што дазваляе стварыць папярэдні спіс сацыяльных праблем. Ён грунтуецца на ведах асобаў, якія ўваходзяць у склад групы. Каштоўнасць метаду — гэта шанец лепш пазнаёміцца сябрам групы.

## Дадатак № 6. Мазгавы штурм

### Апісанне метаду

Мазгавы штурм — гэта метад, які можна выкарыстаць у большасці сітуацый, калі нам важна сабраць інфармацыю ад сяброў групы.

Добра праведзены мазгавы штурм дазаляе:

- "сабраць" ад групы інфармацыю, абапіраючыся на рэсурсы ведаў асобных людзей;
- адпаведным чынам сфармуляваць пытанне і зрабіць належныя высновы з адказу;
- інтэгравацца з групай і заахвоціць, каб выказаліся тыя асобы, якія па розных прычынах не адчуваюць сябе на роўных у дыскусіі.

### Працэдура правядзення

Для правядзення мазгавога штурму трэба задаць групе адкрытыя пытанні.

У выпадку працы над стратэгіяй, гэта могуць быць пытанні кшталту:

- "Якія, на вашую думку, найбольш істотныя праблемы гміны?"
- "Як павінна выглядаць гміна?"
- "Што трэба змяніць?"
- І г.д.

Асноўны прынцып мазгавога штурму: чым больш адказаў, тым лепш. Таму абавязак мадэратара дыскусіі — перш за ўсё заахвочваць усіх гаварыць тое, што прыходзіць ім у галаву.

Перад правядзеннем мазгавога штурму мы знаёмім групу з яе асноўнымі правіламі:

- падчас мазгавога штурму ў кожнага ёсць права выказацца на дыскутаваную тэму, ніхто нікога не перабівае, не каментуе і не

ацэньвае адказаў, не спасылаецца ў сваіх адказах на выказванні іншых людзей;

- нельга “фільтраваць” адказы — кожны з іх, нават найбольш радыкальны ці вар’яцкі, з’яўляецца каштоўным і важным, кожны адказ трэба запісаць на дошцы (ці на папяровым аркушы);
- група павінна засяродзіцца на заданні, а не рассейваць сваю ўвагу на нейкія абмежаванні, напрыклад думаючы: “Ці ніхто яшчэ гэтага не сказаў?”, адказы могуць паўтарацца;
- падчас працы мадэратар мазгавога штурму можа задаваць групе дадатковыя пытанні.

Пасля мазгавога штурму трэба ўказаць на заканамернасці, якія прысутнічаюць у адказах, паказаць адрозненні паміж некаторымі катэгорыямі, правесці класіфікацыю, што дазволіць згрупаваць вынікі і стварыць спіс акрэсленых сацыяльных праблем.

### Апісанне правядзення

Мазгавы штурм павінен пачацца з прадстаўлення яго мэты і абмеркавання правілаў. Сябры групы пералічваюць істотныя — на іх думку — сацыяльныя праблемы, важныя для дадзенага абшару (гміны, павета). Кожная ідэя запісваецца на бачнай усім дошцы. Дзейнічае правіла адсутнасці каментароў і ацэнак. Далей каардынатар перапісвае ўсе заяўленыя ідэі ў форме спісу. Група іх групіруе і парадкуе: ёсць магчымасць выключыць прапановы, якія нельга абараніць змястоўнай аргументацыяй. Да складзенага такім чынам спісу праблем мы ставімся як да прапаноў, падказак групы. На дадзеным этапе мы пакуль не ацэньваем, важныя праблемы ці не, можна іх вырашыць ці не. Мы яшчэ не выбіраем, якімі праблемамі мы будзем займацца. Такія ацэнка і выбар адбудуцца пасля завяршэння ўсяго блоку дыягностыкі.

Тэхніка мазгавога штурму патрабуе добрай арганізацыі, а менавіта наступнага:

- падрыхтоўкі сустрэчы: зала, магчымасць запісу заяўленых прапаноў на бачным месцы (фліпчарт, праектар), расстаноўка крэслаў так, каб можна было сачыць за запісамі;
- мадэрацыі сустрэчы: кантракт наконт стылю працы, канцэнтрацыя на праблемах (абмежаванне лірычных адступленняў), ад-

крытасць (мы не ацэньваем ані ўласных, ані іншых ідэй), акрэсленне часу працы на сустрэчы;

- падвядзення вынікаў сустрэчы і закрыцця спісу заяўленых праблем.

**Дэмаграфічна-эканамічныя дадзеныя**

Важная крыніца інфармацыі аб сацыяльных праблемах — гэта дэмаграфічна-эканамічныя дадзеныя. Неабходна сабраць статыстычныя дадзеныя, прынамсі за апошнія тры гады (гады перад пачаткам працы над стратэгіяй). Аналіз сабранага дэмаграфічна-эканамічнага матэрыялу дазволіць акрэсліць хаду і напрамак зменаў (трэнд). Важным матэрыялам з'яўляецца структура насельніцтва з улікам, у прыватнасці, узросту, пола, наяўнасці інваліднасці, эканамічнай актыўнасці. Аналіз дэмаграфічна-эканамічных дадзеных дазволіць папоўніць спіс праблем, атрыманых дзякуючы метаду мазгавога штурму.

## Дадатак № 7.
## Табліца: дэмаграфічна-эканамічная структура

Для кожнай катэгорыі матрыцы неабходна сабраць колькасныя альбо працэнтныя дадзеныя.

| | | **2014** | **2015** | **2016** | **Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен** |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Жанчыны | | | | |
| | Мужчыны | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Жанчыны | | | | |
| | Мужчыны | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | Жанчыны | | | | |
| | Мужчыны | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з камбінаванай інваліднасцю | Жанчыны | | | | |
| | Мужчыны | | | | |
| | Разам | | | | |

*Працяг табліцы*

| | | 2014 | 2015 | 2016 | Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з інваліднасцю | Жанчыны | | | | |
| | Мужчыны | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Дзеці | | | | |
| | Моладзь | | | | |
| | Дарослыя | | | | |
| | Сталыя людзі | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Дзеці | | | | |
| | Моладзь | | | | |
| | Дарослыя | | | | |
| | Сталыя людзі | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | Дзеці | | | | |
| | Моладзь | | | | |
| | Дарослыя | | | | |
| | Сталыя людзі | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з камбінаванай інваліднасцю | Дзеці | | | | |
| | Моладзь | | | | |
| | Дарослыя | | | | |
| | Сталыя людзі | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з інваліднасцю | Дзеці | | | | |
| | Моладзь | | | | |
| | Дарослыя | | | | |
| | Сталыя людзі | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Аднаасабовая хатняя гаспадарка | | | | |

*Працяг табліцы*

| | | **2014** | **2015** | **2016** | **Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен** |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Хатняя гаспадарка з некалькіх чалавек, у тым ліку: | | | | |
| | • поўная сям'я; | | | | |
| | • поўная шматдзетная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная шматдзетная сям'я | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Аднаасабовая хатняя гаспадарка | | | | |
| | Хатняя гаспадарка з некалькіх чалавек, у тым ліку: | | | | |
| | • поўная сям'я; | | | | |
| | • поўная шматдзетная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная шматдзетная сям'я | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | Аднаасабовая хатняя гаспадарка | | | | |
| | Хатняя гаспадарка з некалькіх чалавек, у тым ліку: | | | | |
| | • поўная сям'я; | | | | |
| | • поўная шматдзетная сям'я; | | | | |

*Працяг табліцы*

| | | **2014** | **2015** | **2016** | **Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен** |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | • няпоўная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная шматдзетная сям'я | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з камбінаванай інваліднасцю | Аднаасабовая хатняя гаспадарка | | | | |
| | Хатняя гаспадарка з некалькіх чалавек, у тым ліку: | | | | |
| | • поўная сям'я; | | | | |
| | • поўная шматдзетная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная шматдзетная сям'я | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з інваліднасцю | Аднаасабовая хатняя гаспадарка | | | | |
| | Хатняя гаспадарка з некалькіх чалавек, у тым ліку: | | | | |
| | • поўная сям'я; | | | | |
| | • поўная шматдзетная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная сям'я; | | | | |
| | • няпоўная шматдзетная сям'я | | | | |
| | Разам | | | | |

*Працяг табліцы*

| | | 2014 | 2015 | 2016 | Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Беднасць | | | | |
| | Крайняя беднасць | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Беднасць | | | | |
| | Крайняя беднасць | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | Беднасць | | | | |
| | Крайняя беднасць | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з камбінаванай інваліднасцю | Беднасць | | | | |
| | Крайняя беднасць | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з інваліднасцю | Беднасць | | | | |
| | Крайняя беднасць | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з сэнсарнай інваліднасцю | Адсутнасць пачатковай адукацыі | | | | |
| | Пачатковая адукацыя | | | | |
| | Базавая адукацыя | | | | |
| | Сярэдняя адукацыя | | | | |
| | Вышэйшая адукацыя | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Адсутнасць пачатковай адукацыі | | | | |
| | Пачатковая адукацыя | | | | |
| | Базавая адукацыя | | | | |
| | Сярэдняя адукацыя | | | | |

*Канец табліцы*

| | | 2014 | 2015 | 2016 | **Напрамак змен, рост, зніжэнне, без змен** |
|---|---|---|---|---|---|
| Асобы з фізічнай інваліднасцю | Вышэйшая адукацыя | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з псіхічнай інваліднасцю | Адсутнасць пачатковай адукацыі | | | | |
| | Пачатковая адукацыя | | | | |
| | Базавая адукацыя | | | | |
| | Сярэдняя адукацыя | | | | |
| | Вышэйшая адукацыя | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з камбінаванай інваліднасцю | Адсутнасць пачатковай адукацыі | | | | |
| | Пачатковая адукацыя | | | | |
| | Базавая адукацыя | | | | |
| | Сярэдняя адукацыя | | | | |
| | Вышэйшая адукацыя | | | | |
| | Разам | | | | |
| Асобы з інваліднасцю | Адсутнасць пачатковай адукацыі | | | | |
| | Пачатковая адукацыя | | | | |
| | Базавая адукацыя | | | | |
| | Сярэдняя адукацыя | | | | |
| | Вышэйшая адукацыя | | | | |
| | Разам | | | | |

### Заданні лакальных уладаў

Створаны спіс сацыяльных праблем можна праверыць пры дапамозе аналізу спіса абавязковых заданняў лакальных уладаў. Такі падыход дазволіць назіраць за ўплывам дзейнняў лакальных улад, звычайна не звязаных з сацыяльнай палітыкай, што патэнцыяльна могуць прывесці да сацыяльных праблем, напрыклад запланаваная аўтамагістраль, якая праходзіць праз мясцовасць і ўскладняе дзецям доступ да школы; адсутнасць планаванага рамонту тратуара, які вядзе ў паліклініку, ускладняе ці не дазваляе сталым людзям дабрацца да лекара. Такі аналіз дае магчымасць папоўніць спіс праблемамі, якія не былі ідэнтыфікаваны групай.

### Кансультацыі, анкетныя даследаванні

Спіс з'яў, якія патрабуюць змен, неабходна абмеркаваць з жыхарамі, няўрадавымі арганізацыямі, рэлігійнымі аб'яднаннямі і г.д.

Добрая крыніца інфармацыі — гэта анкетныя даследаванні жыхароў ці акрэсленых груп, напрыклад вучняў, асобаў з інваліднасцю, жанчын.

Вынікі кансультацый і даследаванняў дазваляюць дакладней сфармуляваць спіс сацыяльных праблем.

### Інфармацыя, адлюстраваная ў стратэгічных дакументах

Важным крокам з'яўляецца праверка спісу сацыяльных праблем шляхам супастаўлення з дзяржаўнымі стратэгічнымі дакументамі.

Трэба ўлічваць у стратэгічных дакументах абавязкі, змешчаныя ў ратыфікаваных дзяржавай міжнародных дакументах, што акрэсліваюць стандарты сацыяльнай палітыкі.

**Аналіз міжнародных стандартаў у галіне сацыяльнай палітыкі таксама можа быць улічаны падчас праверкі праблем, што ўвайшлі ў спіс. Гэтыя стандарты ў выпадку асобаў з інваліднасцю акрэслены ў Канвенцыі ААН аб правах людзей з інваліднасцю.**

## Дадатак № 8.
## Канвенцыя ААН аб правах людзей з інваліднасцю

### ПРЭАМБУЛА

*Дзяржавы-ўдзельніцы гэтай Канвенцыі,*

a) *нагадваючы* аб прынцыпах, абвешчаных у Статуце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, згодна з якімі ўласцівыя кожнаму чалавеку годнасць і каштоўнасць, а таксама роўныя і неад'емныя правы ўсіх членаў чалавечай сям'і прызнаюцца асновай свабоды, справядлівасці і міру ў сусвеце;

b) *прызнаючы*, што Арганізацыя Аб'яднаных Нацый ва Ўсеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і Міжнародных пактах аб правах чалавека, абвясціла і пастанавіла, што кожнаму належаць замацаваныя ў іх правы і свабоды, без якога б там ні было адрознення;

c) *сцвярждаючы* ўніверсальнасць, непадзельнасць, узаемазалежнасць і ўзаемазвязанасць ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама неабходнасць гарантаваць людзям з інваліднасцю карыстанне імі ў поўнай меры і без дыскрымінацыі;

d) *спасылаючыся* на Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, Міжнародную канвенцыю аб ліквідацыі ўсіх форм расавай дыскрымінацыі, Канвенцыю аб ліквідацыі ўсіх форм дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын, Канвенцыю супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыхождання і пакарання, Канвенцыю аб правах дзіцяці і Міжнародную канвенцыю аб абароне правоў усіх працоўных-мігрантаў і членаў іх сям'і;

e) *прызнаючы*, што паняцце інваліднасці змяняецца і што інваліднасць вынікае з узаемадзеяння паміж асобамі, якія маюць парушэнні здароўя, і адносінавымі і асяродкавымі бар'ерамі, якое замінае іх поўнаму і эфектыўнаму ўдзелу ў жыцці грамадства нароўні з іншымі;

f) *прызнаючы* важнасць прынцыпаў і праграмных рэкамендацый, якія змяшчаюцца ў Сусветнай праграме дзеянняў у дачыненні да людзей з інваліднасцю і ў Стандартных правілах па забеспячэнні роўных магчымасцяў для людзей з інваліднасцю, для ўплыву на пашырэнне, фармуляванне і ацэнку стратэгій, планаў, праграм і мерапрыемстваў на

нацыянальным, рэгіянальным і міжнародным узроўнях з мэтай далейшага забеспячэння роўных магчымасцяў для людзей з інваліднасцю;

g) *падкрэсліваючы* важнасць актуалізацыі пытанняў інваліднасці як неад'емнага складніка адпаведных стратэгій устойлівага развіцця;

h) *прымаючы пад увагу таксама*, што дыскрымінацыя любой асобы на падставе інваліднасці ёсць парушэннем уласцівых кожнаму чалавеку годнасці і каштоўнасці;

i) *прызнаючы далей* разнастайнасць людзей з інваліднасцю;

j) *прызнаючы* неабходнасць падтрымліваць і абараняць правы чалавека ўсіх людзей з інваліднасцю, у тым ліку тых, хто патрабуе больш актыўнай падтрымкі;

k) *заклапочаныя тым*, што нягледзячы на гэтыя розныя дакументы і прынятыя меры, людзі з інваліднасцю працягваюць сутыкацца з бар'ерамі, якія перашкаджаюць іх удзелу ў жыцці грамадства нароўні з іншымі, і парушэннямі іх правоў чалавека ва ўсіх частках свету;

l) *прызнаючы* важнасць міжнароднага супрацоўніцтва для паляпшэння ўмоў жыцця людзей з інваліднасцю ў кожнай краіне, асабліва ў краінах, якія развіваюцца;

m) *прызнаючы* каштоўны цяперашні і патэнцыйны ўклад людзей з інваліднасцю ў агульны дабрабыт і разнастайнасць іх мясцовых супольнасцяў, а таксама тое, што садзейнічанне поўнаму ажыццяўленню людзьмі з інваліднасцю правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама паўнавартаснаму ўдзелу людзей з інваліднасцю дазволіць умацаваць іх адчуванне далучанасці і дасягнуць істотнага прагрэсу ў чалавечым, сацыяльным і эканамічным развіцці грамадства і выкараненне галечы;

n) *прызнаючы* важнасць для людзей з інваліднасцю іх асабістай самастойнасці і незалежнасці, у тым ліку свабоды рабіць уласны выбар;

o) *прымаючы* пад увагу, што людзі з інваліднасцю павінны мець магчымасць актыўна ўдзельнічаць у працэсах прыняцця рашэнняў аб стратэгіях і праграмах, у тым ліку тых, якія тычацца іх непасрэдна;

p) *заклапочаныя* складанымі ўмовамі, у якіх знаходзяцца людзі з інваліднасцю, якія падвяргаюцца множным альбо абвостраным формам дыскрымінацыі па прыкмеце расы, колеру скуры, пола, мовы, веравызнання, палітычных альбо іншых поглядаў, нацыянальнага, этнічнага, абарыгеннага ці сацыяльнага пахождання, маёмаснага становішча, нараджэння альбо іншага статусу;

q) *прызнаючы*, што жанчыны і дзяўчаты з інваліднасцю як дома, так і па-за домам часцей могуць стаць ахвярамі гвалту, траўмавання ці здзеку, недагляду, зняважлівага або неналежнага абыхождання ці эксплуатацыі;

r) *прызнаючы*, што дзеці з інваліднасцю павінны мець магчымаць поўнага ажыццяўлення правоў чалавека і асноўных свабод нароўні з іншымі дзецьмі, а таксама ўзгадваючы звязаныя з гэтым абавязацельствы, прынятыя дзяржавамі-ўдзельніцамі Канвенцыі аб правах дзіцяці;

s) *падкрэсліваючы* неабходнасць уліку гендэрных аспектаў ва ўсіх намаганнях па садзейнічанні поўнаму ажыццяўленню правоў чалавека і асноўных свабод людзьмі з інваліднасцю;

t) *падкрэсліваючы* той факт, што большасць людзей з інваліднасцю жывуць ва ўмовах беднасці, і ў сувязі з гэтым прызнаючы крытычную неабходнасць прымаць меры па зніжэнні адмоўнага ўплыву беднасці на людзей з інваліднасцю;

u) *прымаючы пад увагу*, што абстаноўка міру і бяспекі, заснаваная на поўнай павазе замацаваных у Статуце Арганізацыі Аб’яднаных Нацый мэтаў і прынцыпаў і выкананні адпаведных пагадненняў у сферы правоў чалавека, з’яўляецца абавязковай умовай поўнай абароны людзей з інваліднасцю, асабліва падчас узброеных канфліктаў і замежнай акупацыі,

v) *прызнаючы* важнасць даступнасці фізічнага, сацыяльнага, эканамічнага і культурнага асяроддзя, аховы здароўя і адукацыі, а таксама інфармацыі і камунікацыі для надзялення людзей з інваліднасцю магчымасцю поўнага ажыццяўлення правоў чалавека і асноўных свабод;

w) *усведамляючы*, што кожны чалавек, маючы абавязкі перад іншымі людзьмі і перад супольнасцю, да якой ён ці яна належыць, павінен садзейнічаць падтрымцы і захаванню правоў чалавека, замацаваных у Міжнародным білі аб правах чалавека;

x) *перакананыя*, што сям’я ёсць натуральнай і асноўнай ячэйкай грамадства і мае права на абарону з боку грамадства і дзяржавы, і што людзі з інваліднасцю і члены іх сям’і павінны атрымліваць неабходную абарону і падтрымку, якія дазволяць сем’ям рабіць свой унёсак у справу поўнага і роўнага ажыццяўлення правоў людзей з інваліднасцю;

y) *перакананыя*, што ўсебаковая і цэласная міжнародная канвенцыя аб заахвочванні і абароне правоў і годнасці людзей з інваліднасцю

стане важным унёскам у выпраўленне глыбока неспрыяльнага сацыяльнага становішча людзей з інваліднасцю і пашырэнне іх удзелу ў грамадзянскім, палітычным, эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці пры роўных магчымасцях як у развітых краінах, так і ў краінах, якія развіваюцца,
*пагадзіліся аб наступным:*

## Артыкул 1. Мэта

Мэтай дадзенай Канвенцыі з’яўляецца падтрымка, абарона і забеспячэнне поўнага і роўнага ажыццяўлення ўсімі людзьмі з інваліднасцю правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама забеспячэнне павагі да ўласцівай ім годнасці.

Да людзей з інваліднасцю належаць асобы з устойлівымі фізічнымі, псіхічнымі, інтэлектуальнымі альбо сэнсарнымі парушэннямі, якія пры ўзаемадзеянні з рознымі бар’ерамі могуць перашкаджаць іх поўнаму і эфектыўнаму ўдзелу ў жыцці грамадства нароўні з іншымі.

## Артыкул 2. Азначэнні

Для мэтаў гэтай Канвенцыі:

*«камунікацыя»* ўключае выкарыстанне моў, тэкстаў, азбукі Брайля, тактыльнай камунікацыі, буйнога шрыфта, даступных мультымедыйных і друкаваных сродкаў, а таксама аудыёматэрыялаў, сродкаў звычайнай мовы, начытвання, узмацняльных і альтэрнатыўных метадаў, сродкаў і фарматаў зносін, у тым ліку даступнай інфармацыйна-камунікатыўнай тэхналогіі;

*«мова»* ўключае вербальную мову, мову жэстаў і іншыя формы невербальных моў;

*«дыскрымінацыя на падставе інваліднасці»* азначае любое адрозненне, выключэнне альбо абмежаванне з прычыны інваліднасці, мэтай ці вынікам якога з’яўляецца прыніжэнне ці адмаўленне прызнання, рэалізацыі ці ажыццяўлення нароўні з іншымі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, грамадзянскай ці любой іншай сферы. Сюды належаць усе формы дыскрымінацыі, у тым ліку адмова ў належным прыстасаванні;

*«належнае прыстасаванне»* азначае неабходныя і адпаведныя патрэбам мадыфікацыі і карэктывы, якія не з’яўляюцца неапраўданым

альбо празмерным цяжарам і якія прымяняюцца па патрэбе ў канкрэтнай сітуацыі для забеспячэння рэалізацыі ці ажыццяўлення людзьмі з інваліднасцю нароўні з іншымі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод;

*«універсальны дызайн»* азначае дызайн прадуктаў, асяроддзя, праграм і паслуг, які робіць іх прыдатнымі для выкарыстання ўсімі людзьмі ў найбольшай ступені без патрэбы адаптацыі альбо спецыяльнага дызайну. «Універсальны дызайн» не выключае дапаможныя прыстасаванні для канкрэтных груп людзей з інваліднасцю там, дзе гэта патрэбна.

**Артыкул 3. Агульныя прынцыпы**

Агульнымі прынцыпамі гэтай Канвенцыі з'яўляюцца:

a) павага да ўласцівай чалавеку годнасці, яго асабістай самастойнасці, у тым ліку свабоды рабіць свой уласны выбар, і незалежнасці;

b) недыскрымінацыя;

c) поўны і эфектыўны ўдзел і ўключанасць у грамадства;

d) павага да асаблівасцяў людзей з інваліднасцю і прыняцце іх як складніка чалавечай разнастайнасці і часткі чалавецтва;

e) роўнасць магчымасцяў;

f) даступнасць;

g) роўнасць паміж мужчынамі і жанчынамі;

h) павага да здольнасцяў, якія развіваюцца ў дзяцей з інваліднасцю, і павага да права дзяцей з інваліднасцю захоўваць сваю індывідуальнасць.

**Артыкул 4. Агульныя абавязкі**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы бяруць на сябе абавязак забяспечваць і падтрымліваць поўную рэалізацыю ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод усімі людзьмі з інваліднасцю без аніякай дыскрымінацыі на падставе інваліднасці. З гэтай мэтай дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца:

a) прымаць усе адпаведныя заканадаўчыя, адміністрацыйныя і іншыя меры для ажыццяўлення правоў, прызнаных гэтай Канвенцыяй;

b) прымаць усе адпаведныя меры, у тым ліку заканадаўчыя, для змянення ці адмены існуючых законаў, пастаноў, звычаяў і практык, якія з'яўляюцца дыскрымінацыйнымі ў адносінах да людзей з інваліднасцю;

c) улічваць абарону і падтрымку правоў людзей з інваліднасцю ва ўсіх стратэгіях і праграмах;

d) устрымлівацца ад любых дзеянняў альбо метадаў, якія супярэчаць гэтай Канвенцыі, і стварацьумовы, каб усе дзяржаўныя органы і ўстановы дзейнічалі ў адпаведнасці з гэтай Канвенцыяй;

e) прымаць усе адпаведныя меры, каб ліквідаваць дыскрымінацыю на падставе інваліднасці з боку любой асобы, арганізацыі альбо прыватнага прадпрыемства;

f) праводзіць ці спрыяць правядзенню даследаванняў і канструктарскай распрацоўкі прадуктаў, паслуг, абсталявання і аб'ектаў універсальнага дызайну (згодна з азначэннем, дадзеным у Артыкуле 2 гэтай Канвенцыі), якія б патрабавалі мінімальнай адаптацыі і найменшых выдаткаў для прыстасавання да асаблівых патрэбаў інваліда, спрыяць іх даступнасці і выкарыстанню, а таксама пашыраць ідэю ўніверсальнага дызайну пры распрацоўцы стандартаў і рэкамендацый.

g) даследаваць ці спрыяць правядзенню даследаванняў і канструктарскай распрацоўкі, а таксама садзейнічаць даступнасці і выкарыстанню новых тэхналогій, у тым ліку інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій, дапаможных сродкаў для палягчэння мабільнасці, прыстасаванняў і дапаможных тэхналогій, прыдатных для людзей з інваліднасцю, з нададзеннем асаблівай увагі даступным па кошце тэхналогіям;

h) забяспечваць людзей з інваліднасцю даступнай інфармацыяй аб дапаможных сродках для палягчэння мабільнасці, прыстасаваннях і дапаможных тэхналогіях, у тым ліку новых тэхналогіях, а таксама іншых формах падтрымкі, дапаможных паслугах і аб'ектах;

i) спрыяць навучанню спецыялістаў і персанала, якія працуюць з людзьмі з інваліднасцю, аб правах, прызнаных у гэтай Канвенцыі, з мэтай паляпшаць якасць дапамогі і паслуг, гарантаваных такімі правамі.

2. Што датычыцца эканамічных, сацыяльных і культурных правоў, кожная дзяржава-ўдзельніца бярэ на сябе абавязак прымаць меры з прыцягненнем максімальных з наяўных рэсурсаў і, пры неабходнасці, звяртаючыся да міжнароднага супрацоўніцтва, дзеля паступовага дасягнення поўнай рэалізацыі гэтых правоў без абмежаванняў тых замацаваных у гэтай Канвенцыі абавязкаў, якія падлягаюць непасрэднаму прымяненню згодна з міжнародным правам.

3. Пры распрацоўцы і прымяненні заканадаўства і стратэгій, накіраваных на рэалізацыю гэтай Канвенцыі, а таксама ў іншых працэсах прыняцця рашэнняў па пытаннях, якія датычацца людзей з інваліднасцю, дзяржавы-ўдзельніцы абавязуюцца кансультавацца і дзейнічаць у шчыльным кантакце з людзьмі з інваліднасцю, у тым ліку з дзецьмі з інваліднасцю, і актыўна супрацоўнічаць з арганізацыямі, якія прадстаўляюць іх інтарэсы.

4. Нішто ў гэтай Канвенцыі не закранае аніякіх палажэнняў, якія ў большай ступені спрыяюць рэалізацыі правоў людзей з інваліднасцю і могуць утрымлівацца ў заканадаўстве дзяржавы-ўдзельніцы альбо нормах міжнароднага права, якое прымяняецца ў гэтай дзяржаве. Не дазваляецца аніякае абмежаванне альбо адыход ад любых правоў чалавека і асноўных свабод, якія прызнаюцца ці існуюць ў дзяржавах-удзельніцах гэтай Канвенцыі на падставе закона, канвенцый, пастаноў альбо звычаяў, з той прычыны, што ў гэтай Канвенцыі такія правы ці свабоды не прызнаюцца альбо прызнаюцца ў меншым аб'ёме.

5. Палажэнні гэтай Канвенцыі распаўсюджваюцца на ўсе часткі федэратыўных дзяржаў без аніякіх абмежаванняў ці выняткаў.

### Артыкул 5. Роўнасць і недыскрымінацыя

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць, што ўсе асобы роўныя перад законам і згодна з ім і маюць права на роўную абарону закона і карыстанне ім без дыскрымінацыі.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы забараняюць любую дыскрымінацыю па прыкмеце інваліднасці і гарантуюць людзям з інваліднасцю роўную і эфектыўную прававую абарону ад дыскрымінацыі па любых прыкметах.

3. У мэтах заахвочвання роўнасці і ліквідацыі дыскрымінацыі дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе неабходныя меры для забеспячэння належнага прыстасавання.

4. Канкрэтныя меры, неабходныя для паскарэння або дасягнення фактычнай роўнасці людзей з інваліднасцю, не будуць разглядацца як дыскрымінацыя ў адпаведнасці з палажэннямі гэтай Канвенцыі.

### Артыкул 6. Жанчыны з інваліднасцю

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць, што жанчыны і дзяўчаты з інваліднасцю падвяргаюцца множным формам дыскрымінацыі, і ў гэ-

тай сувязі прымаюць меры для забеспячэння поўнага і роўнага ажыццяўлення імі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя меры для забеспячэння ўсебаковага развіцця, паляпшэння становішча і пашырэння правоў і магчымасцяў жанчын з тым, каб гарантаваць ім рэалізацыю і ажыццяўленне правоў чалавека і асноўных свабод, замацаваных у гэтай Канвенцыі.

**Артыкул 7. Дзеці з інваліднасцю**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе неабходныя меры для забеспячэння поўнага ажыццяўлення дзецьмі з інваліднасцю ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод нароўні з іншымі дзецьмі.

2. Ва ўсіх дзеяннях у дачыненні да дзяцей з інваліднасцю першачарговая ўвага павінна надавацца інтарэсам дзіцяці.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы павінны забяспечыць дзецям з інваліднасцю права свабодна выказваць свае погляды па ўсіх датычных іх пытаннях, якія павінны быць разглежданы і прыняты пад увагу адпаведна іх узросту і сталасці, нароўні з іншымі дзецьмі, і павінны быць забяспечаны дапамогай для рэалізацыі такога права, адпаведнай іх інваліднасці і ўзросту.

**Артыкул 8. Асветніцка-выхаваўчая праца**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы абавязуюцца прымаць неадкладныя, эфектыўныя і належныя меры для таго, каб:

a) паляпшаць абазнанасць усяго грамадства, у тым ліку на ўзроўні сям'і, у пытаннях, якія тычацца людзей з інваліднасцю, і ўмацоўваць павагу да правоў і годнасці людзей з інваліднасцю;

b) змагацца са стэрэатыпамі, прадузятасцю і шкоднымі звычаямі ў адносінах да людзей з інваліднасцю, у тым ліку звязанымі з полам і ўзростам, ва ўсіх сферах жыцця;

c) прапагандаваць патэнцыял і ўклад, які робяць людзі з інваліднасцю.

2. Меры, якія прымаюцца з гэтай мэтай, уключаюць:

a) ініцыянаванне і правядзенне эфектыўных грамадскіх асветніцкіх кампаній, накіраваных на:

I) выхаванне ўспрымальнасці да правоў чалавека людзей з інваліднасцю;

ii) заахвочванне пазітыўных уяўленняў аб людзях з інваліднасцю і лепшага разумення іх грамадствам;

iii) садзейнічанне прызнанню ўменняў, моцных бакоў і здольнасцяў людзей з інваліднасцю і іх унёска на працоўным месцы і на рынку працы;

b) выхаванне на ўсіх узроўнях сістэмы адукацыі, у тым ліку ва ўсіх дзяцей з ранняга ўзросту, паважлівага стаўлення да правоў людзей з інваліднасцю;

c) заахвочванне ўсіх органаў сродкаў масавай інфармацыі да такога выяўлення людзей з інваліднасцю, якое адпавядае мэце гэтай Канвенцыі;

d) спрыянне правядзенню выхаваўчых праграм, накіраваных на павышэнне абазнанасці ў пытаннях, якія тычацца людзей з інваліднасцю і іх правоў.

## Артыкул 9. Даступнасць

1. Для таго каб зрабіць магчымымі для людзей з інваліднасцю незалежнае жыццё і поўны ўдзел ва ўсіх аспектах жыцця, дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры для забеспячэння людзям з інваліднасцю доступу нароўні з іншымі да фізічнага асяроддзя, транспарту, інфармацыі і сувязі, у тым ліку інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій і сістэм, да іншых аб’ектаў і паслуг, якія з’яўляюцца адкрытымі для насельніцтва альбо прадастаўляюцца насельніцтву як у гарадскіх, так і ў сельскіх раёнах. Гэтыя меры мусяць уключаць выяўленне і ліквідацыю перашкодаў і бар’ераў, якія замінаюць даступнасці, і павінны распаўсюджвацца, у тым ліку, на наступнае:

a) будынкі, дарогі, транспарт і іншыя ўнутраныя і знешнія аб’екты, у тым ліку школы, жылыя дамы, медыцынскія ўстановы і працоўныя месцы;

b) інфармацыйныя, камунікацыйныя і іншыя службы, у тым ліку электронныя і экстранныя службы.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы таксама прымаюць належныя меры для таго, каб:

a) распрацоўваць мінімальныя стандарты і рэкамендацыі, якія прадугледжваюць даступнасць аб’ектаў і паслуг, якія з’яўляюцца адкрытымі для насельніцтва ці прадастаўляюцца насельніцтву, уводзіць іх у дзеянне і сачыць за іх выкананнем;

b) забяспечваць, каб прыватныя прадпрыемствы, якія прапаноўваюць аб'екты і паслугі, якія з'яўляюцца адкрытымі для насельніцтва ці прадастаўляюццца насельніцтву, улічвалі ўсе аспекты даступнасці для людзей з інваліднасцю;

c) арганізоўваць для ўсіх задзейнічаных бакоў інструктаж па праблемах даступнасці, з якімі сутыкаюцца людзі з інваліднасцю;

d) забяспечваць будынкі і іншыя аб'екты, адкрытыя для насельніцтва, знакамі, выкананымі азбукай Брайля і ў лёгкай для прачытання і разумення форме;

e) прадастаўляць розныя віды паслуг асістэнтаў і пасрэднікаў, у тым ліку праваднікоў, начытвальнікаў і прафесійных сурдаперакладчыкаў, для павышэння даступнасці будынкаў і іншых аб'ектаў, адкрытых для насельніцтва;

f) развіваць іншыя належныя формы аказання дапамогі і падтрымкі людзям з інваліднасцю для забеспячэння ім доступу да інфармацыі;

g) спрыяць доступу людзей з інваліднасцю да новых інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій і сістэм, у тым ліку да інтэрнэта;

h) садзейнічаць праектаванню, распрацоўцы, вытворчасці і распаўсюджванню даступных інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій, каб даступнасць такіх тэхналогій і сістэм дасягалася з мінімальнымі выдаткамі.

## Артыкул 10. Права на жыццё

Дзяржавы-ўдзельніцы зноў пацвярджаюць неад'емнае права кожнага чалавека на жыццё і прымаюць ўсе неабходныя меры для забеспячэння яго эфектыўнага ажыццяўлення людзьмі з інваліднасцю нароўні з іншымі.

## Артыкул 11. Сітуацыі рызыкі і надзвычайныя гуманітарныя сітуацыі

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць згодна са сваімі абавязкамі па міжнародным праве, уключаючы міжнароднае гуманітарнае права і міжнароднае права правоў чалавека, усе неабходныя меры для забеспячэння абароны і бяспекі людзей з інваліднасцю ў сітуацыях рызыкі, у тым ліку падчас узброеных канфліктаў, надзвычайных гуманітарных сітуацый і стыхійных бедстваў.

## Артыкул 12. Роўнасць перад законам

1. Дзяржавы-ўдзельніцы пацвярждаюць, што кожны чалавек з інваліднасцю, дзе б ён ні знаходзіўся, мае права на роўную прававую абарону.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць, што людзі з інваліднасцю маюць правадольнасць нароўні з іншымі ва ўсіх аспектах жыцця.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры для забеспячэння людзям з інваліднасцю доступу да падтрымкі, якая можа ім спатрэбіцца для рэалізацыі сваёй праваздольнасці.

4. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб усе меры, звязаныя з рэалізацыяй праваздольнасці, прадугледжвалі належныя і эфектыўныя гарантыі прадухілення злоўжыванняў згодна з міжнародным правам правоў чалавека. Такія гарантыі павінны забяспечваць, каб меры, звязаныя з рэалізацыяй праваздольнасці, арыентаваліся на павагу правоў, волі і перавагаў асобы, былі вольныя ад канфлікту інтарэсаў і неналежнага ўплыву, адпавядалі абставінам гэтай асобы і падлажваліся пад іх, прымяняліся цягам як мага меншага перыяду часу і рэгулярна правяраліся кампетэнтным, незалежным і непрадузятым органам ці судовай інстанцыяй. Гэтыя гарантыі павінны адпавядаць той ступені, у якой яны закранаюць правы і інтарэсы дадзенай асобы.

5. З улікам палажэнняў гэтага артыкула дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя і эфектыўныя меры для забеспячэння роўных правоў людзей з інваліднасцю мець ва ўласнасці ці атрымліваць у спадчыну маёмасць, кантраляваць свае фінансавыя справы і мець роўны доступ да банкаўскіх пазыкаў, іпатэчных крэдытаў і іншых формаў фінансавага крэдытавання і забяспечваюць, каб людзі з інваліднасцю адвольна не пазбаўляліся сваёй маёмасці.

## Артыкул 13. Доступ да правасуддзя

1. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць людзям з інваліднасцю нароўні з іншымі эфектыўны доступ да правасуддзя, у тым ліку прадугледжваюць працэсуальныя і адпаведныя ўзросту карэктывы, якія палягчаюць выкананне імі сваёй эфектыўнай ролі непасрэдных і ўскосных удзельнікаў, у тым ліку сведкаў, ва ўсіх стадыях судовага працэсу, уключаючы стадыю папярэдняга расследавання і іншыя падрыхтоўчыя этапы.

2. Каб спрыяць забеспячэнню людзям з інваліднасцю эфектыўнага доступа да правасуддзя, дзяржавы-ўдзельніцы садзейнічаюць належнаму навучанню асобаў, якія працуюць у сферы адпраўлення правасуддзя, уключаючы супрацоўнікаў праваахоўных органаў і установаў пенітэнцыярнай сістэмы.

**Артыкул 14. Свабода і недатыкальнасць асобы**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб людзі з інваліднасцю нароўні з іншымі:

a) карысталіся правам на свабоду і недатыкальнасць асобы;

b) не пазбаўляліся волі незаконна або адвольна і каб любое пазбаўленне волі адпавядала закону, а наяўнасць інваліднасці ні ў якім разе не з'яўлялася падставай для пазбаўлення волі.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб у тым выпадку, калі згодна з якой-небудзь працэдурай людзі з інваліднасцю пазбаўляюцца волі, ім нароўні з іншымі прадастаўляліся гарантыі згодна з міжнародным правам правоў чалавека і каб абыходжанне з імі адпавядала мэтам і прынцыпам гэтай Канвенцыі, уключаючы забеспячэнне належнага прыстасавання.

**Артыкул 15. Свабода ад катаванняў і жорсткіх, бесчалавечных або зневажальных да годнасці відаў абыходжання ці пакарання**

1. Ніхто не павінен падвяргацца катаванням ці жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму да яго годнасці абыходжанню ці пакаранню. У прыватнасці, ніхто не павінен без яго ці яе свабоднай згоды падвяргацца медыцынскім ці навуковым доследам.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе эфектыўныя заканадаўчыя, адміністрацыйныя, судовыя ці іншыя меры для таго, каб людзі з інваліднасцю нароўні з іншымі не падвяргаліся катаванням ці жорсткаму, бесчалавечнаму або зневажальнаму да годнасці абыходжанню ці пакаранню.

**Артыкул 16. Свабода ад эксплуатацыі, гвалту і здзеку**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя заканадаўчыя, адміністрацыйныя, сацыяльныя, адукацыйныя і іншыя меры для абаро-

ны людзей з інваліднасцю як дома, так і па-за яго межамі ад усіх формаў эксплуатацыі, гвалту і здзеку, у тым ліку ад іх гендэрна вызначаных аспектаў.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы таксама прымаюць усе належныя меры для прадухілення ўсіх форм эксплуатацыі, гвалту і здзеку, забяспечваючы, у прыватнасці, належныя формы аказання дапамогі і падтрымкі, з улікам узроставай і гендэрнай спецыфікі, людзям з інваліднасцю , іх сем'ям і асобам, якія даглядаюць за людзьмі з інваліднасцю, у тым ліку шляхам прадастаўлення інфармацыі і навучання аб тым, як пазбягаць праяваў эксплуатацыі, гвалту і здзеку, выяўляць іх і паведамляць пра іх. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб паслугі па прадастаўленні абароны аказваліся з улікам узроставай і гендэрнай спецыфікі і фактара інваліднасці.

3. З мэтай прадухілення праяваў усіх формаў эксплуатацыі, гвалту і здзеку, дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб усе ўстановы і праграмы, прызначаныя для абслугоўвання людзей з інваліднасцю, знаходзіліся пад эфектыўным наглядам з боку незалежных органаў.

4. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя меры для садзейнічання фізічнаму, кагнітыўнаму і псіхалагічнаму аднаўленню, рэабілітацыі і сацыяльнай рэінтэграцыі людзей з інваліднасцю, якія сталі ахвярамі любой формы эксплуатацыі, гвалту ці здзеку, у тым ліку шляхам аказання паслуг па прадастаўленні абароны. Такія аднаўленне і рэінтэграцыя павінны адбывацца ва ўмовах, якія спрыяюць умацаванню здароўя, дабрабыту, самапавагі, годнасці і самастойнасці асобы, і ажыццяўляцца з улікам патрэбаў, абумоўленых узроставай і гендэрнай спецыфікай.

5. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць эфектыўныя заканадаўства і стратэгіі, у тым ліку арыентаваныя на дзяцей і жанчын, для забеспячэння таго, каб выпадкі эксплуатацыі, гвалту і здзеку ў дачыненні да людзей з інваліднасцю падлягалі выяўленню, расследаванню, і ў належных выпадках пераследу.

### Артыкул 17. Абарона асабістай цэласнасці

Кожны чалавек з інваліднасцю мае права на павагу яго ці яе фізічнай і псіхічнай цэласнасці нароўні з іншымі.

## Артыкул 18. Свабода перамяшчэння і грамадзянства

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць правы людзей з інваліднасцю на свабоду перамяшчэння, на свабоду выбара месца жыхарства і на грамадзянства нароўні з іншымі, у тым ліку шляхам забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю:

a) мелі права набываць і змяняць грамадзянства і не пазбаўляліся свайго грамадзянства адвольна або па прычыне інваліднасці;

b) не пазбаўляліся, па прычыне інваліднасці, магчымасці атрымліваць дакументы, якія пацвярджаюць іх грамадзянства, ці іншыя дакументы, якія сведчаць іх асобу, валодаць і карыстацца такімі дакументамі альбо выкарыстоўваць адпаведныя працэдуры, напрыклад іміграцыйныя, якія могуць быць неабходныя для палягчэння рэалізацыі права на свабоду перамяшчэння;

c) мелі права свабодна пакідаць любую краіну, уключаючы сваю ўласную;

d) не пазбаўляліся адвольна або па прычыне інваліднасці права на ўезд у сваю ўласную краіну.

2. Дзеці з інваліднасцю рэгіструюцца адразу пасля нараджэння і з моманту нараджэння маюць права на імя і на набыццё грамадзянства, а таксама, у найбольш магчымай ступені, права ведаць сваіх бацькоў і права на іх клопат.

## Артыкул 19. Самастойны лад жыцця і ўключанасць у мясцовую супольнасць

Дзяржавы-ўдзельніцы гэтай Канвенцыі прызнаюць роўнае права ўсіх людзей з інваліднасцю жыць у звычайных месцах пражывання, пры роўных з іншымі людзьмі магчымасцях выбару, і прымаюць эфектыўныя і належныя меры для таго, каб садзейнічаць поўнай рэалізацыі людзьмі з інваліднасцю гэтага права і іх поўнаму ўключэнню і ўдзелу ў жыцці мясцовай супольнасці, у тым ліку забяспечваючы, каб:

a) людзі з інваліднасцю мелі магчымасць нароўні з іншымі выбіраць сваё месца жыхарства і тое, дзе і з кім пражываць, і не былі абавязаны пражываць у нейкіх пэўных жыллёвых умовах;

b) людзі з інваліднасцю мелі доступ да розных дапаможных паслуг, якія аказваюцца надомна, па месцы жыхарства ці на базе мясцовай супольнасці, уключаючы персанальную дапамогу, неабходную для

падтрымкі пражывання ў мясцовай супольнасці і ўключэння ў яе жыццё, а таксама для прадухілення ізаляцыі ці сегрэгацыі ад мясцовай супольнасці;

c) паслугі і аб’екты калектыўнага карыстання, прызначаныя для ўсяго насельніцтва, былі ў роўнай ступені даступныя для людзей з інваліднасцю і адпавядалі іх патрэбам.

## Артыкул 20. Індывідуальная мабільнасць

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць эфектыўныя меры для забеспячэння індывідуальнай мабільнасці людзей з інваліднасцю з максімальна магчымай ступенню іх самастойнасці, у тым ліку шляхам:

a) садзейнічання індывідуальнай мабільнасці людзей з інваліднасцю абраным імі спосабам, у абраны імі час і па даступным кошце;

b) палягчэння доступу людзей з інваліднасцю да якасных сродкаў для палягчэння мабільнасці, прыладаў, дапаможных тэхналогій і паслуг асістэнтаў і пасрэднікаў, у тым ліку забяспечваючы іх даступны кошт;

c) навучання людзей з інваліднасцю і спецыялістаў, якія працуюць з імі, навыкам мабільнасці;

d) заахвочвання прадпрыемстваў, якія вырабляюць сродкі для палягчэння мабільнасці, прыладаў і дапаможных тэхналогій, да ўліку ўсіх аспектаў мабільнасці людзей з інваліднасцю.

## Артыкул 21. Свабода выказвання поглядаў і перакананняў і доступ да інфармацыі

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя меры для забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю маглі карыстацца правам на свабоду выказвання поглядаў і перакананняў, уключаючы свабоду шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі нароўні з іншымі, карыстаючыся па сваім выбары ўсімі формамі камунікацыі, названымі ў артыкуле 2 гэтай Канвенцыі, уключаючы:

a) забеспячэнне людзей з інваліднасцю інфармацыяй, прызначанай для шырокай публікі, у даступных фарматах і з выкарыстаннем тэхналогій, якія ўлічваюць розныя формы інваліднасці, своечасова і без дадатковай платы;

b) прыняцце і садзейнічанне выкарыстанню ў афіцыйных зносінах мовы жэстаў, азбукі Брайля, узмацняльнай і альтэрнатыўнай камунікацыі

і ўсіх іншых даступных сродкаў, метадаў і фарматаў зносін па выбары людзей з інваліднасцю;

c) актыўнае заахвочванне прыватных прадпрыемстваў, якія аказваюць паслугі шырокай публіцы, у тым ліку праз інтэрнэт, да прадастаўлення інфармацыі і паслуг у даступных і прыдатных для людзей з інваліднасцю фарматах;

d) заахвочванне сродкаў масавай інфармацыі, уключаючы тых, якія прадастаўляюць інфармацыю праз інтэрнэт, да таго, каб яны рабілі свае паслугі даступнымі для людзей з інваліднасцю;

e) прызнанне і заахвочванне выкарыстання моў жэстаў.

**Артыкул 22. Недатыкальнасць прыватнага жыцця**

1. Незалежна ад месца жыхарства ці жыллёвых умоў ні адна асоба з інваліднасцю не павінна падвяргацца адвольнаму або незаконнаму пасягальніцтву на недатыкальнасць яго ці яе прыватнага жыцця, сям'і, жылля ці карэспандэнцыі і іншых відаў камунікацыі або незаконным нападкам на яго ці яе гонар і рэпутацыю. Людзі з інваліднасцю маюць права на абарону закона ад такіх пасягальніцтваў ці нападак.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы абараняюць канфідэнцыйнасць звестак пра асобу, стан здароўя і рэабілітацыю людзей з інваліднасцю нароўні з іншымі.

**Артыкул 23. Павага да дома і сям'і**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць эфектыўныя і належныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да людзей з інваліднасцю ва ўсіх сферах, датычных шлюбу, сям'і, бацькоўства і асабістых узаемаадносінаў, нароўні з іншымі, з мэтай забяспечыць, каб:

a) прызнавалася права ўсіх людзей з інваліднасцю, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту, браць шлюб і ствараць сям'ю на аснове свабоднай і поўнай згоды тых, хто бярэ шлюб;

b) прызнаваліся правы людзей з інваліднасцю на свабоднае і адказнае прыняцце рашэнняў аб колькасці дзяцей і інтэрвалах паміж іх нараджэннем, на доступ да адпаведнай узросту інфармацыі і адукацыі па пытаннях рэпрадуктыўнага здароўя і планавання сям'і, а таксама прадастаўляліся сродкі, неабходныя для ажыццяўлення імі такіх правоў;

c) людзі з інваліднасцю, у тым ліку дзеці, нароўні з іншымі, захоўвалі сваю фертыльнасць.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць правы і абавязкі людзей з інваліднасцю ў дачыненні да апякунства, папячыцельства, апекі, усынаўлення дзяцей або аналагічных інстытутаў, калі такія паняцці існуюць у нацыянальным заканадаўстве; ва ўсіх выпадках першаснае значэнне надаецца інтарэсам дзіцяці. Дзяржавы-ўдзельніцы аказваюць людзям з інваліднасцю належную дапамогу ў выкананні імі сваіх абавязкаў па выхаванні дзяцей.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб дзеці з інваліднасцю мелі роўныя правы ў адносінах да сямейнага жыцця. Для рэалізацыі гэтых правоў і недапушчэння ўтойвання дзяцей з інваліднасцю, іх пакідання, ухілення ад догляду за імі і іх сегрэгацыі дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца з самага пачатку забяспечваць дзяцей з інваліднасцю і іх сем'і ўсебаковай інфармацыяй, паслугамі і падтрымкай.

4. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб дзіця не разлучалася са сваімі бацькамі супраць іх волі, за выключэннем выпадкаў, калі падназглядныя суду кампетэнтныя органы ў адпаведнасці з прымянімымі законамі і працэдурамі вызначаюць, што такое разлучэнне неабходна ў найлепшых інтарэсах дзіцяці. Ні пры якіх абставінах дзіця не можа быць разлучанае з бацькамі па прычыне інваліднасці альбо самога дзіцяці, альбо аднаго ці абодвух бацькоў.

5. Дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца ў выпадку, калі бліжэйшыя сваякі не могуць забяспечыць догляд за дзіцём з інваліднасцю, прыкладаць усе намаганні для таго, каб арганізаваць альтэрнатыўны догляд праз прыцягненне больш далёкіх сваякоў, а пры адсутнасці такой магчымасці — за кошт стварэння сямейных умоў для пражывання дзіцяці ў мясцовай супольнасці.

### Артыкул 24. Адукацыя

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць права людзей з інваліднасцю на адукацыю. З мэтай рэалізацыі гэтага права без дыскрымінацыі і на падставе роўных магчымасцяў дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць інклюзіўную адукацыю на ўсіх узроўнях і навучанне на працягу ўсяго жыцця, імкнучыся пры гэтым:

a) да поўнага развіцця чалавечага патэнцыялу, а таксама пачуцця годнасці і самапавагі і да ўзмацнення павагі да правоў чалавека, асноўных свабод і чалавечай разнастайнасці;

b) да развіцця асобы, талентаў і творчасці людзей з інваліднасцю, а таксама іх разумовых і фізічных здольнасцяў у самым поўным аб'ёме;

c) да надзялення людзей з інваліднасцю магчымасцю эфектыўна ўдзельнічаць у жыцці свабоднага грамадства.

2. Пры рэалізацыі гэтага права дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб:

a) людзі з інваліднасцю не выключаліся з сістэмы агульнай адукацыі па прычыне інваліднасці, а дзеці з інваліднасцю — з сістэмы бясплатнай і абавязковай пачатковай адукацыі ці сярэдняй адукацыі;

b) людзі з інваліднасцю мелі нароўні з іншымі доступ да інклюзіўнай, якаснай і бясплатнай пачатковай адукацыі і сярэдняй адукацыі ў месцах свайго пражывання;

c) забяспечвалася належнае прыстасаванне, якое ўлічвае індывідуальныя патрэбы;

d) людзі з інваліднасцю атрымлівалі ў межах сістэмы агульнай адукацыі падтрымку, неабходную для палягчэння іх эфектыўнага навучання;

e) у абстаноўцы, якая максімальна спрые засваенню ведаў і сацыяльнаму развіццю, згодна з мэтай поўнай інклюзіі, прымаліся эфектыўныя меры па арганізацыі індывідуалізаванай падтрымкі.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць людзям з інваліднасцю магчымасць засвойваць жыццёвыя і сацыялізацыйныя навыкі, каб палегчыць іх поўны і роўны ўдзел у працэсе адукацыі і ў якасці членаў мясцовай супольнасці. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць у гэтым накірунку належныя меры, у тым ліку:

a) садзейнічаюць засваенню азбукі Брайля, альтэрнатыўных шрыфтоў, узмацняльных і альтэрнатыўных метадаў, спосабаў і фарматаў зносін, а таксама навыкаў арыентацыі і мабільнасці і спрыяюць падтрымцы з боку аднагодкаў і настаўніцтва;

b) садзейнічаюць засваенню мовы жэстаў і заахвочванню моўнай самабытнасці глухіх;

c) забяспечваюць, каб навучанне асоб, у прыватнасці дзяцей, якія з'яўляюцца сляпымі, глухімі або слепаглухімі, ажыццяўлялася з дапамогай найбольш адпаведных для індывіда моў, метадаў і спосабаў зносін

і ў становішчы, якое максімальным чынам спрыяе засваенню ведаў і сацыяльнаму развіццю.

4. Каб садзейнічаць забеспячэнню рэалізацыі гэтага права, дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры для прыцягнення на працу настаўнікаў, у тым ліку настаўнікаў з інваліднасцю, якія валодаюць мовай жэстаў і/або азбукай Брайля, і для навучання спецыялістаў і персанала, якія працуюць на ўсіх узроўнях сістэмы адукацыі. Такое навучанне павінна ўключаць асвету па пытаннях інваліднасці і выкарыстання адпаведных узмацняльных і альтэрнатыўных метадаў, спосабаў і фарматаў зносін, навучальных методык і матэрыялаў для аказання падтрымкі людзям з інваліднасцю.

5. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб людзі з інваліднасцю маглі мець доступ да вышэйшай адукацыі, прафесійнага навучання, адукацыі для дарослых і навучання на працягу ўсяго жыцця без дыскрымінацыі і нароўні з іншымі. З гэтай мэтай дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць меры, каб для людзей з інваліднасцю было забяспечана належнае прыстасаванне.

## Артыкул 25. Здароўе

Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць, што людзі з інваліднасцю маюць права на найвышэйшы дасягальны ўзровень здароўя без дыскрымінацыі па прыкмеце інваліднасці. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе належныя меры для забеспячэння доступу людзей з інваліднасцю да паслуг у сферы аховы здароўя, якія ўлічваюць гендэрную спецыфіку, у тым ліку да рэабілітацыі па стане здароўя. У прыватнасці, дзяржавыўдзельніцы:

a) забяспечваюць людзям з інваліднасцю такі ж набор, якасць і ўзровень бясплатных або недарагіх паслуг і праграм па ахове здароўя, што і іншым асобам, у тым ліку ў галіне сэксуальнага і рэпрадуктыўнага здароўя і ў межах прапанаваных насельніцтву дзяржаўных праграм аховы здароўя;

b) аказваюць такія паслугі ў сферы аховы здароўя, якія патрэбны людзям з інваліднасцю непасрэдна па прычыне іх інваліднасці, уключаючы раннюю дыягностыку, а ў належных выпадках — карэкцыю і паслугі, накіраваныя на мінімізацыю і прадухіленне далейшага ўзнікнення інваліднасці, у тым ліку сярод дзяцей і людзей сталага веку;

c) арганізуюць такія паслугі ў сферы аховы здароўя як мага бліжэй да месцаў непасрэднага пражывання гэтых людзей, у тым ліку ў сельскіх раёнах;

d) патрабуюць, каб спецыялісты аховы здароўя прадастаўлялі людзям з інваліднасцю паслугі той жа якасці, што і іншым асобам, у тым ліку на аснове свабоднай і інфармаванай згоды шляхам, сярод іншага, павышэння дасведчанасці аб правах чалавека, годнасці, самастойнасці і патрэбах людзей з інваліднасцю праз навучанне і прыняцце этычных стандартаў для дзяржаўнай і прыватнай сістэмы аховы здароўя;

e) забараняюць дыскрымінацыю ў дачыненні да людзей з інваліднасцю пры забеспячэнні медыцынскага страхавання і страхавання жыцця, калі апошняе дазваляецца нацыянальным правам, і прадугледжваюць, што яно прадастаўляецца справядлівым і належным чынам;

f) не дапускаюць дыскрымінацыйнай адмовы ў ахове здароўя або паслугах у гэтай галіне альбо атрыманні ежы ці вадкасцяў па прычыне інваліднасці.

## Артыкул 26. Абілітацыя і рэабілітацыя

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць, у тым ліку пры падтрымцы з боку іншых людзей з інваліднасцю, эфектыўныя і належныя меры для таго, каб надзяліць людзей з інваліднасцю магчымасцю для дасягнення і захавання максімальнай незалежнасці, поўных фізічных, разумовых, сацыяльных і прафесійных здольнасцяў, поўнага ўключэння і ўдзелу ва ўсіх аспектах жыцця. З гэтай мэтай дзяржавы-ўдзельніцы арганізуюць, умацоўваюць і пашыраюць комплексныя абілітацыйныя і рэабілітацыйныя паслугі і праграмы, асабліва ў сферы аховы здароўя, занятасці, адукацыі і сацыяльнага абслугоўвання, такім чынам, каб гэтыя паслугі і праграмы:

a) пачыналі рэалізоўвацца як мага раней і былі заснаваныя на шматпрофільнай ацэнцы патрэб і моцных бакоў індывіда;

b) спрыялі ўдзелу і ўключэнню ў мясцовую супольнасць і ва ўсе аспекты жыцця грамадства, мелі добраахвотны характар і былі даступныя для людзей з інваліднасцю як мага бліжэй да месцаў іх пражывання, у тым ліку ў сельскіх раёнах.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы заахвочваюць развіццё пачатковага і далейшага навучання спецыялістаў і персаналу, якія працуюць у сферы абілітацыйных і рэабілітацыйных паслуг.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы заахвочваюць наяўнасць, веданне і выкарыстанне прызначаных для людзей з інваліднасцю дапаможных прыстасаванняў і тэхналогій, якія адносяцца да абілітацыі і рэабілітацыі.

### Артыкул 27. Праца і занятасць

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць права людзей з інваліднасцю на працу нароўні з іншымі; яно ўключае права мець магчымасць зарабляць сабе на жыццё працай, якую чалавек з інваліднасцю свабодна абраў або на якую ён свабодна пагадзіўся, ва ўмовах, калі рынак працы і вытворчае асяроддзе з'яўляюцца адкрытымі, інклюзіўнымі і даступнымі для людзей з інваліднасцю. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць і заахвочваюць рэалізацыю права на працу, у тым ліку тымі асобамі, якія атрымліваюць інваліднасць падчас працоўнай дзейнасці, шляхам прыняцця, у тым ліку ў заканадаўчым парадку, належных мер, накіраваных, у прыватнасці, на наступнае:

a) забарона дыскрымінацыі па прыкмеце інваліднасці адносна ўсіх пытанняў, якія тычацца ўсіх формаў занятасці, уключаючы ўмовы прыёму на працу, найму і занятасці, захавання працы, прасоўвання па службе, бяспечных і здаровых умоў працы;

b) абарона правоў людзей з інваліднасцю нароўні з іншымі на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы, у тым ліку роўныя магчымасці і роўную плату за працу роўнай вартасці, бяспечныя і здаровыя ўмовы працы, уключаючы абарону ад дамаганняў, і задавальненне скаргаў;

c) забеспячэнне таго, каб людзі з інваліднасцю маглі ажыццяўляць свае працоўныя і прафсаюзныя правы нароўні з іншымі;

d) забеспячэнне для людзей з інваліднасцю магчымасці эфектыўнага доступу да агульных праграм тэхнічнай і прафесійнай арыентацыі, служб працаўладкавання, прафесійнага і бесперапыннага навучання;

e) пашырэнне на рынку працы магчымасцяў для працаўладкавання людзей з інваліднасцю і іх прасоўвання па службе, а таксама аказанне дапамогі ў пошуку, атрыманні, захаванні і аднаўленні працы;

f) пашырэнне магчымасцяў для індывідуальнай працоўнай дзейнасці, прадпрымальніцтва, развіцця кааператываў і арганізацыі ўласнай справы;

g) наём людзей з інваліднасцю ў дзяржаўным сектары;

h) стымуляванне найму людзей з інваліднасцю ў прыватным сектары з дапамогай належных стратэгій і мер, якія могуць уключаць праграмы пазітыўных дзеянняў, стымулы і іншыя меры;

i) забеспячэнне людзям з інваліднасцю належнага прыстасавання працоўнага месца;

j) заахвочванне набыцця людзьмі з інваліднасцю працоўнага досведу ва ўмовах адкрытага рынку працы;

k) заахвочванне праграм прафесійнай і кваліфікацыйнай рэабілітацыі, захавання працоўных месцаў і вяртання на працу для людзей з інваліднасцю.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць, каб людзі з інваліднасцю не ўтрымліваліся ў рабстве або ў паднявольным стане і былі абароненыя нароўні з іншымі ад прымусовай або абавязковай працы.

### Артыкул 28. Дастатковы жыццёвы ўзровень і сацыяльная абарона

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць права людзей з інваліднасцю на дастатковы жыццёвы ўзровень для сябе і сваёй сям'і, у тым ліку на дастатковае харчаванне, адзенне і жыллё і на бесперапыннае паляпшэнне ўмоў жыцця і прымаюць належныя меры для забеспячэння і заахвочвання рэалізацыі гэтага права без дыскрымінацыі па прыкмеце інваліднасці.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць права людзей з інваліднасцю на сацыяльную абарону і на карыстанне гэтым правам без дыскрымінацыі па прыкмеце інваліднасці і прымаюць належныя меры для забеспячэння і заахвочвання рэалізацыі гэтага права, уключаючы меры:

a) па забеспячэнні людзям з інваліднасцю роўнага доступу да чыстай вады і па забеспячэнні доступу да належных і недарагіх паслуг, прыстасаванняў і іншай дапамогі для задавальнення патрэбаў, звязаных з інваліднасцю;

b) па забеспячэнні доступу людзям з інваліднасцю, асабліва жанчынам і дзяўчатам з інваліднасцю і людзям сталага веку з інваліднасцю, да праграм сацыяльнай абароны і праграм скарачэння маштабаў галечы;

c) па забеспячэнні людзям з інваліднасцю і іх сем'ям, якія жывуць ва ўмовах галечы, доступу да дапамогі з боку дзяржавы для пакрыцця звязаных з інваліднасцю выдаткаў, уключаючы належнае навучанне, кансультаванне, фінансавую дапамогу і часовы патранажны догляд;

d) па забеспячэнні людзям з інваліднасцю доступу да праграм дзяржаўнага жылля;

e) па забеспячэнні роўнага доступу людзям з інваліднасцю да пенсіённых выплат і праграм.

## Артыкул 29. Удзел у палітычным і грамадскім жыцці

Дзяржавы-ўдзельніцы гарантуюць людзям з інваліднасцю палітычныя правы і магчымасць карыстацца імі нароўні з іншымі і прымаюць абавязак:

a) забяспечваць, каб людзі з інваліднасцю маглі эфектыўна і ўсебакова ўдзельнічаць, непасрэдна або праз свабодна абраных прадстаўнікоў, у палітычным і грамадскім жыцці нароўні з іншымі, у тым ліку мелі права і магчымасць галасаваць і быць абранымі, у прыватнасці праз:

I) забеспячэнне таго, каб працэдуры, памяшканні і матэрыялы для галасавання былі прыдатнымі, даступнымі і лёгкімі для разумення і выкарыстання;

II) абарону права людзей з інваліднасцю на ўдзел у таемным галасаванні на выбарах і публічных рэферэндумах без запалохвання і на вылучэнне сваіх кандыдатур для выбараў, права фактычна займаць пасады і выконваць усе публічныя функцыі на ўсіх узроўнях дзяржаўнай улады, падтрымліваючы выкарыстанне дапаможных і новых тэхналогій, дзе гэта дарэчы;

III) гарантаванне свабоднага волевыяўлення людзей з інваліднасцю як выбаршчыкаў і з гэтай мэтай — праз задавальненне, калі гэта неабходна, іх просьбаў аб аказанні дапамогі пры галасаванні якой-небудзь асобай па іх выбары;

b) актыўна спрыяць стварэнню абстаноўкі, у якой людзі з інваліднасцю маглі б эфектыўна і ўсебакова ўдзельнічаць у кіраванні дзяржаўнымі справамі без дыскрымінацыі і нароўні з іншымі, і заахвочваць іх удзел у дзяржаўных справах, у тым ліку:

l) удзел у няўрадавых арганізацыях і аб’яднаннях, праца якіх звязана з дзяржаўным і палітычным жыццём краіны, у тым ліку ў дзейнасці палітычных партый і кіраўніцтве імі;

ll) стварэнне арганізацый людзей з інваліднасцю і ўступленне ў іх з тым, каб прадстаўляць людзей з інваліднасцю на міжнародным, нацыянальным, рэгіянальным і мясцовым узроўнях.

**Артыкул 30. Удзел у культурным жыцці, правядзенні вольнага часу, адпачынку і занятку спортам**

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць права людзей з інваліднасцю ўдзельнічаць нароўні з іншымі ў культурным жыцці і прымаюць усе належныя меры для забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю:

a) мелі доступ да твораў культуры ў даступных фарматах;

b) мелі доступ да тэлевізійных праграм, фільмаў, тэатра і іншых культурных мерапрыемстваў у даступных фарматах;

c) мелі доступ да такіх месцаў культурных мерапрыемстваў або паслуг, як тэатры, музеі, кінатэатры, бібліятэкі і турыстычныя паслугі, а таксама мелі ў найбольш магчымай ступені доступ да помнікаў і аб’ектаў, якія маюць нацыянальную культурную значнасць.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры для таго, каб надзяліць людзей з інваліднасцю магчымасцю развіваць і выкарыстоўваць свой творчы, мастацкі і інтэлектуальны патэнцыял — не толькі для сваёй карысці, але і дзеля ўзбагачэння ўсяго грамадства.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць у адпаведнасці з міжнародным правам усе належныя меры для забеспячэння таго, каб законы аб абароне правоў інтэлектуальнай уласнасці не станавіліся неапраўданым або дыскрымінацыйным бар’ерам для доступу людзей з інваліднасцю да твораў культуры.

4. Людзі з інваліднасцю маюць права нароўні з іншымі на прызнанне і падтрымку іх асаблівай культурнай і моўнай самабытнасці, уключаючы жэставую мову і культуру глухіх.

5. Каб надзяліць людзей з інваліднасцю магчымасцю ўдзельнічаць нароўні з іншымі ў спартыўных мерапрыемствах і ў правядзенні вольнага часу і адпачынку, дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць належныя меры:

a) для заахвочвання і прапаганды як мага больш поўнага ўдзелу людзей з інваліднасцю ў агульнапрофільных спартыўных мерапрыемствах на ўсіх узроўнях;

b) для забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю мелі магчымасць арганізоўваць спартыўныя і забаўляльныя мерапрыемствы адмыслова для людзей з інваліднасцю, развіваць іх і ўдзельнічаць у іх, а таксама для садзейнічання ў гэтай сувязі таму, каб ім нароўні з іншымі забяспечваліся належныя навучанне, падрыхтоўка і рэсурсы;

c) для забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю мелі доступ да спартыўных, рэкрэацыйных і турыстычных аб'ектаў;

d) для забеспячэння таго, каб дзеці з інваліднасцю мелі роўны з іншымі дзецьмі доступ да ўдзелу ў гульнях, спартыўных мерапрыемствах, правядзенні вольнага часу і адпачынку, уключаючы мерапрыемствы ў межах школьнай сістэмы;

e) для забеспячэння таго, каб людзі з інваліднасцю мелі доступ да паслуг тых, хто займаецца арганізацыяй вольнага часу, турызму, адпачынку і спартыўных мерапрыемстваў.

## Артыкул 31. Статыстыка і збор дадзеных

1. Дзяржавы-ўдзельніцы абавязваюцца ажыццяўляць збор належнай інфармацыі, у тым ліку статыстычных і даследчых дадзеных, якая дазваляе ім распрацоўваць і ажыццяўляць стратэгіі ў мэтах выканання гэтай Канвенцыі. У працэсе збору і захоўвання такой інфармацыі неабходна:

a) выконваць юрыдычна замацаваныя гарантыі, у тым ліку заканадаўства аб абароне дадзеных, каб забяспечыць канфідэнцыяльнасць і недатыкальнасць прыватнага жыцця людзей з інваліднасцю;

b) выконваць міжнародна прызнаныя нормы, якія тычацца абароны правоў чалавека і асноўных свабод, а таксама этычныя прынцыпы пры зборы і выкарыстанні статыстычных дадзеных.

2. Сабраная ў адпаведнасці з гэтым артыкулам інфармацыя дэзагрэгуецца адпаведным чынам і выкарыстоўваецца для садзейнічання ацэнцы таго, як дзяржавы-ўдзельніцы выконваюць свае абавязацельствы па гэтай Канвенцыі, а таксама для выяўлення і ліквідацыі бар'ераў,

з якімі людзі з інваліднасцю сутыкаюцца пры ажыццяўленні сваіх правоў.

3. Дзяржавы-ўдзельніцы бяруць на сябе адказнасць за распаўсюд такіх статыстычных дадзеных і забяспечваюць іх даступнасць для людзей з інваліднасцю і іншых асобаў.

### Артыкул 32. Міжнароднае супрацоўніцтва

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прызнаюць важнасць міжнароднага супрацоўніцтва і яго заахвочвання для падтрымкі нацыянальных намаганняў па рэалізацыі мэты і задач гэтай Канвенцыі і прымаюць у сувязі з гэтым належныя і эфектыўныя меры на міждзяржаўным узроўні, а дзе гэта дарэчы — у партнёрстве з адпаведнымі міжнароднымі і рэгіянальнымі арганізацыямі і грамадзянскай супольнасцю, у прыватнасці з арганізацыямі людзей з інваліднасцю. Такія меры могуць, акрамя іншага, уключаць:

a) забеспячэнне таго, каб міжнароднае супрацоўніцтва, у тым ліку міжнародныя праграмы развіцця, ахоплівала людзей з інваліднасцю і было для іх даступна;

b) палягчэнне і падтрымку ўмацавання наяўных магчымасцяў, у тым ліку шляхам узаемнага абмену інфармацыяй, досведам, праграмамі і перадавымі напрацоўкамі;

c) садзейнічанне супрацоўніцтву ў сферы даследаванняў і доступу да навукова-тэхнічных ведаў;

d) прадастаўленне, дзе гэта дарэчы, тэхніка-эканамічнай дапамогі, у тым ліку шляхам палягчэння доступу да даступных і дапаможных тэхналогій і шляхам ўзаемнага абмену імі, а таксама праз перадачу тэхналогій.

2. Палажэнні гэтага артыкула не закранаюць абавязкаў кожнай дзяржавы-ўдзельніцы па выкананні сваіх абавязацельстваў згодна з гэтай Канвенцыяй.

### Артыкул 33. Нацыянальная імплементацыя і маніторынг

1. Дзяржавы-ўдзельніцы згодна са сваім арганізацыйным ладам прызначаюць ва ўрадзе адну або некалькі інстанцый, якія курыруюць пытанні, звязаныя з рэалізацыяй гэтай Канвенцыі, і належным чынам вывучаюць магчымасць стварэння або прызначэння ва ўрадзе каарды-

нацыйнага механізма для садзейнічання адпаведнай працы ў розных сектарах і на розных узроўнях.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы згодна са сваім прававым і адміністрацыйным ладам падтрымліваюць, умацоўваюць, прызначаюць або ствараюць у сябе структуру, якая ўключае, дзе гэта дарэчы, адзін або некалькі незалежных механізмаў для заахвочвання, абароны і маніторынгу рэалізацыі гэтай Канвенцыі. Пры прызначэнні або стварэнні такога механізма дзяржавы-ўдзельніцы бяруць пад увагу прынцыпы, датычныя статусу і функцыянавання нацыянальных устаноў, якія займаюцца абаронай і заахвочваннем правоў чалавека.

3. Грамадзянская супольнасць, асабліва людзі з інваліднасцю і арганізацыі, якія іх прадстаўляюць, у поўным аб'ёме ўключаюцца ў працэс маніторынгу і ўдзельнічаюць у ім.

**Артыкул 34. Камітэт па правах людзей з інваліднасцю**

1. Засноўваецца Камітэт па правах людзей з інваліднасцю (званы далей «Камітэт»), які выконвае функцыі, прадугледжаныя ніжэй.

2. На момант уваходжання гэтай Канвенцыі ў сілу Камітэт складаецца з дванаццаці экспертаў. Пасля яшчэ шасцідзесяці ратыфікацый Канвенцыі або далучэнняў да яе членскі склад Камітэта павялічваецца на шэсць чалавек, дасягаючы максімуму — васямнаццаці членаў.

3. Члены Камітэта выступаюць у асабістай якасці і валодаюць высокімі маральнымі якасцямі і прызнанай кампетэнтнасцю і досведам у сферы, якую ахоплівае дадзеная Канвенцыя. Пры вылучэнні сваіх кандыдатаў дзяржавам-удзельніцам прапануецца належным чынам улічваць палажэнне, сфармуляванае ў пункце 3 артыкула 4 гэтай Канвенцыі.

4. Члены Камітэта абіраюцца дзяржавамі-ўдзельніцамі, пры гэты надаецца ўвага справядліваму геаграфічнаму размеркаванню, прадстаўленасці розных форм цывілізацыі і асноўных прававых сістэм, збалансаванай прадстаўленасці полаў і ўдзелу экспертаў з інваліднасцю.

5. Члены Камітэта абіраюцца тайным галасаваннем са спіса кандыдатаў, вылучаных дзяржавамі-удзельніцамі з ліку сваіх грамадзян, на пасяджэннях Канферэнцыі дзяржаў-удзельніц. На гэтых пасяджэннях, на якіх дзве траціны дзяржаў-удзельніц складаюць кворум, абранымі ў склад Камітэта з'яўляюцца тыя кандыдаты, якія атрымалі

найбольшую колькасць галасоў і абсалютную большасць галасоў прадстаўнікоў дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічалі і ўдзельнічалі ў галасаванні.

6. Першапачатковыя выбары праводзяцца не пазней чым праз шэсць месяцаў са дня ўваходжання ў сілу дадзенай Канвенцыі. Не менш чым за чатыры месяцы да даты кожных выбараў Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый накіроўвае дзяржавам-удзельніцам ліст з прапановай прадставіць кандыдатуры на працягу двух месяцаў. Пасля гэтага Генеральны сакратар складае ў алфавітным парадку спіс усіх вылучаных такім чынам кандыдатаў з указаннем дзяржаў-удзельніц, якія іх вылучылі, і накіроўвае яго дзяржавам-удзельніцам гэтай Канвенцыі.

7. Члены Камітэта абіраюцца на чатыры гады. Яны маюць права быць пераабранымі толькі адзін раз. Аднак тэрмін паўнамоцтваў шасці з членаў, якія абіраюцца на першых выбарах, сканчаецца ў канцы двухгадовага перыяду; неадкладна пасля першых выбараў імёны гэтых шасці членаў вызначаюцца па жэрабю старшынёй на пасяджэнні, аб якім гаворыцца ў пункце 5 гэтага артыкула.

8. Абранне шасці дадатковых членаў Камітэта прымяркоўваецца да звычайных выбараў, якія рэгулююцца адпаведнымі палажэннямі гэтага артыкула.

9. Калі які-небудзь член Камітэта памірае, або сыходзіць у адстаўку, або аб'яўляе, што не ў стане больш выконваць свае абавязкі па якой-небудзь іншай прычыне, дзяржава-ўдзельніца, якая вылучыла кандыдатуру гэтага члена, на астатні тэрмін паўнамоцтваў прызначае іншага эксперта, які валодае кваліфікацыяй і адпавядае патрабаванням, якія прадугледжаны ў адпаведных палажэннях гэтага артыкула.

10. Камітэт вызначае свае ўласныя правілы працэдуры.

11. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прадастаўляе неабходны персанал і матэрыяльныя сродкі для эфектыўнага ажыццяўлення Камітэтам сваіх функцый у адпаведнасці з дадзенай Канвенцыяй і склікае яго першую нараду.

12. Члены Камітэта, заснаванага ў адпаведнасці з гэтай Канвенцыяй, атрымліваюць узнагароджанне, зацверджанае Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, са сродкаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца Асамблеяй з улікам важнасці абавязкаў Камітэта.

13. Члены Камітэта маюць права на льготы, прывілеі і імунітэты экспертаў у камандзіроўках па справах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, замацаваныя ў адпаведных раздзелах Канвенцыі аб прывілеях і імунітэтах Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 35. Даклады дзяржаў-удзельніц

1. Кожная дзяржава-ўдзельніца падае ў Камітэт праз Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый усеабдымны даклад аб мерах, прынятых для ажыццяўлення сваіх абавязацельстваў па гэтай Канвенцыі, і аб прагрэсе, дасягнутым у гэтым накірунку, на працягу двух гадоў пасля ўваходжання гэтай Канвенцыі ў сілу для адпаведнай дзяржавы-ўдзельніцы.

2. Пасля гэтага дзяржавы-ўдзельніцы падаюць наступныя даклады не радзей чым раз у чатыры гады, а таксама тады, калі аб гэтым просіць Камітэт.

3. Камітэт вызначае кіруючыя прынцыпы, якія акрэсліваюць змест дакладаў.

4. Дзяржаве-ўдзельніцы, якая падала ў Камітэт усёабдымны першапачатковы даклад, няма неабходнасці паўтараць у сваіх наступных дакладах раней пададзеную інфармацыю. Дзяржавам-удзельніцам прапануецца падумаць над тым, каб рабіць падрыхтоўку дакладаў у Камітэт адкрытым і транспарэнтным працэсам і належным чынам улічваць палажэнне, сфармуляванае ў пункце 3 артыкула 4 гэтай Канвенцыі.

5. Даклады могуць уключаць інфармацыю аб фактарах і цяжкасцях, якія ўплываюць на ступень выканання абавязацельстваў па гэтай Канвенцыі.

### Артыкул 36. Разгляд дакладаў

1. Камітэт разглядае кожны даклад і фармулюе па ім прапановы і агульныя рэкамендацыі, якія ён лічыць належнымі, і накіроўвае іх адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы. Дзяржава-ўдзельніца можа накіраваць у адказ любую інфармацыю па сваім выбары. Камітэт можа запытваць у дзяржаў-удзельніц дадатковую інфармацыю, якая мае дачыненне да рэалізацыі гэтай Канвенцыі.

2. Калі дзяржава-ўдзельніца істотна спазняецца з падачай даклада, Камітэт можа інфармаваць адпаведную дзяржаву-ўдзельніцу аб неаб-

ходнасці разгляду пытання рэалізацыі Канвенцыі ў такой дзяржаве-ўдзельніцы на падставе дакладнай інфармацыі, якой валодае Камітэт, калі цягам трох месяцаў пасля такога паведамлення не будзе пададзены адпаведны даклад. Камітэт прапануе адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы ўзяць удзел у такім разглядзе. Калі дзяржава-ўдзельніца ў адказ падае адпаведны даклад, прымяняюцца палажэнні пункта 1 гэтага артыкула.

3. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый перадае даклады ў распараджэнне ўсіх дзяржаў-удзельніц.

4. Дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць шырокі доступ да сваіх дакладаў для грамадскасці ў сваёй краіне і палягчаюць азнаямленне з прапановамі і агульнымі рэкамендацыямі, якія тычацца гэтых дакладаў.

5. Калі Камітэт лічыць гэта патрэбным, ён накіроўвае даклады дзяржаў-удзельніц у спецыялізаваныя установы, фонды і праграмы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а таксама ў іншыя кампетэнтныя органы, для таго, каб яны прынялі меры ў адказ на просьбу аб тэхнічнай кансультацыі або дапамозе, альбо ўказанне на патрэбу ў іх, разам з заўвагамі і рэкамендацыямі Камітэта (калі такія ёсць) адносна такіх просьбаў ці ўказанняў.

## Артыкул 37. Супрацоўніцтва паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі і Камітэтам

1. Кожная дзяржава-ўдзельніца супрацоўнічае з Камітэтам і аказвае яго членам садзейнічанне ў выкананні імі свайго мандата.

2. У сваіх адносінах з дзяржавамі-ўдзельніцамі Камітэт належным чынам улічвае шляхі і сродкі нарошчвання нацыянальных магчымасцяў па рэалізацыі гэтай Канвенцыі, у тым ліку з дапамогай міжнароднага супрацоўніцтва.

## Артыкул 38. Адносіны Камітэта з іншымі органамі

Для садзейнічання эфектыўнай рэалізацыі гэтай Канвенцыі і заахвочвання міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы, якую яна ахоплівае:

а) спецыялізаваныя ўстановы і іншыя органы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый маюць права быць прадстаўленымі пры разглядзе пытання аб ажыццяўленні такіх палажэнняў гэтай Канвенцыі, якія падпада-

юць пад іх мандат. Калі Камітэт лічыць гэта патрэбным, ён можа прапаноўваць спецыялізаваным установам і іншым кампетэнтным органам даць экспертнае заключэнне адносна ажыццяўлення Канвенцыі ў сферах, якія падпадаюць пад іх адпаведныя мандаты. Камітэт можа прапаноўваць спецыялізаваным установам і іншым органам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прадставіць даклады аб ажыццяўленні Канвенцыі ў сферах, якія адносяцца да іх дзейнасці;

і) пры выкананні свайго мандата Камітэт кансультуецца, калі гэта дарэчы, з іншымі адпаведнымі органамі, заснаванымі на падставе міжнародных дагавораў па правах чалавека, для таго, каб забяспечваць узгодненасць іх адпаведных кіруючых прынцыпаў прадстаўлення дакладаў, а таксама прапановаў і агульных рэкамендацый і пазбягаць дубліравання і паралелізму пры ажыццяўленні імі сваіх функцый.

### Артыкул 39. Даклад Камітэта

Камітэт раз у два гады прадастаўляе Генеральнай Асамблеі і Эканамічнаму і Сацыяльнаму Савету даклад аб сваёй дзейнасці і можа выносіць прапановы і агульныя рэкамендацыі па выніках разгляду атрыманых ад дзяржаў-удзельніц дакладаў і інфармацыі. Такія прапановы і агульныя рэкамендацыі ўключаюцца ў справаздачу Камітэта разам з каментарамі (калі такія ёсць) дзяржаў-удзельніц.

### Артыкул 40. Канферэнцыя дзяржаў-удзельніц

1. Дзяржавы-ўдзельніцы рэгулярна сустракаюцца на Канферэнцыі дзяржаў-удзельніц для разгляду любога пытання, якое тычыцца ажыццяўлення гэтай Канвенцыі.

2. Не пазней чым праз шэсць месяцаў пасля ўваходжання гэтай Канвенцыі ў сілу Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый склікае Канферэнцыю дзяржаў-удзельніц. Наступныя нарады склікаюцца Генеральным сакратаром раз у два гады альбо па рашэнні Канферэнцыі дзяржаў-удзельніц.

### Артыкул 41. Дэпазітарый

Дэпазітарыем гэтай Канвенцыі з'яўляецца Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### Артыкул 42. Падпісанне

Дадзеная Канвенцыя адкрыта для падпісання ўсімі дзяржавамі і арганізацыямі рэгіянальнай інтэграцыі ў Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку з 30 сакавіка 2007 года.

### Артыкул 43. Згода на абавязковасць

Дадзеная Канвенцыя падлягае ратыфікацыі дзяржавамі, якія яе падпісалі, і афіцыйнаму пацвярджэнню арганізацыямі рэгіянальнай інтэграцыі, якія яе падпісалі. Яна адкрыта для далучэння да яе любой дзяржавы ці арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі, якія не падпісалі гэтую Канвенцыю.

### Артыкул 44. Арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі

1. «Арганізацыя рэгіянальнай інтэграцыі» азначае арганізацыю, створаную суверэннымі дзяржавамі пэўнага рэгіёну, якой яе дзяржавы-ўдзельніцы перадалі кампетэнцыю ў дачыненні да пытанняў, якія рэгулююцца гэтай Канвенцыяй. Такія арганізацыі паказваюць у сваіх дакументах аб афіцыйным пацвярджэнні або далучэнні аб'ём сваёй кампетэнцыі ў дачыненні да пытанняў, якія рэгулююцца гэтай Канвенцыяй. Пасля яны інфармуюць дэпазітарыя аб любых істотных зменах у аб'ёме іх кампетэнцыі.

2. Спасылкі ў гэтай Канвенцыі на «дзяржавы-ўдзельніцы» датычацца такіх арганізацый у межах іх кампетэнцыі.

3. Для мэтаў пункта 1 артыкула 45 і пунктаў 2 і 3 артыкула 47 гэтай Канвенцыі ні адзін дакумент, здадзены на захоўванне арганізацыяй рэгіянальнай інтэграцыі, не залічваецца.

4. Па пытаннях, якія адносяцца да іх кампетэнцыі, арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі могуць ажыццяўляць сваё права голасу на Канферэнцыі дзяржаў-удзельніц з колькасцю галасоў, роўнай колькасці іх дзяржаў-удзельніц, якія з'яўляюцца ўдзельніцамі гэтай Канвенцыі. Такая арганізацыя не ажыццяўляе свайго права голасу, калі такое права ажыццяўляе якая-небудзь з яе дзяржаў-удзельніц, і наадварот.

### Артыкул 45. Уваходжанне ў сілу

1. Дадзеная Канвенцыя ўваходзіць у сілу на трыццаты дзень пасля здачы на захоўванне дваццатай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы ці арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі, якая ратыфікуе гэтую Канвенцыю, афіцыйна пацвярджае яе альбо далучаецца да яе пасля здачы на захоўванне дваццатага такога дакумента, Канвенцыя ўваходзіць у сілу на трыццаты дзень пасля здачы імі на захоўванне свайго такога дакумента.

### Артыкул 46. Агаворкі

1. Агаворкі, не сумяшчальныя з аб'ектам і мэтай гэтай Канвенцыі, не дапускаюцца.
2. Агаворкі могуць быць у любы час знятыя.

### Артыкул 47. Папраўкі

1. Любая дзяржава-ўдзельніца можа прапанаваць папраўку да гэтай Канвенцыі і прадставіць яе Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Генеральны сакратар паведамляе дзяржавам-ўдзельніцам аб любых прапанаваных папраўках і просіць інфармаваць яго, ці выступаюць яны за правядзенне канферэнцыі дзяржаў-удзельніц для разгляду гэтых прапаноў і прыняцця па ім рашэнняў. У выпадку, калі на працягу чатырох месяцаў з даты такога паведамлення не менш за траціну дзяржаў-удзельніц выступяць за правядзенне такой канферэнцыі, Генеральны сакратар склікае канферэнцыю пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Любая папраўка, ухваленая большасцю ў дзве траціны дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічаюць і ўдзельнічаюць у галасаванні, накіроўваецца Генеральным сакратаром для зацвярджэння Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а затым усім дзяржавам-удзельніцам для прыняцця.
2. Папраўка, ухваленая і зацверджаная ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула, набывае моц на трыццаты дзень пасля таго, як колькасць здадзеных на захоўванне дакументаў аб прыняцці дасягне дзве траціны ад колькасці дзяржаў-удзельніц на дату ўхвалення такой папраўкі. У далейшым папраўка ўваходзіць у сілу для любой дзяржавы-ўдзельніцы на трыццаты дзень пасля таго, як яна здала на захоўванне свой дакумент аб прыняцці. Папраўка з'яўляецца абавязковай толькі для тых дзяржаў-удзельніц, якія яе прынялі.
3. Калі Канферэнцыя дзяржаў-удзельніц прыме кансэнсусам адпаведнае рашэнне, ухваленая і зацверджаная ў адпаведнасці з пунктам 1

гэтага артыкула папраўка, якая адносіцца выключна да артыкулаў 34, 38, 39 і 40, уваходзіць у сілу для ўсіх дзяржаў-удзельніц на трыццаты дзень пасля таго, як колькасць дакументаў аб прыняцці, здадзеных на захоўванне, дасягне дзве траціны ад колькасці дзяржаў-удзельніц на дату ўхвалення такой папраўкі.

### Артыкул 48. Дэнансацыя

Дзяржава-ўдзельніца можа дэнансаваць гэтую Канвенцыю шляхам накіравання пісьмовага паведамлення Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. Дэнансацыя ўступае ў сілу праз год пасля даты атрымання Генеральным сакратаром такога паведамлення.

### Артыкул 49. Даступны фармат

Павінна быць забяспечана наяўнасць тэксту дадзенай Канвенцыі ў даступных фарматах.

### Артыкул 50. Аўтэнтычныя тэксты

Тэксты гэтай Канвенцыі на англійскай, арабскай, іспанскай, кітайскай, рускай і французскай мовах з’яўляюцца роўнааўтэнтычнымі.

У СВЕДЧАННЕ ГЭТАГА ніжэйпадпісаныя паўнамоцныя прадстаўнікі, належным чынам на тое ўпаўнаважаныя сваімі адпаведнымі ўрадамі, падпісалі гэтую Канвенцыю.

## ФАКУЛЬТАТЫЎНЫ ПРАТАКОЛ ДА КАНВЕНЦЫІ АБ ПРАВАХ ЛЮДЗЕЙ З ІНВАЛІДНАСЦЮ

*Дзяржавы-ўдзельніцы гэтага Пратакола пагадзіліся аб наступным:*

### Артыкул 1

1. Дзяржава-ўдзельніца гэтага Пратакола («дзяржава-ўдзельніца») прызнае кампетэнцыю Камітэта па правах людзей з інваліднасцю («Камітэт») прымаць і разглядаць паведамленні ад імя асобаў або груп асобаў, якія знаходзяцца пад яе юрысдыкцыяй і заяўляюць, што з’яўляюцца ахвярамі парушэння палажэнняў Канвенцыі гэтай дзяржавай-удзельніцай.

2. Паведамленне не прымаецца Камітэтам, калі яно тычыцца дзяржавы-ўдзельніцы Канвенцыі, якая не з'яўляецца ўдзельніцай гэтага Пратакола.

**Артыкул 2**

Камітэт лічыць паведамленне непрымальным, калі:

a) паведамленне з'яўляецца ананімным;

b) паведамленне ўяўляе сабой злоўжыванне правам на падачу такіх паведамленняў або несумяшчальна з палажэннямі Канвенцыі;

c) тое ж пытанне ўжо разглядалася Камітэтам альбо было разгледжана ці разглядаецца ў рамках іншай працэдуры міжнароднага разбіральніцтва або ўрэгулявання;

d) вычарпаныя не ўсе наяўныя ўнутраныя сродкі абароны. Гэта правіла не ўжываецца, калі прымяненне сродкаў абароны неапраўдана зацягваецца або наўрад ці прынясе дзейсны эфект;

e) яно з'яўляецца відавочна неабгрунтаваным або недастаткова аргументаваным;

f) факты, якія з'яўляюцца прадметам паведамлення, мелі месца да ўступлення гэтага Пратакола ў сілу для адпаведнай дзяржавы-ўдзельніцы, калі толькі гэтыя факты не працягваліся і пасля згаданай даты.

**Артыкул 3**

З улікам палажэнняў артыкула 2 гэтага Пратакола Камітэт у канфідэнцыйным парадку інфармуе дзяржаву-ўдзельніцу аб любых прадстаўленых яму паведамленнях. На працягу шасці месяцаў дзяржава, якая атрымала такую інфармацыю, прадстаўляе Камітэту пісьмовыя тлумачэнні або заявы з удакладненнем пытання альбо сродка абароны (калі такое існуе), якое, магчыма, было ўжыта гэтай дзяржавай.

**Артыкул 4**

1. У любы момант паміж атрыманнем паведамлення і вынясеннем пастановы па сутнасці Камітэт можа накіраваць адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы для неадкладнага разгляду просьбу аб прыняцці гэтай дзяржавай-удзельніцай такіх часовых мер, якія могуць быць неабходныя для таго, каб пазбегнуць нанясення магчымай непапраўнай шкоды ахвяры альбо ахвярам меркаванага парушэння .

2. Калі Камітэт ажыццяўляе сваё дыскрэцыйнае права ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула, гэта не азначае, што ён прыняў рашэнне адносна прымальнасці альбо па сутнасці паведамлення.

### Артыкул 5

Пры разглядзе паведамленняў у адпаведнасці з гэтым Пратаколам Камітэт праводзіць закрытыя пасяджэнні. Пасля разгляду паведамлення Камітэт накіроўвае свае прапановы і рэкамендацыі (калі такія маюцца) адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы і заяўніку.

### Артыкул 6

1. Калі Камітэт атрымлівае дакладную інфармацыю, якая сведчыць аб сур'ёзных ці сістэматычных парушэннях дзяржавай-удзельніцай правоў, замацаваных у Канвенцыі, ён прапануе гэтай дзяржаве-ўдзельніцы супрацоўнічаць у вывучэнні гэтай інфармацыі і з гэтай мэтай падаць заўвагі датычна адпаведнай інфармацыі.

2. З улікам любых заўваг, якія могуць быць прадстаўлены адпаведнай дзяржавай-удзельніцай, а таксама любой іншай дакладнай інфармацыі, якой валодае Камітэт, ён можа даручыць аднаму або некальким сваім членам правесці расследаванне і тэрмінова прадставіць даклад Камітэту. У тых выпадках, калі гэта апраўдана, і са згоды дзяржавы-ўдзельніцы расследаванне можа ўключаць наведванне яе тэрыторыі.

3. Пасля вывучэння вынікаў такога расследавання Камітэт накіроўвае гэтыя вынікі адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы разам з любымі каментарамі і рэкамендацыямі.

4. На працягу шасці месяцаў з моманту атрымання вынікаў, каментароў і рэкамендацый, накіраваных Камітэтам, дзяржава-ўдзельніца прадстаўляе яму свае заўвагі.

5. Такое расследаванне праводзіцца ў канфідэнцыйным парадку, і на ўсіх этапах працэсу прадугледжваецца зварот да дзяржавы-ўдзельніцы за супрацоўніцтвам.

### Артыкул 7

1. Камітэт можа прапанаваць адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы ўключыць у свой даклад, прадугледжаны артыкулам 35 Канвенцыі,

звесткі аб любых мерах, прынятых у адказ на расследаванне, праведзенае згодна з артыкулам 6 гэтага Пратакола.

2. Пры неабходнасці Камітэт можа па сканчэнні шасцімесячнага тэрміна, аб якім гаворыцца ў пункце 4 артыкула 6, прапанаваць адпаведнай дзяржаве-ўдзельніцы інфармаваць яго аб мерах, прынятых у адказ на такое расследаванне.

**Артыкул 8**

Кожная дзяржава-ўдзельніца можа ў момант падпісання гэтага Пратакола, яго ратыфікацыі або далучэння да яго заявіць, што не прызнае кампетэнцыю Камітэта, прадугледжаную ў артыкулах 6 і 7.

**Артыкул 9**

Дэпазітарыем гэтага Пратакола з'яўляецца Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

**Артыкул 10**

Гэты Пратакол адкрыты для падпісання дзяржавамі і арганізацыямі рэгіянальнай інтэграцыі, якія падпісалі Канвенцыю, у Цэнтральных установах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Ёрку з 30 сакавіка 2007 года.

**Артыкул 11**

Гэты Пратакол падлягае ратыфікацыі дзяржавамі, якія яго падпісалі, і ратыфікавалі Канвенцыю або далучыліся да яе. Ён падлягае афіцыйнаму пацвярджэнню арганізацыямі рэгіянальнай інтэграцыі, якія падпісалі яго, і афіцыйна пацвердзілі Канвенцыю або далучыліся да яе. Ён адкрыты для далучэння да яго любой дзяржавы ці арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі, якія ратыфікавалі Канвенцыю, афіцыйна пацвердзілі яе альбо далучыліся да яе і якія не падпісалі гэты Пратакол.

**Артыкул 12**

1. «Арганізацыя рэгіянальнай інтэграцыі» азначае арганізацыю, створаную суверэннымі дзяржавамі пэўнага рэгіёну, якой яе дзяржавы-ўдзельніцы перадалі кампетэнцыю ў дачыненні да пытанняў, якія рэгулююцца Канвенцыяй і гэтым Пратаколам. Такія арганізацыі паказваюць

у сваіх дакументах аб афіцыйным пацвярджэнні або далучэнні аб’ём сваёй кампетэнцыі ў дачыненні да пытанняў, якія рэгулююцца Канвенцыяй і гэтым Пратаколам. Пасля яны інфармуюць дэпазітарыя аб любых істотных зменах у аб’ёме іх кампетэнцыі.

2. Спасылкі ў гэтым Пратаколе на «дзяржавы-ўдзельніцы» датычацца такіх арганізацый у межах іх кампетэнцыі.

3. Для мэтаў пункта 1 артыкула 13 і пункта 2 артыкула 15 гэтага Пратакола ні адзін дакумент, здадзены на захоўванне арганізацыяй рэгіянальнай інтэграцыі, не залічваецца.

4. Па пытаннях, якія адносяцца да іх кампетэнцыі, арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі могуць ажыццяўляць сваё права голасу на нарадзе дзяржаў-удзельніц з колькасцю галасоў, роўнай колькасці іх дзяржаў-удзельніц, якія з’яўляюцца ўдзельніцамі гэтага Пратакола. Такая арганізацыя не ажыццяўляе свайго права голасу, калі такое права ажыццяўляе якая-небудзь з яе дзяржаў-удзельніц, і наадварот.

**Артыкул 13**

1. Пры ўмове ўступлення Канвенцыі ў сілу гэты Пратакол набывае моц на трыццаты дзень пасля здачы на захоўванне дзясятай ратыфікацыйнай граматы альбо дакумента аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы ці арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі, якая ратыфікуе гэты Пратакол, афіцыйна пацвярджае яго, далучаецца да яго пасля здачы на захоўванне дзясятага такога дакумента, Пратакол набывае моц на трыццаты дзень пасля здачы імі на захоўванне свайго такога дакумента.

**Артыкул 14**

1. Агаворкі, не сумяшчальныя з аб’ектам і мэтай гэтага Пратакола, не дапускаюцца.

2. Агаворкі могуць быць у любы час знятыя.

**Артыкул 15**

1. Любая дзяржава-ўдзельніца можа прапанаваць папраўку да гэтага Пратакола і прадставіць яе Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб’яднаных Нацый. Генеральны сакратар паведамляе дзяржавам-удзельніцам аб любых прапанаваных папраўках і просіць інфармаваць

яго, ці выступаюць яны за правядзенне нарады дзяржаў-удзельніц для разгляду гэтых прапаноў і прыняцця па ім рашэнняў. У выпадку, калі на працягу чатырох месяцаў з даты такога паведамлення не менш за трацііну дзяржаў-удзельніц выступяць за правядзенне такой нарады, Генеральны сакратар склікае нараду пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Любая папраўка, ухваленая большасцю ў дзве траціны дзяржаў-удзельніц, якія прысутнічалі і ўдзельнічалі ў галасаванні, накіроўваецца Генеральным сакратаром для зацвярджэння Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а затым усім дзяржавам-удзельніцам для прыняцця.

2. Папраўка, ухваленая і зацверджаная ў адпаведнасці з пунктам 1 гэтага артыкула, набывае моц на трыццаты дзень пасля таго, як колькасць здадзеных на захоўванне дакументаў аб прыняцці дасягне дзве траціны ад колькасці дзяржаў-удзельніц на дату ўхвалення такой папраўкі. У далейшым папраўка ўваходзіць у сілу для любой дзяржавы-ўдзельніцы на трыццаты дзень пасля таго, як яна здала на захоўванне свой дакумент аб прыняцці. Папраўка з'яўляецца абавязковай толькі для тых дзяржаў-удзельніц, якія яе прынялі.

**Артыкул 16**

Дзяржава-ўдзельніца можа дэнансаваць гэты Пратакол шляхам накіравання пісьмовага паведамлення Генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дэнансацыя ўступае ў сілу праз год пасля даты атрымання Генеральным сакратаром такога паведамлення.

**Артыкул 17**

Павінна быць забяспечана наяўнасць тэксту гэтага Пратакола ў даступных фарматах.

**Артыкул 18**

Тэксты гэтага Пратакола на англійскай, арабскай, іспанскай, кітайскай, рускай і французскай мовах з'яўляюцца роўнааўтэнтычнымі.

У СВЕДЧАННЕ ГЭТАГА ніжэйпадпісаныя паўнамоцныя прадстаўнікі, належным чынам на тое ўпаўнаважаныя сваімі адпаведнымі урадамі, падпісалі гэты Пратакол.

Пасля завяршэння дадзенага этапа акрэсліваюцца сацыяльныя праблемы, у тым ліку праблемы, звязаныя з пытаннем інваліднасці. Такім чынам, іх трэба згрупаваць і назваць. Аб выніках дыягностыкі група абавязана паінфармаваць улады.

## Крок 7.
## Групаванне і канчатковае вырашэнне праблем

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець:<br>• акрэсленыя сацыяльныя праблемы. | Вынік працы:<br>• спіс вызначаных сацыяльных праблем. |
| --- | --- |

Вынікам працы папярэдняга этапу з'яўляецца спіс сацыяльных праблем. Не кожны радок у гэтым спісе — асобная праблема. Частка выпісаных праблем можа быць прычынамі, частка — наступствамі. У той жа час бывае, што яны становяцца прычынай іншай праблемы, нават такой, якая не ўвайшла ў спіс. Зарэгістраваныя ў спісе праблемы трэба згрупаваць. Выдзяленне і названне праблемы — гэта вельмі важнае дзеянне, паколькі на чарговым этапе праблемы будуць падставай фармулявання мэтаў.

Перад пачаткам групавання трэба прааналізаваць спіс праблем. Групаванне можа адбывацца па наступнай схеме:

- мы аддзяляем ад сябе праблемы, якія не звязаныя адна з адной, і ствараем асобныя катэгорыі;
- да атрыманых такім чынам катэгорый мы далучаем са спісу тыя праблемы, якія, на нашу думку, роднасныя;
- мы аналізуем катэгорыі і падпарадкоўваем ім праблемы на падставе відаў зменаў, якія з імі звязаны; такім чынам, мы называем выдзеленыя праблемы;
- далейшы аналіз праблем дазволіць згрупаваць іх з пункту гледжання прычыны іх з'яўлення;
- гэтак жа можна зрабіць з акрэсленымі праблемамі, звязанымі толькі з пытаннямі інваліднасці.

Апісаны аналіз завяршае акрэсленне сацыяльных праблем для вырашэння.

## Крок 8.
## Вызначэнне іерархіі важнасці праблем

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • спіс вызначаных сацыяльных праблем. | • упарадкаваны спіс вызначаных праблем. |

Выдзеленыя падчас дыягностыкі праблемы дазаляюць стварыць спіс праблем для вырашэння. Па розных меркаваннях не ўсе праблемы могуць і павінны быць вырашаны. Важна, каб праблемы, што павінна вырашыць стратэгія, былі істотныя з пункту гледжання лакальнай супольнасці. Лакальныя ўлады мусяць мець права ўказаць на мэты, прыярытэтныя з іх пункту гледжання.

Група па пытаннях стратэгіі павінна выбраць, якія праблемы будуць вырашацца. Для гэтага можна выкарыстаць розную тэхніку, а таксама кансэнсус і ранжыраванне.

***Кансэнсус*** — гэта дасягненне сябрамі групы адзінадушша наконт размяшчэння праблем для вырашэння.

***Ранжыраванне*** — прысваенне балаў паасобным праблемам для вырашэння акрэсленых вартасцей па шкале ад 1 да 10. Асобы, якія ўваходзяць у склад групы, надаюць паасобным праблемам для вырашэння колькасць пунктаў і ў выніку ёсць ранг дадзенай праблемы на фоне іншых. Узніклая чарговасць праблем для вырашэння выцякае з вартасці сярэдняй арыфметычнай колькасці балаў, якія кожная з праблем атрымала ад кожнай з асоб. Падчас прысваення балаў трэба кіравацца набытымі ведамі і прыярытэтамі лакальных уладаў.

***Рэкамендаваная мадэль*** — мадэль, якая грунтуецца на прынцыпе кансэнсусу.

Вынікам гэтай працы стануць іерархізаваныя па сваёй важнасці сацыяльныя праблемы.

## Крок 9.
## Выбар праблем для вырашэння

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • упарадкаваны спіс вызначаных праблем. | • спіс праблем для вырашэння. |

Ведаючы іерархію важнасці вызначаных сацыяльных праблем, з пункту гледжання патрэб лакальнай супольнасці, можна выбраць, якія праблемы будуць вырашацца ў рамках стратэгіі. Трэба памятаць, што не ўсе праблемы могуць і павінны быць вырашаны пры дапамозе стратэгіі. Перад канчатковым выбарам праблем для вырашэння неабходна правесці кансультацыі па выніках працы групы. Правядзенне кансультацый упаўнаважвае групу прыняць канчатковае рашэнне, якія праблемы будуць вырашаны ў рамках стратэгіі.

**Інфармаванне і кансультацыі**

Інфармацыю аб уступным выбары праблем для вырашэння трэба даслаць у дзяржаўныя ўстановы на дадзеным абшары, няўрадавыя арганізацыі, прыватныя установы, рэлігійныя аб'яднанні, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады, і асобам, зацікаўленым стратэгіяй (тым, якія прысутнічалі на сустрэчы, і тым, якія заявілі аб сабе па электроннай пошце). Калі ёсць такая магчымасць, інфармацыя павінна з'явіцца на сайце лакальных уладаў, а таксама на сайтах установаў, што ўдзельнічаюць у працах групы.

Стварэнне спісу праблем для вырашэння дазволіць сфармуляваць галоўныя мэты.

## Крок 10.
## Фармуляванне галоўных мэтаў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • спіс праблем для вырашэння. | • сфармуляваныя галоўныя мэты. |

***Праблема*** — гэта важнае пытанне, што патрабуе ўмяшальніцтва, вызначанае ў выніку параўнання таго, "як ёсць", з тым, "як павінна быць". Група ў рамках стратэгіі робіць стаўку толькі на некаторыя праблемы для вырашэння.

У адносінах да кожнай праблемы неабходна вызначыць, у якім аб'ёме яна будзе вырашацца. Такі выбар азначае фармуляванне галоўнай мэты. ***Галоўная мэта*** — гэта аб'ём змены, якую было вырашана рэалізоўваць і якая чакалася ў выніку прадпрынятых дзеянняў — наступстваў стратэгіі.

Пры фармуляванні галоўных мэтаў трэба памятаць, што правільна акрэсленая мэта павінна быць

- канкрэтнай, то бок такой, якую можна будзе ўбачыць на рэальных выніках;
- вымернай, то бок такой, вынікі якой можна будзе прааналізаваць пры дапамозе паказчыкаў;
- дасягальнай, то бок такой, якая дазваляе дасягнуць запланаваных вынікаў;
- рэальнай, то бок такой, якую можна рэалізаваць з улікам перадумоў, звязаных з рэсурсамі, а таксама з часам, магчымасцямі і жаданнямі;
- эфектыўнай, то бок такой, калі рэсурсы, неабходныя для рэалізацыі мэты, не пераўзыходзяць эфект; кожны раз група павінна зрабіць ацэнку "выдаткаў";
- плённай, то бок такой, якая вырашыць тую праблему, з-за якой была сфармулявана мэта.

У адпаведнасці з іншай канцэпцыяй мэты павінны быць

- каштоўныя, яны павінны прыносіць фірме вымерную карысць;
- амбітныя, яны павінны быць выклікам для супрацоўнікаў і кіраўніцтва;
- рэальныя, то бок такія, каб іх можна было выканаць, выкарыстоўваючы наяўныя рэсурсы фірмы;
- тэрміновыя, іх рэалізацыя павінна ўпісвацца ў часовыя межы;
- вымерныя, то бок павінна быць магчымасць іх колькаснага акрэслення.

**Інфармаванне і кансультацыі**

Інфармацыю з просьбай ацаніць сфармуляваныя галоўныя мэты варта даслаць у дзяржаўныя ўстановы на дадзеным абшары, няўрадавыя арганізацыі, прыватныя установы, рэлігійныя аб'яднанні, з якімі супрацоўнічаюць лакальныя ўлады. Калі ёсць магчымасць, інфармацыя павінна з'явіцца на сайце лакальных уладаў і на сайтах устаноў, што ўдзельнічаюць у працах групы.

Пасля атрымання адказу варта як мага хутчэй (напрыклад праз два тыдні) абнародаваць адказ з каментарамі групы.

Сфармуляваныя галоўныя мэты павінны быць прадстаўленыя ўладам.

## Крок 11.
## Вызначэнне дэталёвых мэтаў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • сфармуляваныя галоўныя мэты. | • спіс дэталёвых мэтаў. |

***Дэталёвыя мэты*** — гэта складовыя галоўнай мэты. У залежнасці ад вырашаемай праблемы і тым самым галоўнай мэты, дэталёвыя мэты могуць мець этапны характар (у такім выпадку важнай з'яўляецца чарговасць іх рэалізацыі) альбо быць сукупнасцю асобных, незалежных непасрэдна адна ад адной мэтаў элементаў, з якіх складаецца галоўная мэта. Такім чынам, акрэсленне дэталёвых мэтаў дазваляе выдзеліць не толькі складовыя галоўнай мэты, але і чарговасць іх рэалізацыі.

Як галоўныя, так і дэталёвыя мэты павінны фарміравацца на падставе адных і тых жа патрабаванняў, то бок яны павінны быць канкрэтнымі, вымяральнымі, трапнымі, эфектыўнымі і плённымі.

Чым больш дэталёвых мэтаў, тым лягчэй стварыць правільныя дзеянні, што прывядуць да іх паспяховай рэалізацыі.

Дэталёвыя мэты неабходна суаднесці з вынікамі і паказчыкамі.

## Крок 12.
## Акрэсленне рэсурсаў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
| --- | --- |
| • спіс дэталёвых мэтаў. | • спіс дэталёвых мэтаў з суаднесенымі рэсурсамі. |

Для сфармулявання дэталёвых мэтаў трэба стварыць спіс матэрыяльных, фінансавых, чалавечых і кампетэнцыйных рэсурсаў, неабходных для іх дасягнення. Гэта азначае неабходнасць папярэдняга запланавання асноўных дзеянняў у рамках кожнай дэталёвай мэты.

У выпадку, калі акрэсленне даступных рэсурсаў (наяўных і тых, якія можна здабыць) указвае на тое, што поўнае дасягненне дэталёвай мэты немагчыма, можа стаць патрэбным звужэнне дэталёвай мэты ці адмова ад яе дасягнення. Можа быць і так, што дадзеная сітуацыя не дазволіць дасягнуць галоўнай мэты.

Калі група палічыць, што дасягнуць галоўнай мэты немагчыма, то:

- можна нанова акрэсліць галоўную мэту ў кантэксце вырашэння праблемы, для якой была сфармулявана гэтая мэта;
- можна адмовіцца ад вырашэння праблемы, для якой была сфармулявана галоўная мэта і, магчыма, вызначыць мэты для чарговай праблемы з 9-га кроку “Выбар праблем для вырашэння”.

Ацэнка магчымасці дасягнення паасобных дэталёвых мэтаў дазваляе прадбачыць рэальныя, магчымыя вынікі.

## Дадатак № 9. Супастаўленне рэсурсаў, неабходных для дасягнення дэталёвых мэтаў

Прыкладная галоўная мэта, прынятая на рэалізацыю ў рамках стратэгіі — удзел асобаў з інваліднасцю ў грамадскім жыцці, незвязаным з іх прафесійнай дзейнасцю.

Прамежкавыя мэты, напрыклад:

- арыентацыя асобаў з інваліднасцю на адносіны з іншымі людзьмі;
- удзел асобаў з інваліднасцю ў жыцці лакальнай супольнасці.

| **Прамежкавыя мэты** | **1-я прамежкавая мэта** | **2-я прамежкавая мэта** | **Ідэнтыфікацыя рэсурсаў (даступныя; недаступныя, але іх можна здабыць; недаступныя і здабыць іх нельга)** |
|---|---|---|---|
| Фінансавыя патрэбы (грошы), падлічаныя ў беларускіх рублях | | | |
| Запатрабаванасць кадраў, акрэсленая ведамі/кампетэнтнасцю (у рамках лакальных установаў), ставак | | | |
| База памяшканняў (від памяшканняў + метраж — офісная зала, зала для правядзення майстар-класаў) | | | |

*Канец табліцы*

| Прамежкавыя мэты | 1-я прамежкавая мэта | 2-я прамежкавая мэта | Ідэнтыфікацыя рэсурсаў (даступныя; недаступныя, але іх можна здабыць; недаступныя і здабыць іх нельга) |
|---|---|---|---|
| Рэчавыя рэсурсы (абсталяванне) — падлічаныя і ацэненыя | | | |
| Лакальныя ўстановы/ суб'екты, якія спецыялізуюцца ў тэматыцы (няўрадавыя/касцёльныя /царкоўныя арганізацыі, нефармальныя групы) | | | |
| Людзі, зацікаўленыя праблемай і яе вырашэннем (лакальная супольнасць) | | | |
| Іншыя рэсурсы не з дадзенай мясцовасці (напрыклад няўрадавыя арганізацыі, прафсаюзы, арганізацыі працадаўцаў) | | | |

## Крок 13. Планаванне вынікаў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • спіс дэталёвых мэтаў. | • вынікі, акрэсленыя для галоўных і прамежкавых мэтаў. |

Запланаваны аб'ём зменаў будзе складацца з акрэсленых вынікаў, што ілюструюць змену. Гэта датычыць як галоўных, так і дэталёвых мэтаў.

***Вынікі*** — гэта непасрэдныя эфекты, якія датычацца зменаў, акрэсленых у мэтах.

***Запланаваныя вынікі*** акрэсляць дзеянні, якія вядуць да пажаданых зменаў. Вынікі неабходна як мага дакладней запраектаваць — адназначна акрэсліць, вызначыцца, якія змены павінны адбыцца ў выніку

рэалізацыі мэтаў, якія вынікі мы势 плануем мець пасля іх рэалізацыі, як мы будзем за імі назіраць і як мы будзем іх вымяраць.

Запланаваныя вынікі, як плён рэалізацыі мэтаў, могуць мець матэрыяльную, фізічную форму, за якой можна непасрэдна паназіраць. Неабходна памятаць аб тым, каб не блытаць вынікі з прадуктамі, што таксама маюць фізічную форму, але з'яўляюцца канкрэтнай паслугай, напрыклад курсы, схема працэдуры, даведнік альбо канкрэтнымі аб'ектамі, напрыклад архітэктурныя змены. "Цвёрдыя" вынікі можна падлічыць, непасрэдна вымераць, напрыклад колькасць людзей, якія прайшлі курсы, колькасць апрацаваных працэдур, колькасць распаўсюджаных публікацый і г.д.

***"Мяккія" вынікі*** не маюць матэрыяльнай формы, за імі не атрымаецца непасрэдна паназіраць, напрыклад за павелічэннем інстытуцыйнай здольнасці, ростам кампетэнтнасці супрацоўнікаў, зменай паводзінаў і сістэмай каштоўнасцей канкрэтных сацыяльных груп і г.д.

***Чарговы крок*** — гэта планаванне таго, што мы чакаем і што стане пацверджаннем рэалізацыі змены ў выніку ажыццяўлення мэтаў, то бок на падставе чаго мы пазнаем змену.

## Крок 14. Стварэнне паказчыкаў

| | |
|---|---|
| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець:<br>• вынікі, акрэсленыя для галоўных і прамежкавых мэтаў. | Вынік працы:<br>• акрэсленыя паказчыкі вынікаў. |

***Паказчык*** — гэта мера назірання за з'явай-вынікам, планаваным плёнам рэалізацыі канкрэтных мэтаў. Для кожнага запланаванага выніку павінны быць запланаваныя спосабы назірання і памераў — паказчыкі.

Дакументы планавання, што датычацца сацыяльных праблем, утрымліваюць абшары, у рамках якіх мы будзем чакаць не толькі матэрыяльных вынікаў, але і вынікаў, якія датычацца паводзінаў, сістэм каштоўнасцей, перакананняў і пачуццяў. Такім чынам, мы павінны запланаваць, якім чынам мы будзем назіраць, ці запланаваныя змены сапраўды адбыліся і, перадусім, якім чынам мы будзем гэта вымяраць. Ацэнка таго, ці атрымалася дасягнуць запланаваных вынікаў, азначае

ацэнку рэалізацыі запланаваных мэтаў, і менавіта таму яна павінна быць дакладна запраектаваная. Пабудова паказчыкаў — гэта важны крок.

Цвёрдыя вынікі маюць фізічнае вымярэнне, іх можна палічыць. Праектаванне іх паказчыка патрабуе выбару меры, адэкватнай выніку. Калі адзін з нашых вынікаў — павелічэнне колькасці дзяцей, якія наведваюць урокі ангельскай мовы, то колькасным паказчыкам з'яўляецца розніца паміж колькасцю дзяцей, якія наведвалі заняткі да і пасля рэалізацыі.

"Мяккія вынікі" — гэта не фізічныя аб'екты, за імі складана непасрэдна паназіраць. Праектаванне паказчыка для мяккага выніку патрабуе акрэслення таго, якая з'ява **Б** пацвердзіць, што адбылася змена ў з'яве **А**, запісанай як вынік. Калі адзін з нашых вынікаў — рост кампетэнцыі ўстановы, то на такі рост (**А**) можа ўказваць паменшаная колькасць скаргаў кліентаў (**Б**). Памер дасягнення выніку можа — і часта павінен — адбывацца на падставе некалькіх паказчыкаў, аднак мы павінны сфармуляваць яго на падставе ўказанай схемы.

## Дадатак № 10.
## Як ствараць паказчыкі мяккіх вынікаў

Гэтыя паказчыкі адносяцца да мяккіх вынікаў, за якімі складана назіраць непасрэдна, аднак можна і трэба надаць ім форму лічбаў. Гэта магчыма, калі мы выберам:

- метады, пры дапамозе якіх мы будзем атрымліваць інфармацыю аб з'яве **"Б"**;
- інструменты, пры дапамозе якіх мы будзем вымяраць з'яву **"Б"**;
- шкалу, якой мы будзем ажыццяўляць замер.

Метады — гэта:

- даследаванні, праведзеныя пры дапамозе розных тэхнік;
- аналіз дадзеных, што ілюструюць ходу з'явы;
- назіранне.

Інструменты — гэта:

- кантрольны спіс, карта назірання;
- апытальнікі, анкеты, апытальнікі для правядзення інтэрв'ю, апытальнікі для правядзення паглыбленага групавога, так званага фокуснага інтэрв'ю.

Магчымая шкала — гэта, часцей за ўсё, прыметнікавая парадкавая шкала са ступенямі інтэнсіўнасці з'явы, за якой ідзе назіранне: *заўсёды*, *часта*, *часам*, *рэдка*, *ніколі*.

# БЛОК 3.
# ПРАЦА НАД ПРАГРАМАЙ ДЗЕЯННЯЎ

Крокі, змешчаныя ў гэтым блоку, апісваюць рэкамендаваны працоўны рэжым, што прывядзе да з’яўлення ці актуалізацыі праграмы дзеянняў.

## Крок 15.
## Планаванне дзеянняў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • акрэсленыя паказчыкі вынікаў. | • запланаванныя дзеянні. |

Рэалізацыя мэтаў патрабуе шэрагу паслядоўных дзеянняў у пэўнай чарговасці, у адпаведных часовых рамках, замацаваных у канкрэтных рэсурсах. Дзеянні мы праектуем у прывязцы да запланаваных дэталёвых мэтаў і звязаных з імі вынікаў. Ранейшае акрэсленне вынікаў павялічвае трапнасць планавання дзеянняў.

Любое дзеянне, незалежна ад ступені дэталёвасці, правільна запраектавана тады, калі адпавядае акрэсленым крытэрам. Дзеянне павінна быць:

- беспамылковым, то бок запраектаваным так, каб яно непасрэдна вяло да рэалізацыі мэты і дасягнення запланаванага выніку;
- канкрэтным, то бок дакладна акрэсленым;
- эфектыўным, то бок такім, калі рэсурсы, неабходныя для рэалізацыі мэты, не перавышаюць эфекту; кожны раз ацэнку “выдаткаў” павінна ажыццяўляць група;
- плённым, то бок яно мусіць вычэрпваць усе аспекты запланаваных мэтаў і вынікаў.

Правільнае праектаванне дзеянняў для паасобных дэталёвых мэтаў дазваляе ажыццяўляць некаторыя этапы рэалізацыі галоўнай мэты. Дасягненне галоўнай мэты патрабуе таго, каб этапы яе рэалізацыі, запісаныя ў якасці прамежкавых мэтаў, ажыццяўляліся па чарзе, з улікам часовага і прычынна-следчага наступстваў. Запланаванне

дзеянняў з улікам такой залежнасці — неабходная ўмова ажыццяўлення галоўнай мэты.

Для запланаваных дзеянняў патрэбна стварэнне каштарысаў і графікаў.

## Крок 16.
## Планаванне каштарысаў дзеянняў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець:<br>• запланаваныя дзеянні. | Вынік працы:<br>• прыблізныя каштарысы дзеянняў. |
|---|---|

Калі дзеянні сапраўды павінны быць рэалізаваны, неабходна падлічыць выдаткі па рэалізацыі паасобных дзеянняў. Важна акрэсліць крыніцы атрымання запланаваных сродкаў. Пры падліку сродкаў, неабходных для рэалізацыі дзеянняў, неабходна ўлічыць не толькі тыя, якія можна забяспечыць у лакальным бюджэце, але і тыя, якія можна здабыць з іншых крыніц (напрыклад замежныя сродкі). Паколькі дзеянні плануюцца на некалькі гадоў, каштарыс павінен мець перспектыву, даўжэйшую за год. Гэта азначае, што мы маем справу з ключавым момантам, які патрабуе актыўнага ўдзелу рады. Каштарысы дзеянняў мусяць быць уключаны ў бюджэтны цыкл муніцыпалітэтаў. Здабыча сродкаў павінна ўлічваць запланаваны тэрмін рэалізацыі дзеянняў.

Падлік выдаткаў па ажыццяўленні паасобных дзеянняў дазваляе правільна запраектаваць праграмы дзеянняў.

## Крок 17.
## Праектаванне праграм дзеянняў

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець:<br>• прыблізныя каштарысы дзеянняў. | Вынік працы:<br>• праграмы дзеянняў. |
|---|---|

***Грошы***, ***час***, ***выканаўца*** — гэта чыннікі, якія ўзаемна ўплываюць адзін на аднаго і вырашальным чынам сведчаць пра рэалізацыю запла-

наваных дзеянняў. Яны павінны быць запланаваны ва ўзаемнай прывязцы і запісаны ў форме графіка. Час рэалізацыі дзеянняў павінен быць падрабязна акрэслены. Адпаведнае запланаванне часу дазваляе захаваць належны рытм і тэмп рэалізацыі дзеянняў. Вызначэнне выканаўцаў указвае на адказных падчас рэалізацыі дзеянняў.

***Праграма дзеянняў*** — гэта супастаўленне ў часе дзеянняў разам з прыблізнымі выдаткамі па рэалізацыі і вызначанымі выканаўцамі. Для кожнай галоўнай мэты з улікам дэталёвых мэтаў ствараецца асобная праграма дзеянняў.

Неабходна супаставіць і параўнаць створаныя праграмы дзеянняў, паколькі гэта дазваляе знайсці агульныя моманты. Можа апынуцца, што дзеянні, запланаваныя ў розных праграмах, ідэнтычныя ці ўзаемадапаўняюцца. Да таго ж трэба прааналізаваць выкарыстанне рэсурсаў у паасобных дзеяннях, запланаваных для рэалізацыі ў адзін і той жа час. Таксама варта падумаць над такой групоўкай дзеянняў, якая дазволіць павялічыць іх эфектыўнасць, знізіць выдаткі на іх рэалізацыю і аптымальна выкарыстаць даступныя рэсурсы.

Запраектаваныя праграмы дзеянняў павінны быць прадстаўлены ўладам.

## Дадатак № 11.
## Праграма дзеянняў

| Галоўная мэта | Дэталёвая мэта | Дзеянне | ……. год | | | | ……. год | | | | Выдатак | Выканаўца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал | | |
| 1. Галоўная мэта | 1-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | 2-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | 3-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | |

| Галоўная мэта | Дэталёвая мэта | Дзеянне | ……. год | | | | ……. год | | | | Выдатак | Выканаўца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал | I квартал | II квартал | III квартал | IV квартал | | |
| 2. Галоўная мэта | 1-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | 2-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | 3-я дэталёвая мэта | 1-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 2-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 3-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 4-е дзеянне | | | | | | | | | | |
| | | 5-е дзеянне | | | | | | | | | | |

# БЛОК 4.
# ПЛАНАВАННЕ АЦЭНКІ І АКТУАЛІЗАЦЫІ

Змешчаныя ў гэтым блоку крокі апісваюць рэкамендаваны напрамак працы. Яны прывядуць да планавання маніторынгу і ацэнкі ўкаранення стратэгічнага дакумента і яго актуалізацыі.

## Крок 18.
## Планаванне маніторынгу

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • праграму дзеянняў. | • вызначэнне правілаў назірання. |

Ажыццяўленне кожнага мерапрыемства патрабуе адсочвання і рэгістрацыі пераадоленага шляху.

Дакументы планавання з больш шырокай часовай перспектывай патрабуюць праектавання абсягаў, што патрабуюць назірання. Абсягі, якія могуць сутыкнуцца з асаблівымі цяжкасцямі, можна будзе загадзя прадугледзець. У выпадку ажыццяўлення стратэгіі, асноўныя складнікі маніторынгу — гэта вынікі, дзеянні, тэрміны, выдаткі. Сістэма маніторынгу патрабуе і вызначэння, у якія тэрміны і кім дадзеныя абшары будуць назірацца, як будзе весціся справаздачнасць і якія працэдуры будуць ацэньвацца ў выпадку заўважаных цяжкасцей.

За правядзенне маніторынгу і справаздачнасць яго вынікаў адказныя лакальныя ўлады, што прызначаюць асоб, якія ад іх імя павінны весці маніторынг. Варта стварыць калектыў, што будзе займацца маніторынгам.

## Крок 19.
## Планаванне ацэнкі і актуалізацыі

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • вызначаныя правілы назірання. | • вызначэнне правілаў і тэрмінаў ацэнкі і актуалізацыі. |

Кожны план, незалежна ад ступені падрабязнасці, павінен праходзіць ацэнку, то бок праверачны агляд.

Ацэнка мусіць ажыццяўляцца групай па пытаннях ацэнкі. Яе вынікі павінны быць прадстаўлены ў форме справаздачы лакальным уладам. У выпадку, калі вынік ацэнкі пакажа неабходнасць правядзення прафілактычных дзеянняў, трэба будзе актуалізаваць стратэгію — у залежнасці ад патрэб — у межах графіка, вынікаў, мэтаў, дыягностыкі.

У стратэгічным дакуменце павінны быць адлюстраваны канкрэтныя запісы наконт працэдур ацэнкі і яе ўкаранення, у тым ліку тэрміны і адказныя за яе суб'екты. Акрамя таго, у дакуменце неабходна прапісаць мінімальны перыяд, пасля якога трэба правесці актуалізацыю дакумента і рэжым яе правядзення. Мэтазгодна замовіць рэкамендацыі незалежных экспертаў па накірунках і кроках далейшага развіцця стратэгій, якія ўтрымліваюць гэтыя дакументы.

# БЛОК 5.
# ПРАВЕРКА

У гэтым блоку знаходзіцца інструкцыя па праверцы ў той сітуацыі, калі ў групы ўжо ёсць гатовы стратэгічны дакумент. На дадзеным этапе не ствараюцца новыя рашэнні, мы толькі ацэньваем і выпраўляем выпрацаваныя дагэтуль падыходы.

## Крок 20.
## Кансультацыі і аналіз правільнасці стратэгіі

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • апрацаваны дакумент планавання. | • канчатковая версія дакумента планавання. |

Перадаючы дакумент на кансультацыі на дадзеным этапе, трэба адназначна акрэсліць аб'ём і крытэрыі кансультацыі. Калі кансультацыі адбыліся на папярэдніх этапах стварэння дакументаў, то цяпер у нас ёсць поўнае права абмежаваць іх аб'ём. У такой сітуацыі на гэтым этапе ацэньвацца можа, напрыклад, графік дзеянняў.

Для таго каб аблегчыць аналіз сабраных заўваг, варта загадзя падрыхтаваць фармуляр для заяўкі заўваг.

Прызначаныя асобы — прадстаўнікі групы — апрацоўваюць спіс заўваг, атрыманых падчас усіх кансультацый. У гэтым спісе павінны змяшчацца ўсе заўвагі, па меры магчымасці згрупаваныя ў тэматычныя блокі, незалежна ад іх ацэнкі і частаты з'яўлення. Кожны з каментароў мусіць быць апісаны з указаннем крыніцы (напрыклад меркаванні жыхароў, заключэнні экспертаў і г.д.) і частаты з'яўлення заўвагі (колькі чалавек яе згадала).

Усе заўвагі і назіранні, адлюстраваныя ў справаздачы, павінны стаць прадметам аналізу групы па пытаннях стратэгіі і падставай зменаў, калі група палічыць іх абгрунтаванымі.

Усе заўвагі і назіранні, адлюстраваныя ў справаздачы, павінны таксама быць пракаментаваны ў тым рэжыме, у якім яны былі заяўлены.

Перад прадстаўленнем уладам запланаванага дакумента, апрацаванага групай па пытаннях стратэгіі, трэба праверыць яго фармальную правільнасць і скарэктаваць магчымыя недахопы.

## Дадатак № 12.
## Канчатковы аналіз фармальнай правільнасці стратэгіі

Аналіз фармальнай правільнасці можна правесці пры дапамозе кантрольнага спісу, пабудаванага ў форме пытанняў.

1. Ці акрэслены ў стратэгіі час яе дзеяння?

2. Ці ёсць у стратэгіі дыягностыка?

а). Ці ёсць у дыягностыцы элементы сацыяльна-эканамічнай дыягностыкі?

б). Ці звязана дыягностыка з нацыянальнымі стратэгічнымі дакументамі?

г). Ці спасылаецца дыягностыка на абавязкі лакальных уладаў?

д). Ці праводзіўся ў рамках дыягностыкі аналіз сабраных дадзеных?

4. Ці правільна ідэнтыфікаваны праблемы, адлюстраваныя ў стратэгіі?

5. Ці ёсць у стратэгіі акрэсленыя галоўныя і дэталёвыя мэты?

6. Ці адпавядаюць акрэсленыя ў стратэгіі галоўныя і дэталёвыя мэты крытэрам канкрэтнасці, вымернасці, дасягальнасці, рэальнасці, эфектыўнасці і плённасці?

7. Ці ёсць у стратэгіі дзеянні, што суадносяцца з дэталёвымі мэтамі?

8. Ці ёсць у стратэгіі запланаваныя вынікі і паказчыкі, што з імі суадносяцца?

9. Ці вядуць дзеянні, запланаваныя ў стратэгіі, да дасягнення запланаваных мэтаў, ці яны трапныя, эфектыўныя, канкрэтныя, плённыя?

10. Ці ёсць у стратэгіі графік?

а). Ці акрэслены ў графіку дакладна час/часовыя рамкі, у якіх будзе ажыццяўляцца дадзенае дзеянне?

б). Ці падлічаны ў графіку выдаткі на паасобныя дзеянні?

в). Ці ёсць у графіку патэнцыйныя крыніцы фінансавання паасобных дзеянняў?

д). Ці ўказаны ў графіку ўстановы/суб'екты, адказныя за рэалізацыю паасобных дзеянняў?

11. Ці ёсць у стратэгіі запіс пра маніторынг?

а). Ці указваюць запісы пра маніторынг на адказны за яго суб'ект?

б). Ці указваюць запісы пра маніторынг на працэдуру маніторынгу: у які тэрмін яна павінна адбывацца, якім чынам яна мусіць праходзіць, якая будзе справаздачнасць?

12. Ці ёсць у стратэгіі запісы пра ацэнку?

а). Ці называюць запісы пра ацэнку суб’ект ці установу, адказныя за гэтую ацэнку?

б). Ці ўказваюць запісы пра ацэнку на працэдуру ацэнкі: з якой перыядычнасцю яна павінна адбывацца, якім чынам?

13. Ці прадугледжваюць запісы стратэгіі сітуацыю, калі вынікі ацэнкі абавязваюць актуалізаваць дакумент?

14. Ці ёсць у стратэгіі інфармацыя аб актуалізацыі?

а). Ці апісана ў інфармацыі аб актуалізацыі працэдура актуалізацыі: як часта яна павінна адбывацца, якім чынам?

Негатыўны адказ на любое з вышэйпералічаных пытанняў — гэта ўказанне правесці аналіз створанага дакумента, які дазваляе на падставе вынікаў аналізу перайсці да кроку, што адпавядае сферы, якая патрабуе зменаў.

# БЛОК 6.
# ПРЫЁМ І ЎКАРАНЕННЕ

У гэтым блоку знаходзяцца рэкамендацыі наконт прыёму для ажыццяўлення лакальнымі ўладамі выпрацаванай стратэгіі і яе ўкаранення.

## Крок 21.
## Прыём стратэгіі
## для ажыццяўлення лакальнымі ўладамі

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • канчатковую версію стратэгіі вырашэння сацыяльных праблем. | • прыём стратэгіі для ажыццяўлення лакальнымі ўладамі. |

Стратэгія вырашэння сацыяльных праблем павінна быць прынята на ажыццяўленне лакальнымі ўладамі.

## Крок 22.
## Укараненне стратэгіі

| Для таго каб распачаць працу, неабходна мець: | Вынік працы: |
|---|---|
| • рашэнне наконт прыёму стратэгіі. | • рэалізаваная стратэгія. |

Рэкамендуецца стварэнне групы па пытаннях укаранення стратэгіі і выбар асобы-каардынатара яе працы. Група будзе адказная за кантроль укаранення стратэгіі, каардынацыю і маніторынг дзеянняў, апрацоўку высноў наконт укаранення ды прапаноў зменаў і актуалізацыі стратэгіі, падрыхтоўку перыядычных справаздач па ажыццяўленні стратэгіі. У склад групы павінны ўваходзіць асобы, якія ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы стратэгіі, і істотныя суб’екты, што рэалізавалі запланаваныя ў ёй дзеянні (напрыклад датычныя дзяцей з інваліднасцю, дарослых з інваліднасцю, жанчын з інваліднасцю).

Група па стварэнні стратэгіі зрабіла ўсё магчымае, каб стратэгія была прадуманым даведнікам, дапаможнікам падчас ажыццяўлення абраных стратэгіяй мэтаў.

Асобы-ўдзельнікі працэсу стварэння стратэгіі маюць веды, што дазваляюць ім стварыць дадзены дакумент. Варта аб гэтым памятаць, бо такія веды могуць дапамагчы падчас выканання заданняў, якія выцякаюць са стратэгіі. Давайце звяртацца да гэтых ведаў, кансультавацца, калі ўкараненне сутыкаецца з перашкодамі. Магчыма, сітуацыя, у якой мы апынуліся, аналізавалася падчас сустрэч групы, і яна гатовая дапамагчы нам у яе вырашэнні.

Стратэгія вырашэння сацыяльных праблем павінна ўлічвацца падчас працы над штогадовымі бюджэтамі так, каб забяспечыць магчымасць выканаць заданні, апісаныя ў графіку на надыходзячы год.

# Слоўнічак

**Асобы з інваліднасцю** — асобы з устойлівымі фізічнымі, псіхічнымі, інтэлектуальнымі альбо сэнсарнымі парушэннямі, якія пры ўзаемадзеянні з рознымі бар'ерамі могуць перашкаджаць іх поўнаму і эфектыўнаму ўдзелу ў жыцці грамадства нароўні з іншымі.

**Асобы з камбінаванай інваліднасцю** — асобы з больш чым адной інваліднасцю.

**Асобы з псіхічнай інваліднасцю** — асобы з псіхічнымі захворваннямі, з парушэннямі асобы і паводзін (выключаючы парушэнні аутыстычнага тыпу).

**Асобы з інтэлектуальнай инваліднасцю** — асобы, якія маюць цяжкасці у адукацыі і сацыялізацыі, камунікацыі, парушэнні паводзін.

**Асобы з сэнсарнай інваліднасцю** — асобы з інваліднасцю органаў пачуццяў, сляпыя ці асобы са слабым зрокам, глухія і са слабым слыхам.

**Асобы з фізічнай інваліднасцю** — асобы з рýхавай інваліднасцю, то бок з пашкоджанымі органамі руху і асобы з хранічнымі захворваннямі ўнутраных органаў.

**Ацэнка** — ацэньванне на падставе загадзе прынятых крытэраў.

**Дыскрымінацыя** — любое адрозненне, выключэнне альбо абмежаванне з прычыны інваліднасці, мэтай ці вынікам якога з'яўляецца прыніжэнне ці адмаўленне прызнання, рэалізацыі ці ажыццяўлення нароўні з іншымі ўсіх правоў чалавека і асноўных свабод у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, грамадскай ці любой іншай сферы. Сюды належаць усе формы дыскрымінацыі, у тым ліку адмова ў належным прыстасаванні.

**Дыягностыка** — працэдура, што дазваляе ідэнтыфікаваць праблемы.

**Маніторынг** — назіранне за зменамі і іх рэгістрацыя.

**Маргіналізацыя** — выключэнне некаторых асяроддзяў і катэгорый насельніцтва з грамадскага жыцця.

**Мэта** — планаваны аб'ём зменаў.

**Мэта, асноўная** — аб’ём зменаў прыярытэтнага значэння.

**Мэта, дэталёвая** — складная частка галоўнай мэты.

**Павестка 22** — рэкамендацыі лакальным уладам у галіне планавання палітыкі ў адносінах да асобаў з інваліднасцю, апрацаваныя Шведскай федэрацыяй асобаў з інваліднасцю (*Handikap Förbunden — The Swedish Disability Federation*).

**Паказчык** — з’ява, што дазваляе ідэнтыфікацыю і замер іншай з’явы.

**Палітыка, сацыяльная** — комплекс доўгатэрміновых дзеянняў для вырашэння сацыяльных праблем.

**Партыцыпацыйнасць** — удзел адзінак у вялікай групе, фармацыі, праекце ці інстытуце.

**Партыцыпацыйнасць, грамадская** — удзел грамадзян у кіраванні грамадскімі справамі.

**Патрэбы, сацыяльныя** — розніца паміж прынятымі стандартамі і рэальным узроўнем жыцця.

**Праблема, сацыяльная**– любая з’ява, якая ў масавым маштабе паніжае стандарт грамадскага жыцця і, у прыватнасці, вядзе да маргіналізацыі некаторых асяроддзяў і катэгорый насельніцтва.

**Праграма дзеянняў** — комплекс запланаваных у часе дзеянняў з улікам выдаткаў і выканаўцаў.

**Плён** — непасрэдны вынік дзеяння.

**Рэсурсы** — матэрыяльныя і нематэрыяльныя чыннікі, неабходныя для стварэння тавараў у выглядзе прадуктаў і вынікаў.

**Стандарт жыцця** — узровень жыцця, гарантаваны Канстытуцыяй і прынятымі Польшчай міжнароднымі паразуменнямі.

**Стандартныя правілы забеспячэння роўных магчымасцяў для асобаў** — дакумент Арганізацыі Аб’яднаных Нацый, прыняты падчас 48-й сесіі Генеральнай Асамблеі Аб’яднаных Нацый 20 снежня 1993 г. (рэзалюцыя 48/96).

**Стратэгія** — доўгатэрміновы план, што датычыць напрамку і аб’ёму зменаў.

**Empowerment** — працэс заахвочвання людзей да актыўнасці падчас прыняцця рашэнняў, развіццё рэальнага ўплыву ўдзельнікаў на планаванне і рэалізацыю скіраваных да іх дзеянняў.

**Gender mainstreaming** — уключэнне праблематыкі палоў у асноўную плынь палітыкі. Гэта значыць, што ідэя роўнасці палоў павінна прысутнічаць ва ўсіх дзеяннях: ад этапу планавання і рэалізацыі да ацэнкі дзеянняў.

“22 крокі да…” прайшлі ацэнку. Аказалася, што на эфектыўнасць выкарыстання Інструмента ключавы ўплыў меў стыль кіравання канкрэтных лакальных уладаў.

“Характэрная рыса апрацаванага Інструмента — падыход да працы над стратэгіяй, як **да доўгатэрміновага стратэгічнага працэсу**. Падаецца, што належная ацэнка муніцыпалітэтамі гэтай каштоўнасці і партыцыпацыйных элементаў, рэкамендаваных у Інструменце, сцісла звязана са стылем кіравання, якому аддаецца перавага ў дадзенай гміне, павеце[1].

Там, дзе дамінуе стыль традыцыйнага менеджменту, і дзе з’явіліся пачатковыя элементы менеджарскага кіравання, там прывабнасць Інструмента меншая (асабліва ў выпадку традыцыйнай мадэлі кіравання). Там, дзе ўжо развіты менеджарскі стыль кіравання, і з’яўляецца ідэя, элементы кіравання, заснаванага на мадэлі *good governance*, прывабнасць Інструмента большая. У выпадку першай, традыцыйнай мадэлі кіравання, адміністрацыя абапіраецца на схематызм дзеянняў і іерархічную структуру, зачыненай на знешнія чыннікі. Пры мадэлі менеджарскага кіравання асноўная ўвага надаецца рынкавым механізмам, адбываецца ўвядзенне партыцыпацыйнага кіравання. Адміністрацыя засяроджваецца на выніках і мэтах, а таксама місіі, а не на правілах і распараджэннях. Яна ўключае ў свае дзеянні на карысць вырашэння праблем прадстаўнікоў прыватнага і пазаўрадавага сектараў. У гэтай мадэлі публічная адміністрацыя робіць стаўку перадусім на тое, каб зарабіць грошы, а не выдаткаваць іх. Галоўны крытэр пры прыняцці рашэння ў такім выпадку — карыснасць, магчымасць выкарыстаць фінансавыя сродкі, у якіх патрабуецца наяўнасць стратэгіі, а таксама — эфектыўнасць, невялікія выдаткі на апрацоўку стратэгіі. У такім выпадку доўгатэрміновая актыўнасць групы — тое, што рэкамендуе Інструмент — неэфектыўнае рашэнне. Партыцыпацыйнасць дапускаецца не таму, што яна — каштоўнасць, а таму, што прадукт, створаны дзякуючы такому падыходу, будзе лепшай якасці, а гэта зробіць дадзеную гміну больш канкурэнтаздольнай. Калі гэты працэс занадта доўжыцца, ён перастае быць рэнтабельным і яго трэба спыніць. Тут вельмі добра можна заўважыць мысленне ў катэгорыях прыбыткаў і страт, а не ў катэгорыях выдаткаў і выгады.

У выпадку мадэлі *good governance*, у адпаведнасці з “Белай кнігай” Еўрапейскай Камісіі, асноўныя элементы, што спрыяюць добраму кіраванню — гэта, у прыватнасці, прынцыпы празрыстасці, асабістая сумлен-

---

[1] Hausner, J. (2008) Zarządzanie publiczne. Варшава: Wydawnictwo Naukowe Scholar.

насць, высокія этычныя стандарты, павага права, адказнасць, даступнасць і салідарнасць з грамадзянамі. Дадзенае кіраванне ідзе ў напрамку эфектыўнага дзеяння публічных устаноў, адпаведнай якасці публічных паслуг ды ўменняў прыстасоўвацца да новых сацыяльных патрэб.

Даследаванні стыляў кіравання ў гмінным і павятовым самакіраванні, а таксама партыцыпацыйных працэсаў паказалі, што цяпер у Польшчы муніцыпалітэты пераходзяць ад бюракратычнай мадэлі кіравання (што абапіраецца на тэорыі Вебера) да менеджарскага кіравання[1]. Кіраванне, якое грунтуецца на правіле *good governance,* пакуль што развіваецца і прасоўваецца ў сферы ідэі, а не практычнага выкарыстання. Несумненна, гэта мае ўплыў на ацэнку працэсу працы над Інструментам асобамі, якія прымаюць у ім удзел, перш за ўсё з кантрольных (рада) і кіроўных (праўленне — войт) структур тэрытарыяльнага самакіравання.

У даследаваных гмінах і павеце прадстаўнікі паасобных устаноў, у якіх пыталі пра чаканні, фармулявалі іх перш за ўсё ў кантэксце прадукту (яны хацелі мець добрую стратэгію, якая ўспрымалася б, як тая, што адпавядае рэальным патрэбам, прадугледжвае рэальны план дзеянняў). Яны былі гатовыя да неабходнасці ўкласці ўласную працу, аднак падкрэслівалі і чыннік, які матываваў паўдзельнічаць у праекце — дапамогу з боку знешніх кансультантаў фонду *"TUS"*. Менавіта неабходнасць унесці ўласную працу ды аб'ём дапамогі з боку кансультантаў сталі расчараваннем.

Двум з даследаваных асяродкаў не адпавядаў метад самастойнага пошуку высноў, працаёмкасць некаторых крокаў, арганізацыйны хаос, што датычыў правядзення сустрэч, занадта навуковы падыход і адсутнасць дастатковай дапамогі з боку фонду *"TUS"*. **Даследаваныя не адрынулі ідэю самога Інструмента стварэння стратэгіі** (у якасці паслядоўных этапаў працы), **аднак яны паставілі пад пытанне асноўную перадумову Інструмента, а менавіта — самастойнасць Групы па пытаннях стратэгіі ў запланаваным працэсе**. Ён не апраўдаў чаканняў прадстаўнікоў выканаўчага органа двух асяродкаў, у якіх была спраўная і хуткая падрыхтоўка стратэгічнага дакумента пры дапамозе знешніх экспертаў. Па меркаванні рэспандэнтаў/рэспандэнтак з двух асяродкаў, гэты працэс павінен быў быць праведзены па-іншаму і абапірацца перадусім на працы вонкавых асобаў з адпаведнымі ведамі і кваліфікацыямі:

[1] B. Ledzion, K. Olejniczak, W. Pander (2009) Ewaluacja trafności zakresu interwencji Działania 5.1 Programu Operacyjnego Kapitał Ludzki. Варшава: Канцэлярыя Старшыні Савета міністраў.

*(…) Ён нерваваўся, што яны прыязджаюць, сядзяць і нічога не робяць. Ён чакаў, што яны больш дапамогуць нам напісаць гэтую стратэгію. А яны казалі, што не напішуць гэтай стратэгіі, бо гэта мы ведаем лакальныя праблемы. Ну, добра. Я гэта разумею, але такі варыянт, што хтосьці нам піша такую стратэгію на падставе нашага аналізу, падказак, таго, што мы бачым — мяркую, такі від супрацоўніцтва меў на ўвазе спадар бургамістр. Што яны сюды прыязджаюць, даследуюць некаторыя рэчы, мы кансультуем і падказваем, а яны пішу гэтую стратэгію, бо ў іх ёсць досвед у напісанні. А яны хацелі наадварот* (цытата з інтэрв'ю).

*Яны прыязджалі, але мне не хапала таго, што яны замала выконвалі ролю вядучага, мадэратара. Яны сядзелі збоку і хацелі, каб я, напрыклад, вёў усю сустрэчу, яны, праўда, маглі задаць нейкія дадатковыя пытанні. Я, хутчэй, разлічваў на тое, што "TUS" падкіне мне больш гатовых узораў. (…) Але яны нічога не падказалі і толькі паўтаралі: "Прыдумайце самі"* (цытата з інтэрв'ю).

Другім расчараваннем, акрамя чакання большай актыўнасці з боку кансультантаў, быў час, патрэбны для выпрацоўкі стратэгіі, які ў даследаваннях акрэсліваўся рэспандэнтамі/рэспандэнткамі, як "хуткі". Такія чаканні прывялі да таго, што працоўны працэс, што доўжыўся больш за шэсць месяцаў, адсутнасць праверкі апрацаванага матэрыялу кансультантамі, іх непрысутнасць на ўсіх сустрэчах (адсутнасць кантролю і мабілізуючага чынніка) прывялі да расчаравання і незадавальнення:

*Дык мы маглі б скараціць гэты працэс, напрыклад гэтыя сустрэчы, нават на 50 %. Гэта пытанне правядзення прафесіяналам, які сказаў бы: гэтую праблему ў іншым месцы мы вырашылі такім чынам, і можа, у вас такое рашэнне спрацавала б. А калі не, дык давайце перафармулюем яго на дадзенай сустрэчы. А гэта было так расцягнута ў часе, што я пачаў губляць цярплівасць і сказаў — вялікі дзякуй, гэта наша апошняя сустрэча* (цытата з інтэрв'ю).

Раздражненне з-за доўгага працэсу працы з'явілася і ў рэспандэнтаў з двух іншых асяродкаў. Яны падкрэслівалі той факт, што толькі з цягам часу яны зразумелі і належным чынам ацанілі каштоўнасць доўгатэрміновага працэсу працы, а дапамаглі ім у гэтым тлумачэнні прадстаўнікоў/прадстаўніц фонду *"TUS"* і наглядныя эфекты:

*Маё ўяўленне аб гэтай працы спачатку было іншым: што мы прыйдзем на першую сустрэчу, выпішам праблемы, раз, два, тры, а на другой сустрэчы ўжо будзем дзейнічаць, будзем пісаць. А тут апынула-*

*ся, што не. Што ўсё гэта зусім не так хутка. Спачатку я з-за гэтага злаваўся і лічыў, што мы марнуем час. Цяпер я пераканаы, што гэта нават занадта хутка. Гэта трэба рабіць спакойна, павольна, бо гэта доўгатэрміновае рашэнне наконт вельмі важных для нас рэчаў. Цяпер у нас добра дыягназаваныя і апрацаваныя праблемы, і я спадзяюся, што тое, што мы далей прыдумаем, таксама будзе добрым і эфектыўным* (цытата з інтэрв'ю).

У двух асяродках чуліся галасы, што прапанаваная ў Інструменце форма працы вельмі цікавая. Прадстаўнікі гэтых двух месцаў ацанілі партыцыпацыйны характар Інструмента (распрацоўка стратэгіі ў міждысцыплінарнай групе) і параілі б працу з дадзеным Інструментам іншым гмінам/паветам. Перавага працэсу працы над стратэгіяй для яго ўдзельнікаў — гэта інтэграцыя сяброў Групы, лепшае знаёмства і азнаямленне са сваім пунктам гледжання. З'яўленне прадстаўнікоў фонду *"TUS"* толькі на некаторых сустрэчах стала каштоўнасцю, бо можна было больш востра абменьвацца думкамі і самастойна разабрацца ў праблеме, а прадстаўнікі фонду *"TUS"* гэта *"люстэрка нашых думак"*.

*Гэты метад досыць гнуткі. Я яго бачу як мадэль для выкарыстання, а не як узор выканання. (…) Дадзеная стратэгія будзе лепшай за папярэднюю, бо яна — вынік доўгай працы Групы, бо яны не напісаная, а ствараецца* (цытата з інтэрв'ю).

*Я люблю, калі ёсць прадстаўнікі "TUS", бо яны для мяне — падтрымка, але добра, што яны ёсць не заўсёды. Калі яны ёсць, то людзі больш стараюцца, рыхтуюцца, каб лепш выглядаць, і гэта нармальна. Але калі іх няма, то людзі часта непасрэдна выказваюць свае меркаванні. Таму, я лічу, добра, што яны ёсць толькі часам* (цытата з інтэрв'ю).

Заўважальна, што ў двух асяродках, якія былі незадаволены ўдзелам у праекце, больш негатыўных меркаванняў датычыла працэсу ўкаранення Інструмента, чым самога Інструмента. Ніводны асяродак не сумняваўся ў неабходнасці крок за крокам апісаць працэдуру працы. Не сумняваліся і ў чарговасці крокаў, прапанаваных фондам *"TUS"*. Сумняваліся перш за ўсё ў працэдурах працы — актыўнасці кансультантаў і працаёмкасці. Калі параўнаць гэта з чыннікамі, што ўплываюць на гатоўнасць самакіравання папрацаваць над стратэгіяй і на выніку даследаванняў на тэму стану самакіравання ў Польшчы, можна канстатаваць — гатоўнасць самакіравання выкарыстаць дадзены Інструмент нізкая. Гэта звязана з малымі ведамі наконт стратэгічнага планавання, напрыклад дыягностыкі, праблем, фармулявання мэтаў ці паказчыкаў, са слабымі камунікацыйнымі

і асабістымі кампетэнцыямі, неабходнымі для калектыўнай працы, а таксама з малым усведамленнем плёну такога метаду працы.

Спосаб кіравання ў муніцыпалітэтах не з'яўляўся — як я ўжо пісала — прадметам ацэнкі, але можна прыйсці да высновы, што там, дзе муніцыпалітэт кіруе на падставе традыцыйнай мадэлі, там супраціўленне Інструменту большае, а там, дзе мы маем справу з менеджарскімі мадэлямі ды ідэяй *good governance*, і супраціўленне, і цяжкасці меншыя.

Трэба таксама памятаць, што структурам публічнай адміністрацыі ўласцівая значная іерархічнасць, адсутнасць самастойнасці ў прыняцці рашэнняў і боязь адказнасці ды санкцый за дрэнна выкананае заданне. Усе гэтыя элементы ўплывалі і на меркаванні наконт Інструмента.

Грэгары Бэйтсан, творца сістэмнай арыентацыі ў псіхалогіі, увёў паняцце аптымальнай розніцы. Гэтая з'ява палягае на тым, што калі паміж папярэднім досведам, практыкай і новай прапанаванай практыкай занадта малое адрозненне, то з боку людзей няма ні ўвагі, ні зацікаўленасці новай практыкай. Калі розніца занадта вялікая, яна выклікае супраціўленне. Для таго каб адбылася змена, розніца паміж папярэдняй і новай практыкамі павінна быць аптымальнай. Аналізуючы ў гэтым кантэксце метадалогію Інструмента для апрацоўкі стратэгіі, прапанаваную рэалізатарам праекта, падаецца, што ў пэўных рашэннях розніца была аптымальная, у прыватнасці, партыцыпацыйны характар Інструмента (напрыклад міждысцыплінарная група, інфармаванне жыхароў), а ў некаторых — занадта вялікая (напрыклад змена спосабу працы, што абапіраецца на самастойнасці, адказнасці за прынятыя рашэнні і на пераходзе ад мыслення заданнямі да мыслення праблемамі і патрэбамі), што прывяло да супраціўлення, якое праяўлялася, у прыватнасці, у зніжэнні актыўнасці, мадыфікацыі прапанаванага працэсу, напрыклад спрашчэнні аналітычнай часткі ці ў адмове ад далейшай працы.

Прадстаўнікі гміны з двух асяродкаў задэкларавалі, што ў сувязі з цяжкасцямі, якія з'явіліся падчас укаранення Інструмента, у будучыні яны не будуць самастойна карыстацца прапанаваным Інструментам. Іншыя два асяродкі заявілі, што выкарыстаюць дадзены Інструмент чарговы раз, а трэці — пакуль не хоча выказвацца на гэты конт, бо ён толькі распачаў працу над стратэгіяй.

**Справаздача** па ацэнцы Інструмента для апрацоўкі стратэгіі вырашэння сацыяльных праблем з'явілася ў рамках праекта *"Павестка 22 — Інструмент стварэння стратэгіі і аперацыйных праграм у галіне сацыяльнай палітыкі"*.

# НЕКАТОРЫЯ ПРЫКЛАДЫ ПОСПЕХАЎ І ПАРАЗАЎ ПРЫ ПЛАНАВАННІ І РЭАЛІЗАЦЫІ ДЗЕЯННЯЎ НА КАРЫСЦЬ АСОБАЎ З ІНВАЛІДНАСЦЮ Ў ПОЛЬШЧЫ

**1.** Можна сказаць, што любая сітуацыя, у якой самакіраванне займаецца планаваннем дзеянняў — гэта ўжо прыклад поспеху. Шмат гадоў у Польшчы існуе юрыдычны абавязак ствараць стратэгічныя дакументы, што датычацца грамадскіх дзеянняў. Аднак усё яшчэ не ва ўсіх муніцыпалітэтах ёсць такія дакументы, часам яны ствараюцца са спазненнем, напрыклад праз год ці два пасля тэрміну завяршэння дзейнасці папярэдняга дакумента. Бывае, муніцыпалітэты забываюць, што надышоў час распачаць планаванне на чарговы перыяд. Звычайна гэта азначае толькі адно — поўную адсутнасць маніторынгу і ацэнкі запланаванага дакумента. Інакш кажучы, такі дакумент мае выключна фасадны характар. У прынцыпе, ён мёртвы, бо яго ніхто не выкарыстоўвае. Ні асобы, якія прымаюць рашэнні, каб запланаваць дзеянні. Ён не выкарыстоўваецца ўладамі, каб акрэсліць будучыя прыярытэты. Планаваныя ў ім дзеянні не сінхранізуюцца з іншымі дзеяннямі і стратэгіямі, напрыклад са стратэгіяй інвестыцыйнага развіцця горада. Наогул, такі дакумент ніякім чынам не ўплывае на рэчаіснасць, часта ён з'яўляўся з-за нейкага праекта, фінансаванага са знешніх крыніц. Вядомы выпадак аднаго з польскіх гарадоў, у якім не была створаная кіроўная група па ўкараненні праграмы дзеянняў на карысць асобаў з інваліднасцю, дзе на працягу некалькіх гадоў праграма не ацэньвалася. Толькі лакальныя няўрадавыя арганізацыі, зацікаўленыя праграмай, запатрабавалі ад гарадскіх уладаў правесці эвалюацыю праграмы, што і адбылося.

**2.** Параза стварэння стратэгіі — гэта і практыка заказу напісання сацыяльных праграм знешнім фірмам, якія не ведаюць ні мясцовасці, ні яе рэалій. Такое рашэнне азначае, што мясцовыя чыноўнікі не ў стане самастойна правесці дыягностыку сацыяльных праблем і запланаваць дзеянні. Альбо што яны лічаць, што больш важныя тэхнічныя веды па стварэнні дакументаў, а не рэальнае веданне праблем і патрэб жыхароў. Фірма, якая атрымлівае заказ на стварэнне такога дакумента, звычайна з'яўляецца на некалькі дзён ці тыдняў у мясцовасці, пра якую яна піша. Часта яна просіць запоўніць нейкую дыягнастычную анкету, збірае крыху інфармацыі аб статыстычных дадзеных, дадае некалькі сказаў наконт геаграфічнага размяшчэння мясцовасці і ўсё. Асобы, якія прымаюць рашэнні, па нейкай незразумелай прычыне лічаць, што хтосьці, хто на хвілінку завітаў у мясцовасць, можа ведаць пра яе больш за яе жыхароў. Не трэба дадаваць, што такі дакумент мае вельмі агульны характар і пасуе, у прынцыпе, любому населенаму пункту, яго не кансуль-

туюць з жыхарамі і ён не кажа нічога асаблівага аб прапанаваных дзеяннях. Вядомыя выпадкі, калі адзін і той жа дакумент прадаецца розным населеным пунктам, і ў ім змяняецца толькі назва мясцовасці на першай старонцы дакумента. Здараліся выпадкі, калі пры капіраванні дакумента забывалі змяніць геаграфічнае апісанне лакалізацыі мясцовасці, і аказвалася, што дакумент падкрэслівае прывабныя турыстычныя бакі плавання на байдарках, але ў населеным пункце не цячэ ніякая рэчка.

Адсутнасць веры ва ўласныя веды і арыентацыю ў лакальных рэаліях настолькі вялікія, што стварэнне стратэгіі заказваюць у таго, хто зусім не арыентуецца ў мясцовай спецыфіцы.

**3.** Здараецца, што стваральнікі стратэгічных дакументаў не кансультуюцца з жыхарамі. Яны пішуцца ў цішыні кабінетаў, пры выключным удзеле кіраўніцтва. Бачны боязь уладаў у адносінах да любой ацэнкі з боку жыхароў, бо так часта ўспрымаюць кансультацыі, боязь сфармуляваных грамадствам чаканняў ад уладаў. Здараецца і так, што праводзяцца нават буйныя кансультацыі, але іх вынікі не ўлічваюцца. Такім чынам, марнуецца энтузіязм грамадзян, што можа ў будучыні прывесці да іх адмовы ад удзелу ў падобнага кшталту падзеях.

**4.** Частая памылка — падключэнне да працы ў групе людзей, якія ствараюць стратэгію на грамадскіх пачатках, і невыкарыстоўванне іх кампетэнтнасці. Вядомыя выпадкі, калі амаль гатовы стратэгічны дакумент напрыканцы працы над ім змяняўся кіраўніцтвам, якое не прымала раней удзелу ў працы над стратэгіяй. У такой сітуацыі мы маем справу з грэбаваннем шматмесячнай працай калектыву і зменамі з-за часовага палітычнага інтарэсу.

**5.** Часты прыклад тактычнай памылкі — слабая легітымнасць групы, што працуе над стратэгіяй. Бывае, што такая група неаўтаномная і падпарадкоўваецца кіраўніцтву. У сувязі з гэтым кожны створаны ў стратэгіі запіс павінен кансультавацца з начальствам. Здараецца і так, што група, якая працуе над стратэгіяй, недаацэньваецца кіраўніцтвам. Людзей, якія яго ствараюць, не хваляць і не дзякуюць ім за іх працу. Сябры групы недаацэньваюцца грамадствам. Гэта можа прывесці да прыпынення працы над стратэгіяй з-за адсутнасці энтузіязму ці расчаравання сяброў групы.

**6.** Іншы прыклад цяжкасцей падчас з’яўлення стратэгіі — адсутнасць актыўнасці пры запланаваных працах з боку самых зацікаўленых.

Па розных прычынах няўрадавыя арганізацыі, жыхары, лакальныя прадпрымальнікі ці самі чыноўнікі не хочуць удзельнічаць ні ў стварэнні дакументаў, ні ў іх кансультацыі. Гэта можа прывесці да з'яўлення проста непатрэбнага дакумента, цалкам адарванага ад рэальнасці, з бессэнсоўнымі рашэннямі.

**7.** Асноўны плюс стварэння стратэгіі — актывізацыя як мага большай колькасці людзей і груп для яе пабудовы. Калі жыхары дадзенай мясцовасці зацікаўлены ўдзелам у стратэгічных працах, то ёсць шанец, што запланаваныя дзеянні будуць адпавядаць сапраўдным грамадскім спадзяванням. Не менш важна і тое, што без удзелу саміх зацікаўленых складана весці эфектыўныя дзеянні. Калі жыхары прымуць удзел у стварэнні стратэгіі, то вельмі верагодна, што яны будуць удзельнічаць і ў рэалізацыі дзеянняў. Іншы плюс супрацоўніцтва жыхароў і суаўтарства стратэгіі — адсутнасць байкотаў у адносінах да запланаваных у стратэгіі ідэй. Важныя і тыя каштоўнасці, што ўзнікаюць падчас партыцыпацыйнага стварэння стратэгічных дакументаў. А менавіта дзякуючы супрацоўніцтву розных асяродкаў — чыноўнікаў, грамадзян, няўрадавых арганізацый — ёсць шанец на ўзаемнае знаёмства, пераадоленне перашкод з-за непаразуменняў ці адсутнасці даверу. Так ствараецца надзейная падстава будучых плённых сумесных дзеянняў, што дасканала бачна на прыкладзе Партнёрства духу гор (*Partnerstwo Ducha Gór*) і створанай імі Лакальнай стратэгіі развіцця: http://konkursy.duchgor.org/tinymce/plugins/filemanager/files/Projekt_LSR_calosc.pdf (асабліва цікавы раздзел 2, дзе апісваецца партыцыпацыйнасць працэсу).

In the publication „22 steps for the ensuring equal possibilities for persons with disabilities in local communities" we instruct on how to create planning documents that include both as large a group of participants as possible who are directly involved in the strategy, and experts and civil servants responsible for its implementation, giving readers a ready-to-use tool. We outline the project in relation to the ratification of the UN Convention on the Rights of Persons with Disabilities, the document itself and the reality in Poland. The brochure has been prepared by experts from the TUS Foundation - Małgorzata Peretiatkowicz-Czyż and Piotr Todys.

The brochure contains a tool customized for the reality in Belarus, 22 steps divided into 6 action stages.

### I. Initiating work

We begin the stage with making a decision and committing to create or update a strategy, discuss the participation of the process, first and foremost from the point of carrying out public consultations. We continue through creating a team, dividing tasks and roles, finish off with cooperation with decision makers.

### II. Strategic planning

We show how to conduct a diagnosis identifying social problems (including those connected with disabilities), how to group and name problems, prioritize them and choose those to be solved. Next, we proceed to formulating both the main and specific goals, mapping resources and planning results, with indicators of their completion.

### III. Working on an action plan

This stage concerns planning action, creating programs and cost estimates.

### IV. Planning evaluation and revision

Here we explain how to plan checking procedures - monitoring, evaluating and ultimately revising assumptions.

## V. Verification

Verification should be understood in terms of consultations and analyzing the accuracy of the strategy, also its formal side.

## VI. Approval and implementation

The final stage of the process, in which local authorities approve the document and begin its implementation.

In the publication, we provide information on what you need to have to begin the process. We in detail describe select methods and techniques. Towards the end, we reflect on the pilot project carried out in Poland, referring to examples of successes and failures in planning and executing action for people with disabilities.

Даведачнае выданне

# 22 крокі да стратэгіі забеспячэння роўных магчымасцяў для людзей з інваліднасцю ў мясцовых супольнасцях

Адказны за выпуск С.Я. Драздоўскі

Падпісана да друку 25.10.2016. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 8,0. Ул.-выд. арк. 5,0.
Тираж 100 экз. Заказ № 10412.

